–*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
**12**
САКАВІКА
1993 г.

№ 11(3681)

КОШТ
3 рублі





Ніхто не называў Андрэя Бандарэнку чалавекам года. А можна было б... Імя гродзенскага кампазітара паводле нашых леташніх публікацый сталася досыць папулярным. У сваім родным горадзе А.Бандарэнку ўдалося ажыццявіць мару мастацкай інтэлігенцыі: арганізаваць калектыў кшталту колішніх, распаўсюджаных на беларускіх землях, прыдворных капэл — творчага сімбіёзу хору ды аркестра. Гродзенская капэла, якую ўзначаліў А.Бандарэнка, дэбютавала ў маі 92-га. Гожае месца ў яе рэпертуары занялі новыя харавыя ды інструментальныя творы мастацкага кіраўніка. А яшчэ А.Бандарэнка зрабіў першае, пакуль адзінае і цалкам пераканаўчае пералажэнне гімна-малітвы «Магутны Божа» для хору і аркестра. Асаблівую ж вядомасць імя кампазітара набыло пасля прэм'еры ў снежні ягонай оперы «Князь Наваградскі». З уражаннямі ад новага спектакля ДАВТа знаёмцеся на старонках 10 — 11.

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

Як вызначыць нерв часу, што вылучыць за асноўнае ў калатнечы будняў? Чарговую хвалю павышэння цэн? «Крутыя» разборкі ў маскоўскім Крамлі, дзе на з'ездзе народных дэпутатаў прэзідэнту Расіі даводзіцца ой як несалодка? Актывізацыю адэптаў «сацыялістычнага выбару і камуністычнай перспектывы»? З'яўленне ў падземных пераходах бабулек, якія гандлююць пралескамі?

А можа, лепш прыслухацца да мудрай высновы, што ніколі не бывае так добра ці так кепска, як нам здаецца?

## «СВЯТА» ТЫДНЯ

Калі мужчыны без асаблівых шкадаванняў змірыліся са стратай Дня Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, то жанчыны праявілі ўласцівы ім кансерватызм (чытай—вернасць традыцыям) і свайго свята не саступілі. 8 сакавіка было адзначана як звычайна, хіба што больш сціпла—з папраўкай на час.

Праўда, не абышлося без экстравагантных учынкаў. Некаторыя прадстаўніцы прыўкраснай палавіны чалавецтва сабраліся ля Дома афіцэраў (усё-ткі любяць жанчыны вайскоўцаў) і пад сцягамі краіны вечна чырвоных гваздзікоў пракрочылі да помніка Леніну.

А мінская бізнес-эліта з нагоды 8 сакавіка наладзіла сапраўдны баль у Мармуровай зале Палаца для дзяцей і моладзі. І хоць велікасцвецкі раут на 300 запрошаных наўрад ці адпавядае прызначэнню будынка на Камсамольскім возеры, але ўчынак дзелавых людзей па-джэнтльменску ўсё ж больш прывабны, чым скліканне «баявых сябровак» на мітынг. Зрэшты, калі ёсць грошы, на каго ж іх трапіць, як не на жанчын.

## НАВІНЫ ТЫДНЯ

З вясной трэба чакаць і актывізацыі палітычнага жыцця. 13 сакавіка адбудзецца агульнарэспубліканская канферэнцыя Беларускай сялянскай партыі. 23 сакавіка склікаецца нечарговая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі. Як стала вядома, у канцы красавіка мяркуецца правесці XXXII з'езд КПБ.

Вызначыў дату правядзення свайго форуму і Беларускі народны фронт—15—16 мая. На разгляд з'езда выносяцца змены ў праграме і статуце руху, а таксама канцэпцыя эканамічнай рэформы Рэспублікі Беларусь.

## ЧАЛАВЕК ТЫДНЯ

У аўторак пасля хваробы прыступіў да працы Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч. І, трэба сказаць, надзвычай энергічна—адразу правёў прэс-канферэнцыю. У час кантакту з журналістамі прэм'ер паабяцаў неўзабаве выступіць з праграмнай заявай наконт новага міждзяржаўнага эканамічнага саюза. В. Кебіч прызнаў, што сутнасць ягоных прапаноў з'яўляецца ў нейкім сэнсе вяртаннем да практыкі таталітарных часоў, калі, як мы памятаем, адносіны паміж рэспублікамі СССР вельмі жорстка рэгламентаваліся. Можна меркаваць, што заява гэтая будзе абстаўлена не менш эфектна, чым выступленне з муроў Мірскага замка. Засталося, праўда, нявысветленым, ці палічыць неабходным кіраўнік урада ўзгадніць сваю акцыю (хутчэй знешнепалітычную, чым проста эканамічную) з парламентам рэспублікі.

Рэзка адрэагаваў В. Кебіч на паведамленні некаторых сродкаў масавай інфармацыі, якія «сцвярджаюць, што мае сваякі замешаны ў непрыгожых справах, у атрыманні хабару і г. д.». Ён катэгарычна абвергнуў «падобныя выдумкі», расцаніў іх як правакацыю, «спробу скампраметаваць маю сям'ю, мяне, кінуць цень на ўрад Беларусі» і звярнуўся ў пракуратуру з просьбай правесці праверку згаданых публікацый.

Што ж, «жонка цэзара» павінна быць вышэй за падазрэнні. Але, у такім разе, ці варта ёй займацца камерцыяй?

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Пачала лётаць у паветры... і вар'яцкая ідэя пра вяртанне камунізму —таго самага, які знішчыў унутраным тэрорам 50—60 мільёнаў нашых суайчыннікаў, і без ліку, без розуму і без шкадавання паклаў 80 мільёнаў на германскай вайне, дзесяць за аднаго. Але загінуўшыя ўжо свайго слова не скажуць, а жывыя часам губляюць разважлівасць—і бачаць будучых «выратавальнікаў Расіі» ў чынах той самай партыі, якая не раскаялася. Ды калі б камунізм, не дай Бог, вярнуўся — ён толькі расцягне нашы пакуты яшчэ на лішнія гады, падавіць усё жывое, а сам усё роўна праз некальні год у канвульсіях дамрэ.Але адразу верне ён нам: зноўку прымус да ўсеагульнай хлусні, а найперш— ГУЛАГ».

Аляксандр САЛЖАНІЦЫН.

(«Комсомольская правда», 10 сакавіка).

## ФІНАНСЫ ТЫДНЯ

Старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч паведаміў, што па выніках мінулага года наш доўг дзяржавам былога СССР перавышае 50 млрд. рублёў (як вядома, міждзяржаўныя разлікі вядуцца на аснове двухбаковага клірынгу). Становішча ўскладняецца яшчэ і тым, што Расія ва ультыматыўнай форме вылучыла патрабаванне заключыць міжурадавыя і міжбанкаўскія пагадненні аб пагашэнні запазычанасці. Вяртаць даўгі мы мусім у расійскіх рублях у пераліку на доларавы эквівалент.

Галоўны банкір рэспублікі прапанаваў адмовіцца ад чарговага расійскага тэхнічнага крэдыту на суму 150 млрд. рублёў.

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Чытачы даслалі нам нумар «Віцебскага рабочага», на старонках якога галоўны рэдактар газеты Уладзімір Скапа крыўдуе на «ЛіМ» —з той прычыны, што ў адной з падборак «Кола Дзён» паведамленне пра збор сродкаў на падтрымку маўзалея Леніна мы змясцілі пад рубрыкай «Кур'ёз тыдня». Думаецца, крыўды гэтыя дарэмныя. Безумоўна, рэдакцыя беларускай газеты мае права збіраць грошы хоць на выпрамленне Пізанскай вежы, але ж кур'ёз застаецца кур'ёзам—паводле тлумачальнага слоўніка, «недарэчным выпадкам, смешным здарэннем».

Напрыклад, як інакш назваць тое, калі разам збіраюцца сорак тры чалавекі—пераважна сталага веку, сярод якіх акадэмікі і дактары навук М. Дарожкін, Д. Жмуроўскі, А. Залескі, У. Няфёд, — і на поўным сур'ёзе пішуць у «Звязду» ліст з такімі словамі:

«Юбілей БНР—гэта свята прыхільнікаў і апалагетаў капіталізму.

Патрыёты Савецкай Беларусі не могуць адзначаць юбілеі сацыяльнага прыгнёту працоўных, юбілеі капіталістычнага ладу, не могуць ушаноўваць юбілеі залежнасці ад іншаземных акупантаў».

## ПРЫСУД ТЫДНЯ

11 сакавіка народны суд Цэнтральнага раёна Мінска павінен быў разглядаць справу «аб абароне гонару і годнасці» па іску старшыні камісіі ВС дэпутата М. Грыба да незалежнай газеты «Свабода» і яе аўтара—журналіста А. Старыкевіча. Аднак слуханне справы не адбылося—з прычыны адсутнасці Старыкевіча, які вымушаны быў ад'ехаць у тэрміновую камандзіроўку (пра што напярэдадні пісьмова паведаміў суду і прасіў перанесці разгляд справы на тры-чатыры дні пазней). Але суддзя Т. Злобіч палічыла камандзіроўку няўважлівай прычынай і расцаніла гэта як «проявление грубого неуважения к суду», за што вынесла рашэнне «подвергнуть А. Старикевича административному аресту сроком на 15 суток».

Нагадаем, што і прэм'ер-міністр В. Кебіч мае прэтэнзіі да вядомых публікацый А. Старыкевіча ў газеце «Коммерсант-дейли».

# Нешта падобнае мы назіралі ў верасні 1991-га

### Сачыненне на вясновую тэму

Прыйшла вясна, прыгрэла сонейка, весела пабеглі ўздоўж дарог першыя ручайкі, ажылі, набрынялі почкі на дрэвах і—павылазілі з акопаў камуністы.

Павылазілі і разгубіліся. Ці то занадта доўгай была для іх зіма, ці то вясну абвясціў Вярхоўны Савет вельмі ж знянацку. Спадзяваліся ж яшчэ пазмагацца за свае правы, пахадзіць у ролі незаслужана пакрыўджаных, а тут, на табе — даводзіцца вызначацца ў адносінах да Марксавага вучэння, якое «всесильно, потому что оно верно». Вучэнне гэтае, як вядома, не любіць буржуяў. Таму і прыбег замольваць свае грахі на пленум ЦК і Кантрольнай камісіі КПБ 6 сакавіка дзеяч прыватнага бізнесу М. Місуна, больш вядомы ў партыйных колах як першы сакратар Мінскага ГК КПБ. «Былы» — папраўяць мяне чытачы. Ды не, былымі яны ўжо сябе не лічаць. Вось і ў першага сакратара Магілёўскага абкома В. Папова гэта слова пачало выклікаць устойлівую ідыёсінкразію. «Быў і пакуль што застаюся, камуністы мяне ад гэтых абавязкаў не вызвалялі», — кажа ён карэспандэнту «Магілёўскай праўды». А вось какетнічаць наконт «пакуль што» не трэба, таварыш Папоў. І не трэба, калі ласка, даводзіць людзям, што «ні Папоў, ні, я думаю, Малафееў і Камай на партыйныя партфелі не прэтэндуюць» і што «можна быць проста камуністам». Бо калі і не прэтэндуюць, дык толькі таму, што, як вы самі прызналіся, «хто быў у «небытии», а хто займаўся працай, хай сабе і непрыкметнай для многіх, — вырашаць самі камуністы». Хаця на ўсялякі выпадак тав. Папоў заўважае, што асабіста ён «вытлумачваў свае пазіцыі» ў той час, калі «партыя знаходзілася фактычна пад забаронай».

Дальбог, у параўнанні з вамі, тав. Папоў, ваш партайгеносе В. Чыкін выглядае куды больш сімпатычна, ён не мімікрываў і не выракаўся. Але ж «пакуль што сакратару» хапіла досціпу і яго неўпрыкмет пляснуць бруднай анучай па твары: на пытанне аб членстве ў ПКБ В. Папоў адказвае: «Я глыбока паважаю камуністаў гэтай партыі.., але я член КПБ, якую ніхто не распускаў і статут якой не прадугледжвае двайнога членства». І Бог з ім, што гэта неіснуючы дэ-юрэ статут: не прадугледжвае — і ўсё тут.

Сітуацыя гэтая вельмі нагадвае тую, што з'явілася ў палітычным жыцці Расіі ў верасні 1991-га года. Камуністаў нечакана забаранілі, і шматлікія партыі адразу апынуліся без мэты: змагацца ж няма з кім. Вось тады яны і пачалі разбірацца, хто з іх больш дэмакратычны ды больш галоўны.

Зараз на Беларусі дзве кампартыі, і высвятленне адносін паміж імі непазбежна. Магчыма, што гэтае становішча выра-

# Жывуць у Кохтла-Ярве беларусы...

**Чацвёртага сакавіка споўнілася чатыры гады з дня ўтварэння ў Кохтла-Ярве Беларуска-эстонскага згуртавання — БЭЗ. Наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй БЭЗа Уладзімірам ДЗЕХЦЕРУКОМ.**

**— Уладзімір, давайце вернемся на чатыры гады назад. Як нарадзіўся БЭЗ?**

— У лютым 1989 года я разам з нашымі землякамі — вядомай у Эстоніі мастачкай Маргарытай Астравумавай і яе сяброўкай Зінаідай Клыгай —трапіў на канцэрт мастацкіх калектываў з Беларусі, а таксама на сустрэчу з Рыгорам Барадуліным у Таліне. І калі мы вярталіся адтуль у Кохтла-Ярве, то пад уражаннем пабачанага ўсчалі размову, якую і можна лічыць пачаткам стварэння БЭЗа. Мы ведалі, што ў Кохтла-Ярве жыве каля трох з паловай тысяч беларусаў. Але кожны дзень сустракаючыся на вуліцы і вітаючыся на рускай мове, мы нават не ўсведамлялі, што часта беларус вітаецца з беларусам.

Неўзабаве пасля вяртання з Таліна я звярнуўся да землякоў з артыкулам у мясцовай газеце. Дзесяць чалавек адгукнуліся, прыйшлі на сустрэчу. З таго дня наш БЭЗ і пачаў сваю дзейнасць на тэрыторыі Эстоніі.

**— За чатыры гады ў свеце адбыліся вялікія змены. Як адбіліся яны на існаванні і працы БЭЗа?**

— Спачатку, як я казаў, БЭЗ складаўся з дзесяці чалавек. Потым мы правялі шэраг розных мерапрыемстваў, чым звярнулі на сябе ўвагу. Натуральна, да нас пачалі прыходзіць людзі, удзельнічалі ў нашых вечарынах, сходах ды іншых імпрэзах. Колькасць сяброў БЭЗа ўзрасла да 75-ці чалавек.

Шмат хто бачыў у нашым згуртаванні пасрэдніка паміж імі і пакінутай радзімай. Людзі спадзяваліся, што Беларусь нейкім чынам будзе дапамагаць сваім землякам за мяжой. Але Бацькаўшчына... не ўспамінала пра нас, і БЭЗ скараціўся недзе ўдвая. Зараз у нас засталіся тыя, для каго праца ў БЭЗе—свята душы, тая адтуліна, праз якую яны могуць датыкнуцца да далёкай радзімы.

**— Удакладніце, калі ласка, які сэнс вы ўкладаеце ў словы дапамога з боку Беларусі: грашовая дапамога, палітычная, культурныя і мастацкія «дэсанты» ці што іншае?**

— За ўвесь час ад Беларусі мы не атрымалі ні капейкі. Нам пакуль што дапамагае Міністэрства культуры Эстоніі. І калі я кажу «дапамога», то ў першую чаргу маю на ўвазе не грошы, а элементарную цікавасць да нас з боку афіцыйных органаў Беларусі. Каб хоць зрэдку прыязджалі да нас з Беларусі творчыя калектывы, мастакі, паэты, пісьменнікі, адразу па-другому паглядзелі б на Бацькаўшчыну беларусы нашага рэгіёна. А іх тут, нагадаю, тры з паловай тысячы.

Калі да нас прыязджаў калектыў мастацкай самадзейнасці «Юнацтва» з Баранавіч, іх выступленні ў гарадах Азеры і Йыхві прайшлі пры перапоўненай зале. Канцэрт быў выдатны. Мы, са свайго боку, наладзілі для ўдзельнікаў «Юнацтва» экскурсію ў Талін. Прымалі мы і Алеся Камоцкага. Паслухаць яго прыйшлі ў асноўным аматарам бардаўскай песні, але цікавасць таксама была вельмі вялікай. А яшчэ ў нас у гасцях са сваёй выставай былі мастакі-беларусы з Вільні, Рыгі, Санкт-Пецярбурга. Калі да нас і надалей будуць прыязджаць такія цікавыя людзі, поспех ім тут, у Эстоніі, гарантаваны.

Да таго ж, такія прыезды выконваюць яшчэ адну, надзвычай важную ролю: яны аб'ядноўваюць беларусаў Эстоніі.

**— У гэты складаны час цікавасць да Беларусі з боку яе дзяцей расце, ці, наадварот, людзі засяроджваюцца на сваіх уласных, бытавых праблемах?**

— Цікавасць да беларушчыны адраджаецца. Пасля развалу імперыі людзі пачалі шукаць трывалую глебу пад нагамі. І тыя, што раней лічылі сябе «русскоязычным населением», сёння ўспамінаюць, што яны беларусы, украінцы, ці яшчэ хто. Таму зноў скажу, што ў гэтым працэсе надзвычай важнай была б увага і падтрымка з боку нашай Бацькаўшчыны.

**— Уладзімір, як вы можаце растлумачыць той факт, што беларускія нацыянальна-адраджэнскія працэсы ў эстонскай правінцыі, да якой безумоўна адносіцца Кохтла-Ярве, выражаны мацней, чым у сталіцы ды іншых буйных гарадах?**

— Мы прызвычаіліся да думкі, што любы рух павінен пачынацца са сталіцы. Але чаму? Усё залежыць ад людзей. Я лічу, што ў нас падабраліся выдатныя людзі, якія хочуць рухаць адраджэнне беларушчыны і беларускасці. Ім гэта цікава, яны адчуваюць у гэтым патрэбу.

У Таліне ж, мне здаецца, з самага пачатку ўсё пайшло не так, як трэба. Там амаль адначасова стварыліся тры беларускія арганізацыі. Пачаліся спрэчкі, хто з іх галоўны. Гэта прывяло да разладу, людзі адхіснуліся ад іх. Спадзяюся ўсё ж, што паміж нашымі суполкамі ўсталююцца сяброўскія адносіны.

**— Вернемся да праблем беларусаў Кохтла-Ярве. Раскажыце, калі ласка, аб планах БЭЗа на будучыню.**

— Неўзабаве ў нашым горадзе разгорнуць сваю экспазіцыю майстры народных промыслаў Беларусі. Рыхтуемся да 75-годдзя БНР, удакладняем сцэнарый свята. Ёсць надзея стварыць сваю бібліятэку. Ёсць надзея і на тое, што атрымаем фанатэку ад Беларускага радыё, што дасць магчымасць распачаць перадачы для беларусаў на радыё ў Кохтла-Ярве.

Улетку, згодна нашым планам, правядзём веласіпедную вандроўку па Эстоніі, якую мяркуем ажыццявіць разам з «Выбранецкімі шыхтамі». У часе вандроўкі на прыпынках думаем даваць невялічкія канцэрты для эстонцаў, знаёміць іх з культурай і традыцыямі Беларусі.

З задавальненнем разгледзім і прымем любыя прапановы аб супрацоўніцтве з Беларуссю.

**— Усяго найлепшага вам і ўсім нашым суайчыннікам у Эстоніі.**

**Гутарыў Марат БУШЭНКА.**

шыцца мірна: адна з іх увальецца ў другую. Такое меркаванне можна выказаць і зыходзячы з вынікаў апошняга пленума КПБ, на якім большасцю галасоў было прынята рашэнне аб тым, што партыя павінна быць адзінай. Але ж шлях да адзінства можа быць розны. У тым ліку і такі, якім ішло «присоединение» рэспублік да колішняга Саюза. Частка членаў ПКБ разумее гэта і настроена супраць таго, каб вяртацца пад крыло адсядзеўшых у акопах, не, нават ва ўтульных камандзірскіх бліндажах, камуністычных босаў КПБ. Мне здаецца, што і таму ж Чыкіну не даспадобы сітуацыя, у якой прыйдзецца аддаваць здабытыя ў баях з «дэмакратамі» перамогі на карысць увасхрэслых палітычных дзеячаў, што касяком пацягнуліся зараз з гістарычнага нябыту да сваіх крэслаў...

А пакуль што — вясна! Цёплае сонейка прыгравае зямлю і хутка можна будзе выкопваць схаваныя «да лепшых часоў» партыйныя білеты. Зрэшты, самыя спрытныя і беспрынцыпныя паспелі ўжо гэта зрабіць. Думаеце, каго я ўбачыў ля будынка палітасветы, дзе праходзіла засакрэчаная партсходка? Нізавошта не здагадаецеся! Анатоля Кастэнку, былога генерал-палкоўніка, былога камандуючага Беларускай ваеннай акругі, былога намесніка міністра абароны Беларусі, былога... Не-не, зусім не былога члена ЦК, а самага сапраўднага. Гэта ён, пэўна, для дурняў у жніўні 1991 года змясціў у газеце «Во славу Родины» сваю заяву аб выхадзе з КПСС. Ну, хацелася чалавеку стаць ваенным міністрам незалежнай Беларусі, што ж тут зробіш! Не атрымалася — зрабілі намеснікам, але прызначылі галоўным над усёй ваеннай маёмасцю. Ён расцаніў гэта як магчымасць матэрыяльна кампенсаваць сваю маральную страту. Штосьці, мабыць, атрымалася, калі верыць газетам, але звольнілі яго ўсё ж раней, чым ён паспеў даць справаздачу, куды падзелася значная частка маёмасці беларускай арміі, як патрабавалі гэта дэпутаты ад апазіцыі. Флірт з дэмакратамі не атрымаўся. Вось і прыйшлося даставаць пасведчанне члена ЦК, ад якога публічна адракаўся паўтара года назад. На шчасце Анатоля Яўгенавіча, «Во славу Родины», мабыць, ніхто не чытае. Таму як ні чакаў я ля ўвахода, як ні спадзяваўся, што звернуць назад «вераадступніка», так і не дачакаўся. Відаць, усё гэтак жа працаваў экс-неакамуніст Кастэнка ў ЦК: галасаваў, прымаў рашэнні...

Карацей, прыйшла вясна, прыгрэла сонейка...

**Яўген ЛЮТЫ.**

# Як знішчыць «спрута»?

Дамоўленасць аб сустрэчы міністраў унутраных спраў краін СНД з'явілася яшчэ падчас студзеньскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў у Мінску.

І вось яна адбылася. Пасля таго, як міністры раз'ехаліся па сваіх краінах, у МУС Беларусі прайшла прэс-канферэнцыя. Міністр унутраных спраў У. Ягораў праінфармаваў журналістаў аб тым, што на сустрэчы ўсебакова абмяркоўвалася праграма па сумеснай барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ў краінах СНД. Падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве ў гэтай галіне. Але ў сілу яно ўступіць толькі пасля таго, як будзе ратыфікавана Вярхоўнымі Саветамі краін-удзельніц. Тым больш, што шмат пытанняў патрабуюць удакладнення і больш дэталёвага вызначэння.

Усё гэта будзе зроблена ў бліжэйшы час, бо ўдзельнікі сустрэчы перакананы ў тым, што паасобку з мафіяй змагацца немагчыма.

Як прыемную падаў У. Ягораў звестку аб тым, што аператыўная абстаноўка на Беларусі менш складаная, чым у Расіі, Казахстане і іншых краінах СНД.

Яно так, але ж не трэба забываць, што калі мы і сапраўды лепшыя, то толькі сярод горшых.

**М. Б.**

# Змены для абітурыентаў. Але не карэнныя

Загадам міністра адукацыі Беларусі зацверджаны «Тыпавыя правілы прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 1993 год».

Зараз усе ВНУ рэспублікі абавязаны за тры месяцы да пачатку прыёмнай кампаніі распрацаваць свае правілы. Але "творчая свабода" кіраўніцтва інстытутаў і універсітэтаў абмежавана. Так, напрыклад, упершыню ўсе ВНУ абавязаны ўключыць у конкурсную праграму здачу экзаменаў па беларускай мове і літаратуры. Здавалася б, можна ўздыхнуць з палёгкай: ну, у рэшце рэшт мы становімся падобнымі на дзяржаву. Але ж без выключэнняў з правіла не абышлося. Прыёмныя камісіі маюць права вызначаць парадак здачы ўступных экзаменаў для асоб, якія не былі атэставаны (гэта значыць, не маюць адзнакі ў дакуменце аб сярэдняй адукацыі) па беларускай мове.

Безумоўна, Міністэрства адукацыі прыняло дэмакратычнае рашэнне. Але як падумаеш пра пакінутую шчыліну і пра тое, як і кім яна можа быць скарыстана, дык, здаецца, лепш бы мы былі менеј «дэмакратычнымі».

**Я. Л.**

# Дар мастака

У Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі закрылася персанальная выстава Уладзіміра Стальмашонка. Шэраг твораў, прадстаўленых на ёй (у тым ліку і карціну «Слава Беларусі», фотаадлюстраван якой быў на першай паласе «ЛіМа» ў № 9), аўтар падарыў Вярхоўнаму Савету Беларусі. Дар ад імя ВС прыняў старшыня парламенцкай камісіі па культуры Н. Гілевіч.

**Наш кар.**

# Каб мова развівалася

У Міністэрстве інфармацыі адбылася нарада з удзелам прадстаўнікоў АН Беларусі, Міністэрстваў адукацыі, культуры, абароны, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі, Беларуская гуманітарная адукацыйна-культурнага цэнтра, а таксама шэрагу выдавецтваў і выдавецкіх арганізацый.

Былі разгледжаны пытанні стварэння і выдання тэрміналагічных слоўнікаў, узгодненых намаганні розных ведамстваў і арганізацый дзеля паспяховага выканання "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь».

# «МЫ—АПОШНІЯ. ЗА НАМІ ЧАРГА...»



## Наш карэспандэнт гутарыць з Васілём БЫКАВЫМ

**— Спадар Быкаў, як бы вы сёння, калі забстрагавацца ад «агульнага песімізму», што абумоўлены эканамічным крызісам і да т. п., — як бы вы ацанілі грамадскую вартасць пражытых Беларуссю год-паўтара: гэта было САПРАЎДНАЕ набліжэнне да суверэннасці, з непазбежнымі на гэтым шляху выпрабаваннямі, ці, па большасці, — «гульня ў словы» на фоне выпрабаванняў?**

— Як паказаў час, гэта была чысцейшай вады імітацыя, палітычны фарс, які ні на крок не наблізілі дзяржаву да суверэннасці. Мабыць, для таго набліжэння патрэбны тытанічныя высілкі грамадства, а найперш ягоных дзяржаўных структураў, дзейнасць якіх на справе патанула ў бюракратычнай стыхіі слоў, спрэчак, пустых непатрэбных законаў, што ніхто і не думаеператвараць у жыццё. Быў страчаны час. Наша кіруючая наменклатура на шмат месяцаў затаілася ў чаканні — спярша восені і расейскага з'езда (народных дэпутатаў), які меўся рэанімаваць імперыю, пасля — вырашэння найважнейшага для яе пытання аб КПБ. Першая яе доўгачаканка мала што вырашыла, затое другая вызначыла ўсё. Далей можна было не спяшацца; элементарная логіка падзей, атрымаўшы такі значны палітычны імпульс, сама па сабе здольна прывесці да мэты. Тым болей, што дарожка знаёмая, добра пратаптаная за семдзесят год камуністычнага панавання, і вяртацца па ёй на ўлюбёныя камуністычныя абсягі — адно задавальненне. Для партыйцаў, наменклатуры ды і для людзей, згаладнелых без таннай каўбасы і напалоханых «жахлівым» беларускамоўем.

**— Чаму, на вашу думку, камуністычная традыцыя так трывала—як нідзе, бадай, на абшарах былога Саюза ССР — усталявалася менавіта ў Беларусі, захаваўшы выключную здольнасць да самаўзнаўлення?**

— Тут уся справа ў недастатковым узроўні нацыянальнай самасвядомасці беларускага грамадства.

У той час, як у іншых рэспубліках былога СССР галоўнай палітычнай сілай у справе самавызначэння выступілі найперш нацыянальныя сілы, у Беларусі такія сілы паявіліся запозненa, ужо ў ходзе суверэнізацыі, да якой па сутнасці яны не былі гатовы. У нас адсутнічаў нацыянальнасвядомы авангард. БНФ утварыўся толькі ў канцы 1988 года, і наменклатура адразу ўцягнула яго ў дробязныя сваркі накшт ягоных жа мэтаў, палітычнага і асабістага іміджу яго лідэраў, усяляк іх дыскрэдытуючы. Шмат часу таксама адабрала бясплённая дыскусія аб мове. Яшчэ і дагэтуль нацыянальная дэмакратыя траціць пэўныя высілкі на доказ аксіёматычных рэчаў накшталт важнасці мовы ў нацыянальнай дзяржаве і шкодзе дзяржаўнага двухмоўя. Герб і сцяг краіны былі неяк прыняты, але цяпер грамадства вымушана быць уцягненым у дыскусію аб неабходнасці новага гімна... Ствараецца ўражанне, што антыдэмакратычныя сілы сістэматычна выкідваюць адмысловыя чырвоныя шматкі, каб махаць імі перад нацыянальнай свядомасцю беларусаў, у той час як самі за палітычнымі кулісамі распрацоўваюць дэталёвыя сцэнарыі накшталт рэанімацыі КПБ, што адбываецца раптам і з поўным поспехам. Цяпер дэмакратычная частка парламента цешыць сябе тым, што хоць КПБ і аднавілася, але без маёмасці, якая па-ранейшаму застаецца ў руках дзяржавы. Марная ўцеха! Ужо на наступнай сесіі Вярхоўнага Савета групоўка «Беларусь» прапануе ў парадак дня пытанне аб маёмасці, і спікер будзе змушаны паставіць пытанне на галасаванне. А які можа быць вынік таго галасавання, мы ўжо ведаем. Нечаканак тут не бывае.

Беларусь была і застаецца камуністычным фарпостам на заходніх рубяжах расейскай імперыі, і ў тым яе гістарычнае няшчасце.

**— Вы сказалі пра адсутнасць як след арганізаванага нацыянальна свядомага авангарда ў 1988 годзе. Ды мне здаецца, што нават тымі сіламі нацыянальнай інтэлігенцыі, якія меліся, калі б яны тады і заўсёдна падтрымалі Пазняка і справу Беларускага народнага фронту, —можна было дамагчыся нашмат болей ва ўсталяванні дэмакратычнай дзяржаўнасці і нацыянальнай волі ў сферы культуры. Аднак жа чаму, на вашу думку, належнай падтрымкі краёвай інтэлігенцыі Пазняк не атрымаў?**

— Уся справа ў тым, што ў таталітарным грамадстве не можа быць не толькі дэмакратычнай, але і колькі-небудзь незалежнай інтэлігенцыі (вядома, у яе агульнапрынятым разуменні). Частка грамадства, якая здабывала свой хлеб не фізічнай, а разумовай ці творчай працай, была цалкам на дзяржаўным утрыманні: пісьменнікі — праз спрэс дзяржаўныя выдавецтвы і выданні, мастакі — праз сістэму закупу дзяржавай іх твораў; вучоныя ды інжынерна-тэхнічныя кадры, акадэмічныя інстытуты — былі спрэс ангажаваны ВПК, дзе працавалі на ўзбраенне ці на ідэалагічнае забеспячэнне таталітарызму. Усе разам былі з'яднаны універсальнай камуністычнай ідэалогіяй праз членства ў КПСС і яе разгалінаваныя структуры. У гэтай сістэме ім жылося няблага, трэба было толькі заплюшчыць вочы на жыццё народа ды паслухмяна выконваць волю любімай парты. Для яшчэ болей татальнага ахопу існавала сістэма карных органаў, калі вялізная частка інтэлігенцыі (таксама як рабочага класа, сялянства) надзейна трапіла ў іхнія картатэкі ў якасці «добраахвотных памочнікаў». Вядома, не ўсе тыя «памочнікі» займаліся даносамі і правакацыямі, мабыць, былі і тыя, што не любілі свае «добраахвотнае» справы. Але ўжо ў сілу свайго далучэння да самага сакрэтнага, страшнага і таемнага яны былі надзейна пазбаўлены грамадзянскай волі і ні да якога Пазняка далучыцца не маглі і марыць. Адбываўся дзівосны па сваёй фантастычнасці працэс ператварэння грамадзян у камуністычных зомбі, які ў адносінах да нацыянальнай інтэлігенцыі шмат у чым скончыўся паспяхова. Страх як сродак не толькі самазахaвання, але і пэўнага дабрабыту вызначыў поўны сервілізм гэтае часткі нацыі, надзейнае службы таталітарнага рэжыму.

**—Але ў нашай савецкай краіне, здаецца, прайшла перабудова, пэўны час усталёўваліся галоснасць і плюралізм (хай і «зверху»), што даволі прачысцілі «каротканурсавыя» мазгі ўсяго грамадства, а пагатоў інтэлігенцыі. Апроч таго, ці не пяты год (ад тае восені 1988-га) гаворым пра Адраджэнне, і гаворым вельмі нават патрыятычныя, узнёслыя рэчы... Няўжо ўсё гэта, у сукупнасці ўзятае, ані не магло змяніць сервілісцкую псіхалогію інтэлігенцыі, не паспрыяла выпрацоўцы яе незалежнай, дэмакратычнай пазіцыі цяпер?**

— Цяпер, ва ўмовах камуністычнай рэстаўрацыі, я думаю, яшчэ болей абсурдна чакаць дэмакратычнай або нацыянальнай актывізацыі беларускай інтэлігенцыі. Найболей таленавітая і сумленная яе частка апынецца ў стане бязвер'я, зойме зручную пазіцыю маўклівай «унутранай эміграцыі», другая ж, што мае нязначныя творчыя здольнасці або толькі імітуе іх, з радасцю кінецца ў абдымкі да КПБ. Тым болей, што гэта апошняя вяртаецца з вымушаных вакацый, набраўшыся новае моцы і з зайздры ўласцівай ёй дзелавітасцю. Напэўна ж, яшчэ ў яе нямала прыхаваных у свой час грашовых сродкаў, якімі яна неяк падзеліцца і са сваімі добраахвотнымі памагатымі...

**— У сваіх развагах, бачу, вы схіляецеся да выказанай раней думкі наконт патрэбы змены пакаленняў — каб пазбавіцца камуністычнай ментальнасці. Біблейскі Майсей, дарэчы, меў наказ не прывесці ў зямлю продкаў ніводнага сведкі жыцця ў егіпецкай няволі...**

**Гэтаксама і шлях з камунізму, відаць, ідзе нейкімі этапамі; час ад часу з'яўляюцца людзі, што ўзыходзяць на грамадскую трыбуну і імкнуцца хоць трошкі перасунуць наперад свядомасць сучаснікаў. Досыць эфектыўную ролю ў справе разавага «ачалавечання» савецкай сістэмы адыграла пакаленне шасцідзесятнікаў, праз якое цяперашнія палітыкі пераступаюць... Вам, Васіль Уладзіміравіч, бачацца людзі, наступнікі шасцідзесятнікаў, хто ў межах нацыянальных дзяржаў можа ў бліжэйшым часе адыграць падобную «гуманізатарскую» ролю?**

— На маю думку, нявартa дакараць шасцідзесятнікаў, як гэта робяць некаторыя маскоўскія дэмакраты. Усё ж менавіта шасцідзесятнікі ў цяжкіх варунках таталітарнай сістэмы неяк уратавалі гонар найперш расейскай дэмакратыі. Цяпер, як вядома, тая дэмакратыя трапіла ў жахлівую крызу, апынулася на мяжы магчымасцяў уласнага існавання і невядома ці ўратуе ад дыскрэдытацыі ўласныя ідэі. Але ўсё ж у гісторыі дэмакратычнага руху застануцца светлыя імёны яе рыцараў, людзей перадавой гуманістычнай думкі, такіх, як Ю. Афанасьеў, А. Бонар, Ю. Каракін, наш зямляк А. Адамовіч ды некаторыя іншыя. Шкада — іх мала, але трэба спадзявацца, некалі будзе болей. У тым ліку і на Беларусі.

(Працяг на стар. 4).

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# Я малюся Госпаду

У мінулым годзе выйшаў у свет першы нумар часопіса «Хрысціянская думка». Гэтаму паспрыяла Беларуская Каталіцкая Грамада. З часопіса можна даведацца пра хрысціянскае жыццё католікаў (мінулае і сучаснае) на Беларусі, пра гісторыю рэлігійных святыняў, прачытаць жыццяпіс беларускіх каталіцкіх святароў і інш. Адным словам, часопіс вельмі патрэбны.

Вымусіў жа мяне напісаць ліст артыкул Алеся Жлуткі «Пан, Госпад, Спадар?..» Вядома, мне спрачацца з навукоўцам не прыстала, але я хачу выказаць сваю думку, адносна таго, як мы павінны звяртацца да Бога. Той, хто чытаў гэты артыкул, памятае: спадар Жлутка прыводзіць шэраг прыкладаў у падмацаванне таго, што мы, беларусы-католікі, павінны звяртацца да Бога словам «Пан». Мая душа, мой розум не могуць з гэтым пагадзіцца. І вось чаму.

Бог — гэта дух, тая святыня, тая сіла, якой мы ніколі не зможам дасягнуць. Чалавек ніколі не зможа паставіць сябе поруч з Богам, ніколі не зможа стаць такім, як Бог. Ён толькі павінен імкнуцца стаць падобным да Бога. Ён, Бог, вышэй і мацней над усім. І таму мы павінны да яго звяртацца такім словам, якое б адпавядала толькі яму і зразумела было б без кантэксту. Я лічу, што такім словам можа быць слова-зварот «Госпад». Яно заключае ў сабе ўсё: і моц, і сілу, і недасягальнасць, і зразумелае без кантэксту. І менавіта слова «Госпад» азначае гаспадар (корань адзін), зверхнік, а не слова «Пан», як гэта стараецца давесці нам Жлутка.

Як відаць, словам «Госпад» можна звярнуцца толькі да Бога, а вось «пан» падыходзіць да кожнага. Словам «пан» мы можам звярнуцца да рабочага ці інтэлігента, да старога ці маладога, да злодзея ці забойцы (прабачце, на лобе ў іх не напісана, хто яны).

Для палякаў слова-зварот «пан», магчыма, і прымальнае, але толькі не для беларусаў. Не трэба забывацца і на пэўны прамежак часу ў нашай гісторыі, калі беларусы добра-такі цярпелі пад панамі. І ў народа склаліся негатыўныя адносіны да паноў. Ну, хаця б узяць, да прыкладу, некалькі казак: «Паганы пан», «Панская гаворка», «Панская ласка», «Пану навука» і інш. Як бачым, сама назва шмат пра што гаворыць.

Прадбачу тут і доказы сваіх апанентаў адносна звароту «Госпад». Маўляў, рускі «господин» таксама прыклаў тут руку. Не пра гэта гаворка. Ды ці не ад беларускага «гаспадар» утварылася «господин», «господь»?

Заглянем крыху ў далёкае мінулае. У грэчаскай міфалогіі галоўны Бог — казланогі Пан. Пан, якога баяліся, бо ў гневе ён мог нагнаць вялікі страх, панічны страх (дарэчы, слова «паніка» ўтварылася ад слова «пан»). Людзі кідаліся ў паніку. Вобраз казланогага Пана быў даволі распаўсюджаны ў мастацтве. Напрыклад, карціны Врубеля.

Мо хто скажа: грэчаская міфалогія не мае нічога агульнага з нашай культурай. Але ж і ў нашым народзе словы «пан», «паніч» атаясамліваюцца з асобай д'ябла. Я сама чула ад старэйшых такія выразы, накшталт: «пан пад капелюшом... ды з хвастом і капытамі...» І няўжо наш народ не такі мудры, як яго прывыклі называць?

Можа, канечне, пан Жлутка запярэчыць на ўсё тут сказанае мною, спасылаючыся на традыцыі ўжывання слова «пан» на Беларусі. Прабачце, але і тады маглі быць розныя перавыкрутачы, як і сёння. Я маю на ўвазе пераклад кс. Чарняўскага з Караля Вашэра «Апавяданні аб жыцці Айца Піо...» (змешчаны ў гэтым часопісе). У арыгінале Чарняўскага ўжыта паўсюдна сл. «Госпад» у дачыненні да Бога, у часопісе ж—«Пан».

Я магу дапусціць яшчэ ўжыванне выразаў, як «Пан Бог», «Пан Езус». Але такія выразы, як «Пан з вамі», «Маліцеся да Пана», лічу проста недапушчальныя. Калі гэта чую, то ў галаве заўсёды мільгае думка: пра якога пана ідзе гаворка? І вялікая літара ў слове «Пан» не выпраўляе становішча.

А вось «Госпад з вамі», «Хай дапаможа вам Госпад»—зусім іншая справа. Тут маё ўяўленне не раздвойваецца. Тут без кантэксту зразумела, хто маецца на ўвазе. Бог! І толькі Госпад Бог. І я малюся Госпаду.

**Людвіка ЛЯМБОВІЧ,**
**настаўніца, сябра Рады БКГ.**

г. Валожын.

# Адказ—адзін

Мяне прымусіла ўзяцца за гэты допіс гутарка з дырэктарам Інстытута эканомікі АНБ Г. Лычам, змешчаная ў «ЛіМе» яшчэ 18.12.92. Доўгі час я вагаўся, ці здольны спрачацца з навукоўцам гэткага высокага рангу, але думкі, якія ён выказаў, датычаць не адно адмысловых эканамічных пытанняў і кранаюць кожнага чалавека.

Хіба магчыма прамаўчаць, калі чалавек на пасадзе, якая прыблізна адпавядае пасадзе Я. Гайдара да таго, як ён увайшоў ва ўрад, сцвярджае як пенсіянерка на лаўцы: жыццё зрабілася дрэнным таму, што разбурыўся Савецкі Саюз, а не—Савецкі Саюз разбурыўся таму, што жыццё зрабілася незвычайна дрэнным. Для пенсіянеркі суадносіны усё за Расіяй—не трэба шмат мысліцельнага патэнцыялу, ды да таго ж можна апраўдацца кепскім лідэрствам. Але адказнасць ужо не перакінуць на неіснуючы цэнтр, і памылкі Расіі паўтараць недаравальна. Галоўная памылка — няўвага да дробнага вытворцы, хаця гутарка аб тым, каб наблізіць гэткую вытворчасць да сыравіны, рабочай сілы і спажыўца, ідзе год 20, калі не больш, толькі даўней на іншай падставе, бо не дапускалася нават думка пра прыватную ўласнасць. Нешта не бачна і не чутна аб'яў, што які-небудзь выканком шукае людзей, здольных і згодных стварыць цагельню ці перапрацоўку сельгаспрадуктаў, і абяцае дапамогу памяшканнем, пазыкай, палёгкамі ў падатак. Тая цэг прычыны і наступства ў дадзеным выпадку відавочныя, як відавочнае і тое, што Сонца абыходзіць вакол Зямлі, хаця некаторыя вучоныя вумнікі даводзяць, што наадварот.

Ці паважаны доктар навук ужо забыўся, як яшчэ ў тым СССР усе запар патрабавалі рэгіянальнага ды рэспубліканскага гасразліку, прадчуваючы хуткі канец заняпалага гаспадарчага арганізму Саюза? А дэфіцыт усяго? А «паўлаўскія» цэны? Ды і міжнацыянальныя сутыкненні пачаліся яшчэ ў Саюзе. Усё йдзе адтуль, толькі ўсё, сапраўды, сталася горш, а не лепш, як мы ўсе спадзяваліся. Дый ужо настолькі горш, што трэба думаць, як бы шпарка ўцячы далей ад былых сяброў, а не імкнуцца да іх.

Але што зрабіў урад разам з Інстытутам эканомікі Беларусі, каб па магчымасці пазбавіць залежнасць беларускай эканомікі ад уплыву неспрыяльных вонкавых чыннікаў? Енчыць і марыць аб колішніх гаспадарчых сувязях цяпер бясплённа, бо ўсюды навокал прадпрыемствы прыватызуюцца, і ўжо ніколі не быць Дзяржплану, Дзяржснабу і да т. п. Быў жа час хоць што-кольвек зрабіць, а не спаць у шапку.

Беларуская прамысловасць, вядома, арыентавана на працу ўнутры галін былой агульнасаюзнай, яна мае незавершаны тэхналагічны цыкл і часта ніяк не злучана з мясцовымі патрэбамі і здольнасцямі. Ведаю адзін невялічкі біяхімзавод, які пасылае людзей дагэтуль ледзь не пад кулі ў Малдову за кіянозым лісцем—толькі таму, што адтуль заўжды яго атрымлівалі. І спажыўцоў шукаюць па звычцы ў замежжы. Хіба не ў стане каманднa-адміністратыўная сістэма, што пакуль яшчэ дзейнічае на Беларусі, вырашыць, прынамсі, гэткія пытанні? Безумоўна, прасцей паўтараць ла ўжо патрэбна і сялянам, і дачнікам, і ўсім. І як можа без яе будучы фермер? Яму шмат чаго трэба, але дзе і за якія грошы ўзяць? Людзі зямлю не бяруць—што можна зрабіць голымі рукамі? Сучасныя саўгасы і калгасы ёсць гатовыя асяродкі дапамогі прыватнікам, як адзінкам, так і таварыствам, толькі няма загаду тое рабіць: даваць тэхніку, насенне, парады і г. д. А ўсе гэтыя будучыя млынары, фермеры, гандляры больш за ўсіх зацікаўленыя ў добрых шляхах, добрых школах для собскіх дзяцей, у добраўпарадкаванні вёсак і мястэчак. Тут узмацнее і мова—«сродак зносін паміж людзьмі ў працэсе супольнай вытворчасці». А якая супольная вытворчасць у працуючых на заводах Мінска, Гомеля, Гродна, калі яны працуюць паасобку і на «чужога дзядзю», і ад гэтага «дзядзькі» залежыць іхні дабрабыт?

Г. Лыч слушна спасылаецца на тое, што кошт каленвала ўзрос у 179 разоў —але ж у рублях! У валюце ён нязменны. Яе не стае, вядома. Ды і як жа інакш, калі, напрыклад, завод з Берасцейшчыны знайшоў у ФРГ пакупніка на свае прэсы, але ўрадаўцы патрабуюць за ліцэнзію на вываз плаціць валютай, якой у яго пакуль няма. А без ліцэнзіі, г. зн. без гарантыі пастаўкі, ніводзін пакупнік не перакладзе авансу, якім можна было б разлічыцца з урадам. Дарэчы, чые ўсё ж мытні—беларускія ці «агульнасаюзныя», і якія перавагі маюць на іх беларусы?

Шмат якіх пытанняў узнікае пры чытанні гэтай гутаркі, але адказ на іх, думаю, адзін: пакуль кіраўніцтва Беларусі не стане беларускім, стан беларускае эканомікі будзе безупынна пагаршацца.

**Алесь ДРАЯНКОЎ.**

г. Масква.

# «МЫ—АПОШНІЯ. ЗА НАМІ ЧАРГА...»

(Пачатак на стар. 3).

**— Відаць, акрамя палітычных, ёсць і аб'ектыўныя, абумоўленыя станам і развіццём культуры, прычыны нямасавасці адраджэнскага руху беларусаў. Бадай, галоўная з іх—падкаланіяльнае існаванне беларускай культуры ў XX стагоддзі, існаванне ПАД культураю расейскай.**

**Мне здаецца, што беларускія рупліўцы не дужа задумваюцца над аб'ектыўным характарам перашкод на іх шляху. Колькі рацыі змагацца з людзьмі—камуністамі, манархістамі, гэкачэпістамі і да іх падобнымі сучаснікамі,—калі яны толькі людзі і не больш чым людзі? Змагацца з людзьмі, канешне, лягчэй, чым з культурай, але ж культура (ці псеўдакультура) грамадства будзе трымаць і Пазняка, і каго заўгодна мёртваю хваткай...**

— Так, шмат якія пакаленні беларусаў выхоўваліся ў сферы расейскай культуры, што, як і кожная нацыянальная культура, вядома, мае свае значныя і нават вялікія здабыткі. Увогуле гэта было б і няблага, асабліва калі ўлічыць, што ў тых умовах менавіта праз расейскую мову і культуру ў значнай меры ішло далучэнне беларусаў да здабыткаў сусветнай культуры. Але тут ёсць і пэўная нелагічнасць: з таго працэсу была найперш выключана свая, нацыянальная культура, якой належала стаць грунтам, падмуркам усяго грамадскага працэсу — як і ў кожным цывілізаваным грамадстве. Нармальны працэс культурнага развіцця павінны быў выглядаць так: спярша ў самым поўным аб'ёме — уласная культура, затым іншыя — расейская, нямецкая, польская, англельская — чым болей, тым лепш, наколькі хапае да таго здольнасцяў грамадства ці асобнага яго члена. Таго, аднак, не адбылося. Або адбылося зусім інакш — аднабакова, ненармальна, што садзейнічала ўтварэнню асаблівага, мутантнага генатыпу, маргінальнага ў культурных адносінах, няздольнага да ўспрымання сучаснай гуманістычнай культуры наогул.

Нашы палітычныя партыі (найперш, вядома, БНФ) з самага пачатку свае дзейнасці паставілі задачу культурнага адраджэння нацыі. Вядома, задачу высакародную, але і надта праблематычную ўжо хоць бы з тае прычыны, што ажыццяўлялася яна не на зусім прыдатным для таго матэрыяле. Не падмацаваная нацыянальнай самасвядомасцю народа, яна ўжо ўпачатку абяцала марудна і безвынікова сканаць. Відавочна, палітычныя прыярытэты некаторых дэмакратычных партый былі вызначаны неабачліва, а сілы для іх ажыццяўлення аказаліся абмежаванымі. Зноў жа, відаць, не была ўлічана мера супраціву антынацыянальных сіл, іх шматгадовая спрактыкаванасць у барацьбе з нацыянальным. Так, каб перамагчы ў вялікім, яны пайшлі на ўступкі ў меншым, дазволіўшы прыняць хоць бы рэлятывісцкі закон аб мовах, добра ведаючы, што выконвацца ён не будзе. Цяпер яны навязваюць нацыі абсурдную дыскусію аб двухмоўі. Вядома, у аснове таго абсурду ляжыць пэўны разлік. Нацыянальна свядомая частка грамадства наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг дзвюх граматык — Тарашкевічавай і наркомаўкі, дыскутуючы аб разыходжанні ў трактоўцы мяккасці падвоеных зычных, а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўсталяваць расейскае аднамоўе. Прапагандысцкім прыкрыццём тае акцыі займаюцца сацыялагічныя інстытуты і агенцтвы, што сядзяць на ўтрыманні ўрада і ў любы момант з высмактанымі з пальцаў лічбамі могуць даказаць, што беларусы — супраць беларускай мовы, а КПБ — самая папулярная сярод іх партыя...

**— Хуткасць і, я б сказаў, татальнасць камуністычнай рэстаўрацыі могуць сведчыць толькі пра адно—што пяток год, патрачаных на перабудову, спробы эканамічных і палітычных рэформ не змянілі духу дзяржавы. Мадэль кіравання дзяржавай застаецца ранейшай, этакратычнай, дух дзяржавы—камуністычным. Але наперадзе ў Беларусі маячаць новыя выбары ў парламент і выбары прэзідэнта. Якой, на вашу думку, павінна быць палітычная тактыка нацыянальна-дэмакратычных сіл на бліжэйшую перспектыву, каб — ва ўмовах апатыі грамадства — утрымаць ужо здабытыя пазіцыі?**

— Тактыка можа быць толькі адна — аб'яднанне ўсіх дэмакратычных сіл у адзіны блок. Бо антыдэмакратычныя сілы — КПБ, ПКБ, іншыя групоўкі, што да іх прымыкаюць — актыўна гуртуюцца. Гэта вымагае эфектыўнага процідзеяння з боку сіл дэмакратычных.

**— Хто можа ўзначаліць гэты гіпатэтычны дэмакратычны блок?**

— Вядома, Беларускі народны фронт, іншай сілы проста няма.

**— А як вы расцэньваеце магчымасць ваеннага перавароту на абсягах СНД? Дэмакратычны друк апошнім часам, асабліва маскоўскі, занепакоены наступам «чырвона-карычневых», пагрозай фашыстоўскага варыянту развіцця падзей...**

— Што ж, мы бачым, якім чынам гуртуюцца імперскія сілы; іх філіі па былых рэспубліках СССР дзейнічаюць у рэчышчы распрацаванае ў Маскве тактыкі. Таму дэмакратычныя сілы, зноў жа, мусяць быць гатовымі да эфектыўнага процідзеяння магчымаму перавароту. Усё залежыць ад меры згуртаванасці і палітычнай сталасці нацыянальна - дэмакратычных сіл.

**— Улетку пройдзе Усебеларускі з'езд, які ўлады, напэўна, хацелі б скарыстаць для прымірэння з антыкамуністычнай эміграцыяй (можа, нават займець дакументы ўрада і рады БНР). Якую пазіцыю адносна ўрада Кебіча мае заняць кіраўніцтва, арганізатары з'езда?**

— Гэтую пазіцыю вызначыць сам з'езд у працэсе свае работы. Думаю, вырашальнай тут будзе пазіцыя беларускіх задзіночанняў з Амерыкі і Канады.

**— Паколькі гутарым мы ў час падрыхтоўкі святкавання ўгодкаў БНР, у якім вы ўдзельнічаеце як сябра аргкамітэта святкавання, дык, на вашу думку, наколькі істотна на палітычную свядомасць беларусаў можа паўплываць гэтая дата — па сутнасці, эпізод у віры падзей 1917-21 гг.?**

— Так, гэта эпізод у нашай гісторыі, але эпізод вельмі важны. Можа, без таго эпізоду не было б і падзеі 1991 года, не ўваскрэсла б сама надзея на якую-небудзь дзяржаўнасць. Абвяшчэнне БНР у 1918 годзе само па сабе было актам болей сімвалічным, бо за ім не паследавала якіх-небудзь грамадскіх пераўтварэнняў. Але гэты акт увасобіў у сабе нацыянальна-дэмакратычны патэнцыял беларусаў, рэанімаваў важнейшую ідэю і заклаў падмурак. Нягледзячы на пэўныя няўдачы ў будучым, ідэя жыла, а значыць была жывая і надзея на яе адраджэнне. Яна жыве і цяпер, даючы моцы новым пакаленням беларусаў стрываць усё і дамагчыся жаданага. Таго, што ўжо дамагліся ўсе народы Еўропы. Мы — апошнія. За намі чарга.

**— Дзякуй за гутарку.**

**Гутарку вёў**
**Юрась ЗАЛОСКА.**

# СІНДРОМ БЕЛАРУСАФОБІІ

***Гэтая сацыяльная «хвароба» была і застаецца галоўнай перашкодай на шляху нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі***

А ПЕРАШКОД такіх сапраўды шмат. І здаецца, што кожны пражыты дзень прыносіць усё новыя трывогі за лёс нашай Бацькаўшчыны, за магчымасць дасягнення ёю рэальнага суверэнітэту і незалежнасці. Гэта і свядомае процідзеянне адраджэнскім працэсам з боку дэнацыяналізаваных работнікаў апарату, кіраўнікоў вытворчасці і розных псеўдарыначных структур. Гэта і ліхаманкавае стварэнне нейкіх каардынацыйных камітэтаў і «народных рухаў» з ліку разнамасных палітычных груповак, адзіных хіба што ў сваім імкненні аднавіць «вялікі магутны Савецкі Саюз» і прыдаць анафеме ўсіх руплівцаў на ніве беларушчыны, нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Гэта і істэрычныя спробы ўвядзення, насуперак закону, афіцыйнага двухмоўя, спынення беларусізацыі ў школах, ВНУ, на прадпрыемствах і ў дзяржустановах. Нарэшце, гэта тая злосная кампанія дыскрэдытацыі дэмакратычна настроеных парламентарыяў, пісьменнікаў, вучоных і журналістаў, якая разгарнулася ў неабальшавіцкіх выданнях і сваім зместам вельмі нагадвае «знішчальныя» ўдары па нацдэмакратызме і «буржуазным рэстаўратарстве» ў трагічныя для беларускага народа 30-я гады.

## Страх і боязь незалежнасці

*(дыягназ)*

Наогул, сярод пэўнай часткі нашых грамадзян усё прыкметней праяўляюцца разнастайныя сімптомы непрыняцця самой ідэі і адмаўлення самога факта існавання незалежнай Беларусі, нецярпімасці, а ў шэрагу выпадкаў і адкрытай варожасці да беларускасці, нацыянальна ўсвядомленых рашэнняў і дзеянняў. А ўзятыя разам, у сваёй сукупнасці, гэтыя сімптомы сведчаць аб новай успышцы застарэлай «хваробы» беларусафобіі, якая для сучасных *«рэстаўратараў» савецкай імперыі становіцца* такой жа неад'емнай часткай свядомасці, як і юдафобія, прыбалтафобія, армянафобія, грузінафобія і г.д.

Сапраўды, колькі нянавісці і зла, колькі страху яшчэ зусім нядаўна выклікалі ў гэтых людзей свабодалюбівыя імкненні прыбалтыйскіх народаў, іх самаадданасць у барацьбе за аднаўленне незалежнасці! Як не хацелася і не хочацца ім бачыць свабоднымі і незалежнымі дзяржавамі Украіну, Малодову, Грузію, Арменію! На якія толькі авантуры і хітрыкі не спрабуюць ісці сёння расійскія апазіцыянеры, каб зноў запрэгчы ў адны аглоблі ўсе былыя рэспублікі-калоніі, неадкладна вярнуць Расіі ролю метраполіі ці «старэйшага брата». Ну, а што датычыць юдафобіі, то яна наогул стала казырнай картай неабальшавікоў і славянафілаў — ва ўсіх цяжкасцях і няшчасцях вінаваціць не саміх сябе, а нейкіх ворагаў — іншародцаў і жыдамасонаў, у любых нацыянальна-дэмакратычных актах і дзеяннях бачыць вынік нейкай сусветнай змовы і падкопы агентаў міжнароднага сіянізму.

Усе гэтыя віды «фобіі» дыялектычна ўзаемазвязаны, дапаўняюць адзін другога, уяўляючы нешта ўпаўне цэласнае, комплекснае і часта пераходзяць у своеасаблівы псіхічны стан страху, боязі чаго-небудзь альбо каго-небудзь, актыўнага процідзеяння чаму-небудзь ці каму-небудзь. І ў дадзеным выпадку пад тэрмінам «беларусафобія» мы разумеем зусім не боязь і нянавісць да другога чалавека, скажам, да канкрэтнага беларуса ці жыхара Беларусі, якія развіваюцца альбо маглі б узнікнуць у асобных людзей пры некаторых формах псіхозаў. Мы вядзём гаворку пра сацыяльную паталогію, пра тую сацыяльна-палітычную ідэалогію і практыку (заходне-русізм, сталінізм, шавінізм), якая заўсёды адмаўляла і адмаўляе беларускай нацыі ў яе праве на самастойнае палітычнае і культурнае развіццё, не давала і не дае ёй магчымасці раскрыць свой стваральна-творчы патэнцыял, з гонарам увайсці ў агульначалавечую сям'ю народаў.

Боязь самастойнасці і незалежнасці сваёй Айчыны абавязкова суправаджаецца і непрызнаннем такога права за іншымі народамі былога дзяржаўна-імперскага ўтварэння на адной шостай зямной сушы. А гэта, у сваю чаргу, прыводзіць да своеасаблівай раздвоенасці асобы, калі яна, жывучы, скажам, у незалежнай і ўжо прызнанай усім сусветным супольніцтвам Рэспубліцы Беларусь, адначасова жыве і ў створаным ёю свеце ілюзій, дзе па-ранейшаму «існуюць» СССР і БССР, КПСС і КПБ, ВЛКСМ і ЛКСМБ, Савецкая Армія і ЧБВА... І калі б такая раздвоенасць стала вынікам якіх-небудзь рэальных змяненняў у свядомасці чалавека, то гэта было б яшчэ паўбяды. Галоўнае ж заключаецца ў тым, што яна ёсць адлюстраванне свядомых дзеянняў зацікаўленых палітычных сіл па псіхалагічнай апрацоўцы мас альбо проста няздольнасць ці нежаданне некаторых людзей вызваліцца ад *палітыка-ідэалагічных стэрэатыпаў.*

Дзе ж глыбінныя вытокі так моцна ўзрослай «актыўнасці» людзей з падобнай арыентацыяй? Ці здольныя яны, абапіраючыся на нацыяльны нігілізм і пасіўнасць значнай часткі беларускага грамадства, затармазіць альбо адцягнуць аб'ектыўна наспеўшыя працэсы нацыянальнага адраджэння і сацыяльнага прагрэсу? Каб адказаць на гэтыя пытанні, варта перагартаць найбольш драматычныя старонкі нашай мінуўшчыны, прааналізаваць перадумовы і вынікі дэнацыяналізацыі Беларусі на розных гістарычных этапах яе развіцця, прасачыць пераемнасць і ўзаемасувязь гэтага працэсу з сучаснымі высілкамі па «контрбеларусізацыі», адмаўленню нацыянальных каштоўнасцей, і перш за ўсё такой з іх, як суверэнітэт і свабода выбару народам уласнага шляху развіцця.

## Гвалт над душою народа

*(з гісторыі «хваробы»)*

Беларусь заўсёды была арэнай барацьбы за авалоданне ёю паміж рознымі нацыянальна-дзяржаўнымі ўтварэннямі, рознымі палітычнымі сіламі і ідэалогіямі. Гэтая барацьба аказвала негатыўнае, а ў большасці выпадкаў разбуральнае ўздзеянне на фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, іх разуменне непаўторнасці і самабытнасці сваёй нацыянальнай культуры і мовы, усведамленне сваёй чалавечай годнасці.

Гвалт, прымус, здзекі — найбольш характэрныя прыкметы той вялікай трагедыі народнага духу, якая была вечным спадарожнікам і сутнасцю такога змагання. А пачалося яно яшчэ ў X-XI стагоддзях, калі Беларусь аказалася паміж дзвюма варожымі кірункамі прынятага славянамі хрысціянства, калі вызначальнай рысай яе гісторыі была жорсткая барацьба паміж кіеўскімі (рускімі) і полацкімі (беларускімі) князямі.

Уплывы з усходу і захаду, па вобразным выразе Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага), круцілі і гвалцілі душу беларуса, прымушаючы яго ўбачыць, што ў чужой скуры заўсёды дрэнна, што трэба вытварыць нешта сваё, роднае, блізкае, арганічнае. І сярод нашых суайчыннікаў нават у самыя змрочныя часы знаходзіліся людзі з такім разуменнем жыцця, прычым іх колькасць значна ўзрастала ў перыяды больш-менш спрыяльных умоў для развіцця нацыянальнага пачатку альбо інтэнсіўнага, паскоранага засваення айчыннага і сусветнага вопыту. Так сталася, напрыклад, у перыяд першага пасапраўднаму беларускага адраджэння, якое супала з эпохай еўрапейскага Рэнесансу і было цесна звязана з навукова і культурнаасветніцкай дзейнасцю Францішка Скарыны, яго шматлікіх паслядоўнікаў і пераемнікаў, якія заклалі падмурак нашага гуманізму і талерантнасці, высокай духоўнасці і нацыянальнай самасвядомасці.

Пасля аб'яднання ў 1569 годзе Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, у якім беларусы мелі ўсе магчымасці для поўнага і ўсебаковага самавыражэння, культурная сітуацыя, мякка кажучы, змянілася яўна не на іх карысць. Абвешчаны ўладамі Рэчы Паспалітай прынцып *«Адна дзяржава — адзін народ»* прывёў да ліквідацыі шэрагу існаваўшых у Княстве дэмакратычных інстытутаў, згортвання і летаргіі ўсяго беларускага нацыянальнага жыцця. Паступова, але няўхільна пачала скарачацца сфера *ўжывання* беларускай мовы, многія адміністрацыйныя пасады займалі часцей за ўсё палякі альбо прадстаўнікі акаталічанай беларускай шляхты, вышэйшага і сярэдняга слою беларускага дваранства. Яны нярэдка вельмі ганебна, пагардліва адносіліся да беларускай мовы і самі першыя адмаўляліся ад яе на карысць польскай. А неўзабаве мова беларускага народа была поўнасцю выцеснена са справаводства дзяржаўных органаў і судоў, з навучальных устаноў, выдавецкай справы, літаратуры. Значна спрыяў паскарэнню працэсаў паланізацыі на Беларусі і часам насільны, гвалтоўны перавод праваслаўнага насельніцтва краю ў каталіцкае веравызнанне. Саміх жа беларусаў у той час не лічылі самастойным этнасам, а ўсяго толькі «галіной» польскай народнасці.

Дзеля справядлівасці, аднак, трэба заўважыць, што «пальшчызна» і тады, і ў будучым прынесла непараўнальна менш страт для нашай Айчыны, чым яе наступныя дачыненні з усходнім суседам. Змагаючыся супраць працэсу апалячвання, беларускі народ працягваў захоўваць сваю нацыянальную самабытнасць аж да канца XVIII стагоддзя, калі Беларусь пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай была далучана да Расійскай імперыі. Шэсць вякоў самастойнага дзяржаўнага існавання і два стагоддзі сумеснага пражывання з Польшчай зрабілі жыццё Беларусі настолькі своеасаблівым і настолькі адрозным ад Расіі, што руская ўлада натуральна адчувала сябе тут чужаніцай. Свае самабытныя законы, дэмакратычныя органы кіравання, неразвітасць абшчынных пачаткаў у землеўладанні, моцна развіты гандаль, знешнія сувязі, свая адметная мова, свае звычаі, вераванні, абрады рабілі жыццё нашага краю поўным свайго ўнутранага зместу.

А ўсё гэта ў комплексе і складала нацыянальны твар народа, яго нацыянальную на рускую мову пераводзілася справаводства і навучанне, катэгарычна забаранялася ўжыванне тэрмінаў «Беларусь», «беларускія губерні». Асабліва адчувальны ўдар па самабытнай культуры, самасвядомасці беларусаў быў нанесены пасля задушэння паўстання 1863—1864 гг., калі стала ажыццяўляцца палітыка планамернай русіфікацыі «Северо-Западного края», а мясцовыя ўлады пад камандай генерал-губернатара Мураўёва пачалі «восстановлять русскую народность», нішчачы ўсё, што не было падобным да маскоўскага і велікарускага.

Ды і гарадская інтэлігенцыя, выхаваная ў традыцыях, непрыхільных да беларускай культуры, са звычайнай недружалюбнасцю адносілася да нацыянальна-культурнага руху, была актыўным і няўрымслівым правадніком палітыкі свядомага падаўлення яго яшчэ нязначных і кволых парасткаў. Таму зусім не дзіўна, напрыклад, што ў настаўніцкіх *семінарыях і інстытутах, якія былі па сутнасці* адмысловымі школкамі абрусення і муштравання сялянскіх дзяцей на добрых праваднікоў расійскай абрусіцельнай палітыкі на Беларусі, «усё роднае, мясцовае, беларускае зневажалася і таптался ў гразь» (Я.Лёсік).

У той жа час антыбеларускія сілы як бы ў процівагу нацыянальным арганізацыям і партыям пачалі аб'ядноўвацца ў свае ўласныя таварыствы з вядомай заходнерускай арыентацыяй, наладзілі выпуск шэрагу шавіністычных выданняў, такіх, як «Россия», «Голос Москвы», «Окраины России», якія лічылі Беларусь спрадвечна рускім краем і вялі на сваіх старонках барацьбу супраць усялякіх «сепаратысцкіх» імкненняў, пад якімі разумеліся фактычна любыя (нават нязначныя) праявы нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў.

Ідэалагічнай асновай дзейнасці гэтых палітычных аб'яднанняў і перыядычных выданняў быў так званы заходне-русізм, які адмаўляў Беларусі ў праве на самастойнае культурнае і палітычнае развіццё, а беларусам пакідаў права толькі на «этнаграфічнае прызнанне». Гэта значыць, за імі прызнавалася права на мясцовы «дыялект», на



сутнасць і, як адзначаў Аляксандр Цвікевіч, канчаткова выдзяляла Беларусь ад шэрагу звычайных правінцый Расійскай імперыі, рабіла яе іншародным целам у дзяржаве, пастаянна раздражняла ўладу, напружвала яе ўвагу і палохала. Вось чаму цэнтралісцкая Расія не магла прымірыцца з такой з'явай і ўвесь час імкнулася ніверыраваць усе асаблівасці Беларусі, падвесці яе пад агульны ранжыр. Вось чаму і пачалася гістарычная барацьба паміж народам і ўладай, якая вялася царызмам адначасова на Украіне, у Польшчы, Фінляндыі, на Каўказе. Барацьба гэтая з боку ўлад і была адкрытым, а нярэдка замаскіраваным праяўленнем дзяржаўнай беларусафобіі і, зразумела, украінафобіі, палонафобіі і г.д.

Згодна са спецыяльнымі імператарскімі інструкцыямі, пачалася паступовая замена прадстаўнікоў мясцовых улад «натуральными русскими» з больш высокімі жалаваннямі, выдзяленнем казённых кватэр з ацяпленнем і асвятленнем, забеспячэннем сталовымі грашыма і іншымі прывілеямі. Было адменена дзеянне Літоўскага Статута, ліквідавана унія, якая праіснавала на Беларусі амаль два з паловаю стагоддзі, знішчалася царкоўная літаратура на беларускай мове, праследавалася публікацыя беларускіх мастацкіх твораў, народную песню, народную вопратку, наогул, на вясковы быт, бо вышэйшае развіццё нацыянальнай культуры, маўляў, азначала б «расшчапленне» адзінай расійскай культуры і палітычны сепаратызм. Такая «перакананасць грунтавалася на тэорыі аб асаблівай «абранасці» Расіі як носьбіта ўсёратуючай ідэі славянства, альбо, кажучы інакш, на перанесенай на расійскі грунт ідэі Гегеля аб «абранасці» нямецкай нацыі як адзінага сапраўднага носьбіта гэтай ідэі. А таксама на жаданні адгарадзіцца ад Еўропы з яе капіталізмам і «праклятым духам рэвалюцыі —якабінствам», на дасканалым разуменні мясцовага двараніна-славянафіла, што яго ратунак у «голубом мундире» імператара, што штык і нагайка ўсерасійскага гарадавога ёсць найлепшая гарантыя яго ад усялякіх сацыяльных узрушэнняў. Не дарма за сваю вернасць цару і прастолу, процідзеянне беларускаму «сепаратызму», развалу і гібелі «вялікай» імперыі, дыскрэдытацыю беларускай дэмакратычнай грамадскасці і беларускай прэсы, пісьменнікаў і публіцыстаў «заходнерусы» былі прыняты і абласканы ўладамі, *заслужылі адабрэнне і пахвалу з боку* актыўных праваднікоў палітыкі русіфікацыі і вялікадзяржаўнага шавінізму.

**(Працяг на стар. 12)**

# ШАШАЛЬ МОВЫ — КАЛЬКА

Кастусь ЦВІРКА

КАТАСТРАФІЧНАЕ звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы на Беларусі, замена яе ў афіцыйных, а потым і не ў афіцыйных колах на рускую сталася прычынай таго, што амаль уся беларуская інтэлігенцыя — хто ў большай, хто ў меншай ступені — незаўважна пачала думаць па-руску. Гэта ці не самае большае дасягненне русіфікатараў. Ды яно і не дзіўна: ўжо многія дзесяцігоддзі штодзённа «варымся» мы ў рускамоўнай стыхіі: справаводства, газеты, кнігі, радыё, тэлебачанне, кіно — усё гэта было ў нас і за малым выключэннем застаецца і сёння рускае.

Таму перш чым што-небудзь напісаць ці сказаць па-беларуску, многія з нас амаль усё перакладаюць у думках з рускай мовы. Мы ці не ўсе сталі перакладчыкамі. Перакладчыкамі саміх сябе. Ну, а перакладаем, вядома ж, самым лёгкім спосабам: механічна замяняем рускія словы беларускімі, прычым, тымі, што ляжаць на паверхні. Што ж да будовы фразы, асновы асноў мовы, то яе, будову, мы вельмі часта пакідаем нязменнай. У выніку такога «перакладу» мы гаворым і пішам хоць і беларускімі словамі, але ў аснове сваёй па-руску. Атрымліваецца нешта жахлівае.

Неяк дома, у сваёй вёсцы, глядзеў я па тэлебачанні адну беларускую перадачу. Мая цётка Волька, якая сядзела побач, уважліва слухала ўсё, што гаварылася з тэлевізара, ды і не вытрымала:

— І я ж, здэцца, гавару на беларускай мове, а, бывае, не магу дайсці, пра што яны кажуць. Хіба ж гэта беларуская мова?

— Чаму?

— Ды нейкая яна ў іх перакрыўленая.

«Перакрыўленая». Ці не ад гэтых нашых «перакладаў», ад калькі, якую мы ўжо і не заўважаем? Яна, калька, і калечыць, «перакрыўляе» нашу мову, падточвае, нібы той шашаль дрэва, яе з сярэдзіны, разбурае яе структуру, гэта значыць самую аснову мовы.

Такое перакручванне беларускага слова на рускі лад, падпарадкаванне нашай мовы чужой структуры вельмі абурала некалі Кузьму Чорнага, які называў гэта «злачынствам». «Гэтае злачынства, — пісаў ён у артыкуле «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры» ў 1928 годзе, — цалкам ляжа на сумленні тых літаратараў, якія сталі на працу як бы дзеля таго, каб патаптаць і знішчыць моўнае багацце, якое Беларусь збірала і ахоўвала ўсе доўгія вякі свае падвойнае няволі». Пры гэтым выдатны пісьменнік паказаў, да якога абсурду даходзяць часам «збеларусізаваныя чыноўнікі, а часта і рэдактары», вывучаючы мову з дапамогай «практычных слоўнікаў». Ён прывёў такія прыклады іх «перакладаў» з рускай на беларускую мову: «Я не имею охоты идти» — «Я не маю палявання ісці», «половые отношения» — «падлогавыя адносіны», «дай ключ открыть шкаф» — «дай крыніцу адчыніць шафу».

У тым жа артыкуле Кузьма Чорны абураўся, напрыклад, такімі вельмі распаўсюджанымі калькамі: «на самай справе», «у чым справа». Пісьменнік чуў, як адна «сялянка» ў тэатры крычала са сцэны: «У чым справа? У чым справа?» «Не, — піша Кузьма Чорны, — гэта крычыць сам аўтар п'есы. Ён думаў: «в чем дело» і пісаў «у чым справа». Дзе гэта аўтар чуў, каб сялянка гаварыла гэтак? Таму і чуецца тут фальш, таму і траціцца вобраз ці тып сялянкі. І вінавата тут моўнае думанне аўтара, якое зусім чужое сялянцы-беларусцы».

Сваю трывогу за такое гвалтаванне беларускай літаратурнай мовы, за яе глыбінную русіфікацыю Кузьма Чорны выказаў у канцы дваццатых гадоў. Яго трывога не была, ды і не магла быць у той час падтрымана: пачыналіся крывавыя трыццатыя гады, калі за такую абарону мовы беларускага народа ды яшчэ ад «старэйшага брата» зусім не гладзілі па галоўцы. Гвалту над мовай аднаго з самабытных славянскіх народаў давалася поўная воля. Таму і не дзіўна, што, разгарнуўшы любое беларускамоўнае выданне, вы і сёння раз за разам будзеце спатыкацца аб тыя самыя чужародныя «ў чым справа», «на самай справе» і аб безліч іншых падобнага роду кáлек, якія ўжо сённяшнім «пісцам» сталіся любымі і роднымі: звыкліся, зжыліся з імі, як са сваімі. А паспрабуй іх папраў — залямантуюць: усе ж так пішуць, нават слоўнікі іх узаконілі!

Беларускую літаратурную мову трэба сёння лячыць. Лячыць ад каросты шматгадовай русіфікацыі, ад суцэльнага калькавання, вызваляць з-пад чужой ёй структуры.

А лякарства можа быць тут адно: зварот да жывой народнай мовы. У ёй жа ёсць усё. Ёю можна выказаць любую думку, любое пачуццё. Толькі трэба не ленавацца пашукаць там патрэбнае слова, патрэбны выраз. Як адзначаў яшчэ Якуб Колас, «мы маем вялікі слоўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе».

Забыўшы аснову роднай мовы, мы не заўважаем, як фальшыва гучыць часам у чужой, рускамоўнай фразе нават самае адметнае, самабытнае беларускае слова, якім той-сёй імкнецца лішні раз «казырнуць», каб выставіць сваю «беларускасць».

Ёсць у нашай мове вельмі прыгожы, чыста беларускі выраз — «калі ласка». У ім бачацца лепшыя рысы характару нашага народа — шырыня душы, дабрыня, спагадлівасць, тактоўнасць. Нездарма ж украінскага паэта Алексу Юшчанку так зачаравалі гэтыя словы, што ён прысвяціў ім цэлы верш, які так і назваў — «Калі ласка»:

«Калі ласка, калі ласка»...  
Не забуду тыя словы,  
Словы першыя, што ў Мінску  
Я пачуў у час размовы...  
Словы гэтыя, як песню,  
Слухаў я ў Купалы дома.  
Я хачу, каб словы тыя  
На ўвесь свет былі вядомы.

(Пераклад Міколы Аўрамчыка).

А беларускі паэт Пятрусь Броўка цэлую кнігу вершаў назваў «Калі ласка», дзе выказаў сваё шчырае замілаванне гэтымі «роднымі словамі», якія для яго «звіняць сардэчнаю струною».

Але «звон» той пачынае гучаць неяк не так, калі мы робім беларускі выраз **калі ласка** поўным адпаведнікам рускага **пожалуйста.** Вось чытаю ў адным мастацкім творы размову двух герояў. Адзін з іх кажа «Дзякуй табе, што гэтак мяне выручыў». А другі ў адказ: «Калі ласка!» Я адразу чую тут фальш. У нас на Старадарожчыне ў адказ на «дзякуй» ніколі не скажуць «калі ласка», а знойдуць у кожным выпадку іншыя, не менш характэрныя словы: «Няма за што», «На здароўе», «Спажывайце на здароўе», а калі дзякуе малое скажуць яму ласкава: «Вялікі расці» і яшчэ па галоўцы пагладзяць. Прадстаўнічы спіс адказаў на «дзякуй» прывёў у мапублікаваным у часопісе «Маладосць» сваім «Самавучку беларускай мовы» Анатоль Клышка, які першы звярнуў увагу на няправільнае ўжыванне выразу «калі ласка». У маёй вёсцы «калі ласка» скажуць толькі тады, калі ў чалавека нешта просяць: «Дайце, калі ласка», «Зрабіце, калі ласка», «Выбачайце, калі ласка» і г. д.

І яшчэ прыклад. Запомнілася мне колькі гадоў назад апублікаваная ў «ЛіМе» нататка Валянціна Радкевіча «Тáкала». Аўтар вельмі правільна абураўся празмерным выкарыстаннем у нашай літаратурнай мове сцвярджальнай часціцы **так.** І праўда, колькі разоў сустракалі мы ў друку прыкладна такія во дыялогі: «Ты быў сёння на вуліцы?» — «Так»; «Можна зайсці?» — «Так»; «Гэта ты, Алесь?»—«Так». У народзе ж адказалі б у кожным з гэтых выпадкаў па-рознаму, больш натуральна, часцей, праз паўтор слова ў адказе: «Быў», «Зайдзі», «Можна», «Я». Або яшчэ так: «Але», «Ага», «Ну», «А як жа», «А няўжо ж», «А чаму ж не» і г. д. і г. д.

Прыкладаў такога звужанага, механічнага ўжывання слова ў беларускай літаратурнай мове можна, на жаль, прывесці безліч. У гэтым артыкуле я хацеў бы скіраваць увагу чытача толькі на асобных з іх найбольш характэрных. Дзелячыся сваімі назіраннямі, я зусім не прэтэндую на катэгарычнасць уласных меркаванняў. Многае, відаць, выкліча спрэчкі, пярэчанні. Але ж нам і трэба, мусіць, паспрачацца тут, каб знайсці ісціну. Толькі спрачацца на здаровай аснове, з аргументамі і фактамі ў руках. Асновай жа павінна быць тут, без сумнення, мова народа, бытаванне ў ёй таго ці іншага слова.

Але пяройдзем да канкрэтных прыкладаў.

**Менавіта.** Апошнім часам гэтае прыслоўе проста запаланіла нашу прэсу. Разгарніце любую беларускую газету, і вы сустрэнеце яго амаль на кожнай старонцы. І што заўважаецца: асабліва стараюцца тыя, хто кепска ведае беларускую мову, але хоча паказаць, што ведае яе выдатна. Слова **менавіта** яны заўсёды ставяць там, дзе просіцца рускае **именно.** І вось з вуснаў нашых «беларусаў», з радыёпрыёмнікаў ды тэлевізараў так і нясецца: «менавіта **таму»,** «менавіта **тым»,** «менавіта **так».** Суцэльнае татаканне! Ды ўжо адно гэтае не зусім прыемнае для вуха сугучча гаворыць пра ненатуральнасць, штучнасць такой мовы. Хацелася б пачуць слова «менавіта» ў жывой беларускай гаворцы, у народзе. Мне, напрыклад, гэта не ўдалося, хоць даволі многа давозілася ездзіць па Беларусі. Не сустракаў яго і ў акадэмічным шматтамовым выданні беларускага фальклору. Не траплялася мне яно і ў класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Зм. Бядулі, Кузьмы Чорнага. А ўсё, відаць, таму, што слова «менавіта», якое стала сёння газетным штампам, мы жывасілам прыцягнулі з польскай мовы. Там яно, дарэчы, гучыць вельмі натуральна, без ніякага «татакання». Атрымліваецца нейкі парадокс: мы цалкам захоўваем рускамоўную фразу, аздабляем яе польскім словам і называем гэта беларускай мовай!

Надта ўпадабаўшы гэтае «именно — mianowicie» да месца і не да месца ўжываючы яго, мы ўжо нават і не рупімся зазірнуць у багатую скарбніцу жывой народнай мовы, каб хоць неяк разнастаіць сваю гаворку. А калі б зазірнулі, то ўбачылі б, што наш народ выдатна абыходзіцца без чужога, наноснага ў сваёй мове, што ў яго моўным запасе ёсць мноства сінонімаў любому слову, у тым ліку і «менавіта». Вось гэтыя словы: 1. **Якраз, акурат.** «Именно так я и делал» — «Якраз (акурат) так я і рабіў». Ці яшчэ прыклад: «Зрабілася гэта затым, што акурат у гэтым часе ў Францыі кіпела рэвалюцыя...» (В. Ю. Ластоўскі. «Кароткая гісторыя Беларусі»). 2. **Толькі.** «Дайте мне карандаш». — «Вот ручка». — «Нет, мне нужен именно карандаш». Ці ж кепска будзе гучаць апошняя фраза з прыслоўем «толькі»: «Мне патрэбен толькі аловак». 3. **Канкрэтна.** «Мы навестили самые далекие деревни района, а именно — Новоселки, Рыбцы» — «Мы наведалі самыя далёкія вёскі раёна, а канкрэтна — Навасёлкі, Рыбцы». А то можна і зусім апусціць гэтае прыслоўе: «Мы наведалі самыя далёкія вёскі раёна—Навасёлкі, Рыбцы».

**Мецъ рацыю.** «Мецъ рацыю», «Ты маеш рацыю...» Паслухаюць такое ў маёй вёсцы і нічога не зразумеюць: пра якую там рацыю мова? Ды і як зразумець маім вяскоўцам, карэнным беларусам, калі гэта чыстай вады «пальшчызна», якую ім нідзе не даводзілася ні чуць, ні вывучаць «racja» (дарэчы, слова лацінскага паходжання) — азначае «праўдзівасць», «правільнасць», «праўда». Калі даслоўна перакласці гэтае выслоўе, то яно будзе гучаць так: «Ты маеш праўду». Чыста польская форма. Той-сёй, зразумеўшы гэта і жадаючы адысці ад «пальшчызны», папраўляе выслоўе такім чынам: «Ты правы». Але ж ён тут, даруйце, папраравіў казе хвост. Бо гэта зноў не па-беларуску, беларус зноў не зразумее тут «вучонага», а лепш сказаць— не так зразумее. Ён зразумее, што нехта там не «левы», а «правы». І толькі! Адкуль жа яму ведаць, што тут «вучоны» скалечыў рускае «ты прав»? Вось гэтак і кідаемся мы ад польскай «рацыі» да рускага «правага-левага». Замест таго, каб прыслухацца, як кажа тут свой народ. А кажа ён вельмі проста, вельмі дакладна і чыста па-беларуску: «Праўду кажаш», «Твая праўда», «На тваім баку праўда». Як жа трэба аддаліцца нам ад свайго народа, каб забыцца на такія звычайныя, такія кожнадзённыя словы!

**Зразумела.** «Ты быў сёння на сваім месцы?» — «Зразумела!» На якой мове адказалі тут на пытанне? Скажу адразу: на рускай! Бо «зразумела» тут — калька з рускага «понятно». Беларус сказаў бы інакш: «Вядома», «А як жа», «Няўжо ж не быў», «Няўжо ж не на сваім месцы». А як перакласці такі выраз: «Ничего не понятно, что тут написано?» Вядома ж, нашы газеты не будуць ламаць галаву, надрукуюць: «Нічога не зразумела, што тут напісана». А ў народзе скажуць зноў па-свойму. Вось узяты з жывой мовы выраз, які прыводзіць у сваім «Краёвым слоўніку Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіч: «Нейкі асталоп ету аб'яву напісаў — нічога не зразумець!» Аж ніякавата часам робіцца, калі, бывае, паважны мужчына адказвае каму-небудзь на жаночы лад: «Не зразумела», «Зразумела»...

**Хатні.** «Хатні тэлефон», «хатняе заданне», «хатняя птушка» —вельмі штучнымі здаюцца мне гэтыя словаўтварэнні. Бо «хатні» ніяк інакш не разумеецца, як «у хаце». Тут жа трэба, на мой погляд, казаць — «дамашні тэлефон», «дамашняе заданне». Ад агульнаславянскага — дом, дома. Чаму мы баімся казаць у хаце, як кажа народ спрадвеку? Толькі каб зрабіць больш самабытнай нашу мову? Але ж яна і без нашых штукарстваў самабытная і багатая. Што ж да «хатняй птушкі», то такой, здаецца, няма ў прыродзе. Ёсць толькі свойская птушка — у адрозненне ад дзікай.

**Сметанковае масла.** Выдуманае, штучнае, зусім непатрэбнае для нашай мовы слова. Звычайная калька з рускага — «сливочное масло». У рускіх вызначэнне «сливочное» спатрэбілася для таго, каб адрозніць яго ад «постного масла». Беларусы ж «постное масло» называюць адным словам — **алей.** Таму ніякага вызначэння для масла, збітага са смятанкі, не трэба. Калі кажуць «масла», беларус адразу разумее, пра якое масла мова. Калі ж даводзіцца ў наш «маторны» час падкрэсліць, што гэта масла не машыннае, не трансфарматарнае, наогул, не тэхнічнае, то дададуць яшчэ вызначэнне —кароўе. Толькі не «сметанковае» і не «жывёльнае», бо гэта зноў жа калька з рускага «животное».

**Засяродзіцца.** Я вельмі доўга не мог прывыкнуць да гэтага слова. Яно ў мяне выклікала асацыяцыю з «сердзіцца». Хоць ужо і ведаў ва універсітэце, што «засяродзіцца» — ад слова «асяродак», усё роўна з ім чамусьці не звязвалася: мо таму, што ў нас у вёсцы болей кажуць — «сярэдзіна». Кажуць, слова ўвёў у дваццатых гадах Уладзімір Дубоўка. Вядома, слова новае, адметнае. Але зноў жа — ці зразумелае ў народзе? Ды і ці патрэбнае яно, калі народ мае свае адпаведнікі: «задумацца», «сканцэнтравацца»?

**Лёс.** Ці не занадта «заездзілі» мы гэтае запазычанае з польскай мовы слова? Асабліва паэты: надта ж лёгка яно рыфмуецца — слёз, рос, лоз, нябёс, воз, калёс, атос і г. д. Але больш рэжа вуха множны лік гэтага слова — лёсы. А зусім нядаўна пачало мільгаць і **лёсаносны.** Так, ідзе гэта ад рускіх слоў — **судьбы, судьбоносный.** Не ведаю, ці ёсць такое слова ў народзе. У Кузьмы Чорнага я сустракаў яго, хоць і рэдка. Бо ён больш карыстаўся яго сінонімамі. Беларус часцей за ўсё на месцы слова **лёс** паставіць блізкае яму — **доля.** Напрыклад, замест фразы «Такі мой лёс», ён хутчэй скажа «Такая мая доля», «Так у мяне на раду напісана», «Так Бог даў».

**Урон.** Заўважаю, пачало надта ж часта мільгаць па старонках нашага друку гэтае яўна рускае слова. Нават у загалоўкі-«шапкі» яго выносяць. Памаленьку, памаленьку — і выцясняецца спрадвечнае беларускае слова **страта.** А яшчэ ж ёсць і другое вельмі каларытнае слова — **шкода.** «Волки нанесли большой урон хозяйству». Беларус пераклаў бы гэта так: «Ваўкі прычынілі вялікую шкоду гаспадарцы». Чым жа кепска? І дзеяслоў «ураніць» не чуў я ў народзе. Замест рускага «уронил» на Беларусі скажуць: «упусціў» (напрыклад, з рук). Пра лес — не «раняе лісце», а «цярушыць», «атрасае», «скідае».

**Кляса.** Як паказвае «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», слова «клас» запазычана беларусамі праз рускую з французскай мовы—ад klasse, дзе яно і гучыць адпаведна — «клас», прычым «л» не зусім мяккае і не зусім цвёрдае — сярэдняй цвёрдасці. Кляса ж — чыста польская форма: замежныя словы ў палякаў запазычваючы часам разам з іх напісаннем. Слова «кляса» ўцяг-

нуў нехта з польскай у беларускую недзе ў дваццатых гадах. Не разумею, чаму сёння мы павінны вяртацца ізноў да польскага варыянта? Мяняць быка на індыка? Толькі дзеля таго, што замена адбылася ў 1933 годзе «валявым» шляхам? І што яго працягваюць ужываць у асяроддзі беларускай эміграцыі?

Вядома, у народзе самога гэтага *паняцця — клас як групоўка людзей* — не было. Але ж, помніцца, у дзяцінстве мы гулялі ў класы, а не ў клясы. У асобных выданнях бачу ўжо з мяккім «л» і слова «блакада»: «блякада». На якой падставе? З вайны помню гэтае слова з цвёрдым «л». Праўда, у нас слова гучала ў трохі іншым напісанні: блакіроўка.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, як катастрафічна аддаліліся мы ад жывых крыніц народнай мовы, забыўшы яе багатую сінанімічнасць, яе найтонкія адценні і фарбы.

Што, кампенсаваць забытае намі запазычаннямі ў суседзяў? Але ж пазычаюць толькі тое, чаго ў саміх няма. Наша ж мова — адна з самых багатых сярод *славянскіх моў*, і трэба проста не ленавацца вывучыць яе.

Вядома, са з'яўленнем у свеце новых паняццяў да нас прыходзяць і новыя, невядомыя нам словы. Гэта натуральна. Без такіх запазычанняў не абыходзіцца любая мова. Самі па сабе іншаземныя словы не шкодзяць нацыянальнай мове, якая падпарадкуе іх сваім законам. Шкодзіць толькі бяздумнае іх выкарыстанне, неапраўданае захапленне чужаземшчынай.

Вельмі трывожыць легкадумнае абыходжанне з нашым нацыянальным багаццем розных «гарачых галоў». Сёння мы кінуліся вяртаць усе асаблівасці літаратурнай мовы 20-х — пачатку 30-х гадоў. Вядома, усё здаровае ў ёй, папраўдзе беларускае нам трэба вярнуць абавязкова. Але ж не трэба забываць, што літаратурная мова таго часу была яшчэ ў працэсе станаўлення. Ішла паскораная «беларусізацыя», і дасканала вывучыць народную мову проста не было калі, таму ў яе спехам уводзілася нямала чужога, наноснага, штучнага. Ці ж браць усё гэта нам назад без крытычнага асэнсавання? Гэта было б, на мой погляд, безадказна. З другога боку—ці трэба «кавалерыйскім наскокам» перакрэсліваць усё, што было набыта літаратурнай мовай за апошняе паўстагоддзе, хай і пад прэсам жорсткай русіфікацыі? Беларуская літаратурная мова абагачалася праз творы лепшых нашых майстроў мастацкага слова, што прыходзілі ў літаратуру з розных куткоў Беларусі. Не сядзелі склаўшы рукі і нашы мовазнаўцы — не толькі ж рыхтавалі «навуковы грунт» пад антынародныя законы. Выйшла з друку нямала дыялектных зборнікаў, урэшце фальклорных збораў. Што, усё гэта агулам будзем выкідаць на сметнік?

У кожным разе мы павінны ўважліва, па-гаспадарску агледзець усё, што маем, перш чым прыняць канчатковае рашэнне. Галоўнае — не спяшацца. Вельмі кепскую паслугу, на мой погляд, робяць нашаму адраджэнню тыя выданні, якія ў запале змагання з гвалтоўна навязанай нам у трыццатых гадах моўнай рэформай самастойна пераходзяць на «тарашкевіцу». Такая партызаншчына, апрача шкоды, нічога нам не прынясе. Думаецца, трэба правесці спачатку па культуры мовы шырокія дыскусіі, запрашаючы на іх і беларусістаў свету, прадстаўнікоў беларускай эміграцыі. Ну, і, вядома, пашырыць даследаванні па розных пытаннях мовазнаўства, глыбей вывучыць дыялектныя пласты мовы, выявіць распаўсюджанасць тых ці іншых форм, таго ці *іншага слова, ў народзе*. Карацей кажучы, рабіць усё трэба на навуковай, а не аматарскай аснове. Цывілізаваным спосабам. Як гэта робяць ва ўсім свеце.

**ЛАЎРЭАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

# БУДАЎНІК ГМАХУ НАШАЙ ГІСТОРЫІ



Дзесьці на пачатку сямідзесятых гадоў штогод наладжваліся сустрэчы журналістаў адной з беларускіх і адной з летувіскіх газет. У час іх гаварыліся прамовы, тосты. Асабліва любіў гаварыць адзін з тагачасных намеснікаў галоўнага рэдактара беларускай газеты. І кожны раз адно і тое самае: у Беларусі да вядомага семнаццатага года былі толькі курныя хаты, лучына і лапці. І больш нічога. Ствaралася ўражанне, што кожны раз пракручваецца адна і тая самая старая грамафонная кружэлка. Летувісы нарэшце сталі пасміхацца, адна калежанка-летувіска аднойчы сказала мне:

— Як жа можна гэтак аплёўваць сваю гісторыю? Вы — нашы суседзі, і я думаю, што ваша мінуўшчына не нашмат розніцца ад нашае.

Так, калежанка з Летувы мела слушнасць. Не змрочная была наша мінуўшчына. Азмрочылі яе наўмысна выканаўцы «сацыяльнага заказу», якія захапілі манаполію ў беларускай савецкай гістарыяграфіі. Янычары ў навуцы тое, што не ўлазіла ў іхнія светапоглядныя схемы, выкідалі як непатрэбнае ім, чаго нельга было выкінуць —перакручвалі.

Пра якую ж далёкую і блізкую па часе гісторыю Беларусі мы маглі даведацца з кніжак Каменскай, Абэцэдарскага, Ігнаценкі, Шабуні, Сташкевіча і іншых, з падручнікаў для сярэдняй школы і вышэйшых навучальных устаноў? Нашы вучні і студэнты куды болей ведалі пра гісторыю старажытных Егіпта, Месапатаміі, Кітая, Індыі, Грэцыі і Рыма, чым пра мінуўшчыну роднай зямлі, дзе ляжаць косці іхніх дзядоў і прадзедаў. Нават у акадэмічнай пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР» вы не шмат пачарпняце звестак, бо тысячагадовай дакументаванай гісторыі Беларусі адведзены толькі два тамы.

Вядома, падзеі савецкага перыяду будуць і надалей аб'ектам даследаванняў навукоўцаў, яны павінны быць адлюстраваны ў нашай гісторыі, бо яны былі, іх не абмінеш. Але ацэнкі ім, па ўсім відаць, будуць дадзены іншыя, гэткія, якія ім належаць па праву. І хоць некаторыя *сцвярджаюць, што* «историю не перепишешь», варта сказаць, што гісторыя сама сябе піша сваімі эпохамі, перыядамі, падзеямі. Ад гісторыка ж патрабуецца толькі аб'ектыўнасць і сумленнасць у перадачы ўсяго, што адбывалася на нашай зямлі. Бо гісторыя — гэта не мастацкі твор, дзе аўтар можа раскілзаць сваю фантазію і пусціць яе *галопам* у патрэбны яму бок для стварэння таго ці іншага міфа. У гісторыі не фантазія, не творчы вымысел павінны кіраваць рукой даследчыка, а карпатлівая праца і асэнсаванне матэрыялу, назапашанага на працягу стагоддзяў.

Вось ён, гэты матэрыял, і стаў аб'ектам даследавання Міколы Ермаловіча. Шмат гадоў было патрачана на гэта. Хоць слова «патрачана» мо й недарэчы тут. Не, гады не былі патрачаныя, яны далі добры плён. Спачатку была ўскалось — асобныя артыкулы, а потым і сама кніга «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды» — грунтоўнае даследаванне, якое вымагала вялікае працы. У тыя гады часам даводзілася пытацца ў знаёмых: дзе можна сустрэцца з Міколам Іванавічам? І заўжды адказ быў адзін: «У бібліятэцы».

Я не збіраюся аналізаваць працу Міколы Ермаловіча. Няхай гэта робяць спецыялісты-гісторыкі, ім больш відней, што да чаго. Я хачу адцеміць толькі хіба яе значэнне для усіх нас у наш сённяшні дзень, калі Беларусь абуджаецца ад таго летаргічнага сну, у які загнала наш народ апека суседзяў-чужакоў. Апека, якая абяспамяціла наш народ, зрынула яго ў прорву нацыянальнага небыцця, нігілізму, непавагі да свае мінуўшчыны, паставіла нас на калені перад чужымі кумірамі. Цяпер нам трэба ўставаць з каленяў. Цяпер, або ніколі больш!

*Але каб зрабіць гэта, нам* трэба пазбыцца сіндрому рабства, які вужакаю абвіў нашы душы, думкі, імкненні. Нам трэба ўбачыць саміх сябе годнымі нашчадкамі слаўных крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, ведаць пра іхнія справы, пра той час, калі «беларус, непадданы, гаспадарыў, быў сам над сабою і далёка ў свеце быў знаны за *Літоўскай і Ляскай* зямлёю».

Праца Міколы Ермаловіча атрымала высокую ацэнку. Яе аўтару прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь імя Кастуся Каліноўскага. І цалкам заслужана. Думаецца, што яна кладзе пачатак будаўніцтву таго вялікага гмаху, які мы завём Гісторыяй Беларусі. Сапраўднай, праўдзівай.

**Алесь ТРАЯНОЎСКІ.**

**ВІНШУЕМ!**

## *Эдуарду ВАЛАСЕВІЧУ—75*

**Сёння спаўняецца 75 гадоў вядомаму паэту-байкапісцу Эдуарду Валасевічу. Віншуем Эдуарда Станіслававіча з юбілеем, жадаем яму далейшых творчых поспехаў!**



# Занятак, мабыць, плённы

Эдуард Станіслававіч з'явіўся ў Мінску ў складзе своеасаблівага «магілёўскага дэсанту». Яны прыехалі амаль адначасова — Мікалай Гарулёў, Мікола Ткачоў і ён, Эдзік. Дарэчы, калі першаму адразу далі *мянушку «Гарул», другому* — «Ткачык», дык Валасевіч нават тады, калі зрабіўся ажно дырэктарам Беларускага аддзялення па ахове аўтарскіх правоў СП СССР, меў гэтае ласкавае імя.

Помню, яны разам з Уладзімірам Корбанам прадстаўлялі жанр байкі на розных чытацкіх сустрэчах, на літаратурных *вечарах, на бурлівых сходах*. Кандрат Крапіва — той быў класікам, а з гэтымі можна было і паспрачацца. Наконт чаго? А навошта яна, тая байка, наогул у савецкай літаратуры? Створана ж такое грамадства, дзе пра розныя заганы, памылкі і язвы можна гаварыць без алегорый і алюзій. Камуністы за адкрытую размову — і ў мастацкай *літаратуры асабліва! — пра* заганы і пралікі.

Гэта сёння можа падасца каму-небудзь смешным і нават не надта сур'ёзным. У канцы саракавых і на пачатку пяцідзесятых я і сам вастрыў крытычнае пяро, каб упікнуць Валасевіча ды Корбана за тое, што яны дураць галаву чытачам сваімі «зайцамі» ды «асламі», «зязюлямі» ды «салаўямі». Называй загану яе сапраўдным імем!

Але, але, трэба было даказваць, што байка — збраяносец яе вялікасці Праўды, што яна выступае высакародным змагаром супраць ліслівасці і невуцтва, дармаедства і хцівасці, махлярства і зайздрасці, падхалімства і зазнайства, эгаізму і нядбаласці, сквапнасці і балбатлівасці. Лепшыя байкі Эду*арда Валасевіча пацвярджаюць* аўтарытэт і рэпутацыю жанру...

Байкапісцаў сярод пісьменнікаў мы вылучаем чамусьці асабліва. Мо прадчуваем у іх выкрывальнікаў не толькі агульных заган і прымхаў, а і персанальна нашых, канкрэтызаваных. Нездарма знаўцы сцвярджаюць, што наўрад ці мы звярталі б увагу на маральную выс*нову байкі, якой звычайна* заканчваецца гэты мастацкі твор, калі б аўтар не напаўняў кожную сваю сентэнцыю жыццёвым зместам і не ўвасабляў бы носьбіта адмоўных якасцей у абліччы таго або іншага звера, жывёлы, расліны. Абліччы знаёмым і ўсім нам зразумелым. Больш таго, байкапісец мае права разам з намі і памыляцца ў сваім разуменні сутнасці таго або іншага прадстаўніка флоры ці фауны. Як гэта здарылася нават з І. Крыловым, які дарэмна вінаваціў «лісты» за тое, што яны быццам толькі тое і робяць, што даюць прытулак пастушкам ды іхнім сяброўкам або шапочуцца з рознымі зефірамі. Бескарысная аздоба дрэва тая лістота! І дзякаваць бы ім карані, якія... і г. д. Ды знакаміты акадэмік К. Ціміразеў навукова давёў усім нам, што лістота не менш за тыя карані жывіць і сілкуе дрэва. Але навуковае тлумачэнне не змяншае нашай цікавасці да тае байкі «Лісты і карані», і мы па-ранейшаму ўспрымаем маральную сутнасць твора на ўзроўні ўласных — наіўных! — уяўленняў пра ролю і значэнне кораня і пра «легкадумны» харáктар *лісця*.

Здаецца, я паўтараю агульнавядомае, але творчасць Э. Валасевіча абуджае ў мяне не адно толькі цікавасць, а і жаданне лепей зразумець прычыны тае цікавасці. Ён піша такія творы, у якіх варта «толькі змяніць імя — і гэта пра цябе» (Гарацый). Не затрымліваюся на асобных ягоных байках, бо яны добра разгледжаны тымі даследчыкамі, што вывучаюць прыроду беларускай байкі, яе традыцыі і асаблівасці.

Пішу пра гэта «было», або «дала», быццам цяпер ужо і няма тае байкі на літаратурнай ніве. Не, яна ёсць. І тыя, хто ідзе след у след за У. Корбанам, Э. Валасевічам, М. Скрыпкам, абапіраюцца не толькі на вопыт і здабыткі Ф. Багушэвіча, А. Абуховіча, М. Косіч, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы. Ды звужаецца наогул чытацкае кола ў галіне мастацкай літаратуры. Жахліва малыя тыражы паэтычных зборнікаў і нават прозы. Здаецца, якіх пяць гадоў назад мы яшчэ адчувалі грамадскую цікавасць да таго, што робіцца нашымі драматургамі і раманістамі, навелістамі і байкапісцамі, лірыкамі і фантастамі, а сёння...

Хай даруе мне юбіляр, што на такой ноце я трымаю свой юбілейны спіч у яго гонар, але... Магчыма, ён будзе сёння ў сяброўскім застоллі гаварыць зусім не пра тое. Магчыма, прыгадаюцца яму франтавыя вёрсты, якімі крочыў некалі пад варожым агнём — абараняючы родны Магілёў, на Бранскім і Заходнім франтах. Там, у акопах і шпіталях, засталася часцінка нашага сэрца — такое мы пакаленне. Э. Валасевіч быў цяжка паранены. Ды пасля вайны яго ўладарна паклікала літаратурная творчасць, і ён неяк лёгка і весе*ла заняў сваё месца ў* пачаце Байкі.

Я рады, што і пасля цяжкага ранення і пeражытых франтавых нягод Эдуард Станіслававіч ужо амаль паўстагоддзя застаецца ў страі летуценнікаў і змагароў, якія вераць у лепшую будучыню чалавецтва.

**Барыс БУР'ЯН.**

**Мікола БУСЬКО**



# А ДУХ ХАЙ БУДЗЕ ВОЛЬНЫ

●

Схілюся галавою вінавата
Перад пяшчотай
Нівы васільковай.
Я нарадзіўся
На зямлі бацькоўскай.
Ды мала ўзяў ад мудрасці
жыццёвай —
Вось і займеў
Памылак мнагавата.

Пражыць гады
Без боязі, сумлення,
Праносячы любоў сваю
Да слова,
Да Нёмана,
Зямлі,
Лясоў сасновых,
Да восеньскіх пажарышчаў
кляновых.
Жывое сэрца таххае
адменна...

●

Удачы, гора...
Усё так нечакана
Да нас прыходзіць
Кожнаю парою.
І ўся бывальшчына,
Пражытая табою,
Аж да драбніц відаць,
Нібы з экрана.

Дабавіць год нам
Вопыту і ўмення.
Ствалу дабавіць
Гадавое колца...
Спіраль жыцця
Матае час бясконца —
І гэтак — з пакалення
Ў пакаленне.

Я з небам раюся.
А болей — сам з сабою.
Я там увесь,
Дзе Млечны Шлях узнёсся.
Сузор'яў незлічоных мноства
Загадкава
Пульсуе над зямлёю.

А чалавек прысеў
Над тайнай гэтай:
А недзе ж існуюць
Да іх пуцінь?
Жыццёвы шлях праклаеці
Ён павінны
Ў нязведныя туманнасці сусвету.

А там ва ўсім
Давер,
Любоў,
Супольнасць.
Без розных партый,
Ідалаў, без злосці,
Без абяцанняў,
Рынку і зайздросці...

Я ж буду тут,
А дух хай будзе вольны.

●

Штосьці пакрыўся маршчынамі
Лёсу сучаснага твар.
Зёлкі не згладзяць нішчымныя,
І не паможа адвар.

Клопат не вымераць меркаю,
Гора — не вынайсці знак.
Стала бяднота праверкаю
Для абяздоленых нас.

Цені ля крамаў — знясілены.
З раніцы
І з кожным днём
Чэргі хвастата-пенсійныя
Злы набываюць аб'ём.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**

# ТРЫ СТАРОНКІ



## ЛЁС

Мястэчка Шарашова, што за нейкіх дзесяць кіламетраў ад Белавежскай пушчы. Мясцовыя могілкі з драўлянай царквой каля палявой дарогі. Над дзвярыма — укрыжаваны Хрыстос, намаляваны кволым рамеснікім пэндзлем. Проста пад нагамі ў Хрыста загадкавыя даты: 1500—1820. І ветраны жнівеньскі дзень. На бялёсым, нібы выцвілым небе, засмужанае няласкавае сонца. Глуха шэпчуцца між сабою старыя сукаватыя хвоі.

Каля царквы — нікім недагледжаныя магілы святароў. Паколатыя гранітныя пліты. У расколінах шызы мох і чэзлая трава. Нахіленыя каваныя крыжы няўмольна точыць рыжая ржа. Магілы, магілы... Адны ў абгародках, другія амаль зусім зраўняліся з зямлёй. Не спыняючыся, з сумам углядаўся ў фотакарткі тых, хто адышоў назаўсёды, як першакласнік, варушачы губамі, чытаў незнаёмыя прозвішчы. І не заўважыў, як апынуўся перад гэтым незвычайным помнікам, што адразу прымусіў спыніцца, застыць на месцы. Непадалёку ад сцежкі стаяла мо двухметровая, быццам зламаная на самым версе прыгожая гранітная калона светла-шэрага колеру. Лёгка прачытаў высечаныя на камені словы:

***Здѣсь погребенъ***
***Андрей***
***Васильевичъ***
***Раевскій***
***Генеральнаго штаба***
***капитанъ***
***1831 г.***

Прозвішча Раеўскі — вядомае ў расійскай гісторыі і культуры. Мне адразу згадаўся генерал Мікалай Раеўскі, пра якога чытаў у зборніку «Героі 1812 года», выдадзеным у серыі ЖЗЛ. Пра яго подзвіг пад Салтанаўкай, што дзесьці каля нашага Магілёва, напісана шмат успамінаў і вершаў. У самы рашучы момант бою, калі войскі сышліся ў штыкі, побач з генералам былі яго сыны — шаснаццацігадовы Аляксандр і Мікалай, якому не споўнілася нават адзінаццаці. Мусіць, невыпадкова пра іх бацьку Напалеон сказаў: «Ён — з цеста, з якога растуць маршалы». Пазней менавіта генерал Раеўскі вырваў апальнага Пушкіна з сібірскай высылкі, апекаваўся ім на Каўказе і ў Крыме. Малады Аляксандр Сяргеевіч быў без памяці закаханы ў юную генералаву дачку Марыю і прысвяціў ёй гэтыя цудоўныя радкі:

*Как я завидовал волнам,*
*Бегущим бурною чредою*
*С любовью лечь к ее ногам.*
*Как я мечтал тогда с волнами*
*Коснуться милых ног устами...*

Марыя Раеўская не адказала ўзаемнасцю паэту. Яна выйшла замуж за князя Сяргея Валконскага — аднаго з кіраўнікоў Паўднёвага тайнага таварыства. Потым была Сенацкая плошча. Валконскага арыштавалі. Петрапаўлаўская крэпасць і — дваццацігадовая катарга. Марыя, нарадзіўшы сына, пакінула яго на выхаванне родзічаў, адмовілася ад усіх прывілеяў і падзяліла трагічны лёс мужа. Яе братоў — Аляксандра і Мікалая — дапытваў у Зімнім сам імператар Палкін:

«Мне вядома, што вы не былі ў змове, але няўжо не чулі пра яе? Дзе ваша прысяга?»

На што старэйшы, Аляксандр, не адвёўшы вачэй, з годнасцю адказаў:

«А хіба гонар не даражэй за прысягу? Згубіўшы гонар, чалавек не можа існаваць».

Можа, капітан Андрэй Раеўскі быў у блізкім сваяцтве з гэтай сям'ёй і падзяляў іх думкі? Як жа ён апынуўся тут, у глухой заходняй ускраіне імперыі? Генеральныя штабы звычайна знаходзяцца ў сталіцах... Колькі яму было гадоў? Як ён памёр ці загінуў? Няўжо яго не абмінула паўстанне 1831 года? Тутэйшая шляхта некалькі разоў сцінался каля пушчы з царскімі войскамі.

Маркотна шэпчуцца над галавою векавыя хвоі. А адказаў няма і не будзе. Якія сведкі праз паўтара стагоддзя? Пранізлівы невымоўны жаль сціснуў сэрца. Доўга не мог адысці ад калоны, што так нагадвала непрытульную чалавечую душу.

Нядаўна чытаў у акадэмічнай бібліятэцы вельмі цікавую кнігу, выдадзеную ў Пецярбурзе ў 1863 годзе. Яе дакладная назва — «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі генеральнага штаба. Гродзенская губерня. Склаў член-супрацоўнік імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства генеральнага штаба падпалкоўнік Павел Баброўскі». Гартаючы том, перад вачыма мільганула знаёмая назва — «Шарашова». Хутка знайшоў патрэбную 1060-ю старонку, дзе падрабязна расказваецца пра мястэчка. І не мог не выпісаць наступныя радкі:

«На Шарашоўскіх могілках над магілай капітана Раеўскага ўзвышаецца невялікая гранітная цыліндрычная калона. Няшчасны Раеўскі забіты ў 1831 годзе сваім вартавым па недаразуменні, калі правяраў пільнасць вартавых. Расказваюць, што ён хацеў даказаць свайму начальніку, што вартавыя недастаткова пільныя і прапускаюць усіх без допыту. Вартавы, аклікнуўшы яго тры разы і не атрымаўшы адказу, стрэліў...»

## КРЫЖ

Сёння, 30 верасня, незвычайны дзень. Споўнілася сто гадоў з дня нараджэння Зоські Верас. Адзінаццаць месяцаў і дваццаць два дні не дажыла яна да гэтага юбілею, бадай, самага дзівоснага, які толькі можа надарыцца ў чалавечым жыцці.

Сяджу перад акном, за якім то ўсміхнецца блакітам, то зажурыцца рэдзенькім дожджыкам восеньскі дзень. Перад вачыма ці не самы яркі ўспамін са студэнцтва — вандроўка восенню 1975 года ў Вільню, да Зоські Верас. Мы выправіліся з Мінска, ведаючы, што нас сустрэнуць на чыгуначным вакзале, бо атрымалі ліст ад Людвікі Антонаўны, датаваны 17 верасня 1975 года, у якім яна пісала:

«З прыемнасцю падзялюся сваімі ўспамінамі аб Максіму Багдановічу з групай моладзі, якую гэта цікавіць. Калі вам будзе выгодна, я бы прасіла прыехаць у наступным месяцы. Ці ў пачатку, ці ў сярэдзіне — няма розніцы. Найлепш у суботу або нядзелю. Каб вам не трэба было шукаць (а гэта сапраўды нялёгкая справа), прапаную загадзя паразумецца па тэлефоне з маёй дачкой, якая жыве ў горадзе, дагаварыўшыся прыехаць да яе і разам да мяне ў мой лясны куток...»

І ўсё-такі, калі прызнацца, гэты клопат мы прынялі як знак увагі, гасціннасці, а лясную хатку, кружачы, нібыта ў сне, па дзівосных старадаўніх вулачках старога горада, вядома, уяўлялі сабе звычайнай вясковай хатай дзенебудзь на далёкай ускраіне. Нашым надзвычай дасведчаным праваднікам быў зяць Людвікі Антонаўны — Лявон Антонавіч Луцкевіч, які мог расказваць пра Вільню бясконца. Неўзабаве непаўторныя старыя будыніны і новыя, падобныя здалёк на вялікія белыя воблакі гмахі мікраараёнаў засталіся за плячыма. Мы вылезлі з тралейбуса і праз некалькі хвілін, пераскочыўшы праз чыгуначнае палатно, трапілі ў зусім іншы свет. Пачаўся лес. Хтосьці з нас захоплена выдыхнуў: «З аднае казкі — ды ў другую!..»

Але куды падзеўся наш гаваркі настрой? Чаму мы ўраз замоўклі, сціснуліся? Ішлі доўга, ішлі як у нейкім зачараваным залатым храме. Раптам яго сцены раптоўна расхінуліся. На ўзгорку нас чакала белая хатка добрай чараўніцы. І мы — не памыліліся.

На стале перада мною ляжыць папка, паўнюткая канвертаў са знаёмым, трошкі схіленым налева выразным чытэльным почыркам. Пералічыў канверты: 85 пісьмаў атрымаў я ад Людвікі Антонаўны за пятнаццаць гадоў нашага ліставання. А ў яе ж было дзесяткі, калі не сотні адрасатаў.

«Як палічыла сёння, то за тры месяцы сёлетнія, я атрымала больш як 100 лістоў і то пераважна з рознымі пытаннямі на самыя неспадзяваныя тэмы... — пісала яна мне 29 сакавіка 1979 года. — Пытаюцца аб справы 1916, 17 гадоў, аб 1919-20, 21 і г.д. Чаго не помню, шукаю ў лістах тых часоў, а часам пішу да іншых людзей, прашу інфармацыі. Усё гэта забірае шмат часу, увагі, клопатаў. А адмовіць нельга нікому, тым больш, што ў некаторых выпадках не маюць людзі каго пытацца. Вось як дрэнна так доўга жыць... ды яшчэ шмат ведаць».

Я не імкнуўся назаляць канкрэтнымі пытаннямі. Проста расказваў Людвіцы Антонаўне пра сваё жыццё, пра свае клопаты і спадзяванні. І часта атрымліваў у адказ пісьмы з нейкай асаблівa даверлівай, па-хатняму блізкай душы і сэрцу інтанацыяй. Няхай жа

## НА ДОСВІТКУ Ў ЛЕСЕ

Хараство ў фарбах тоіцца
Ад вачэй даўна.
Лес.
Дасвецце настоена
На жывіцы.
Вясна
Прыбіраецца росная
Да світальнай пары,
Каб адбіцца палоскамі
На смалістай кары.
Чую: дыхае космасам
Зорнай кніжкі радок.
Пуцявінай калёснаю
Дзень прыходзіць здалёк.
А рачулка
люстэркамі
Свеціць мне праз гады.
І не змераеш меркаю
Часу быстрай хады.
Прыйдзе час і растануся
З рэчкай,
Словам,
Травой...
Ён задзьме — не спытаецца
Зорку над галавой.
Лёсу выверты хітрыя —
След не знойдзеш прамы.
На зыходзе дзён
літары
Застануцца, а мы...

... Не выгоды кватэрныя
На працягу вякоў
Нам ствараюць матэрыю
Даўгавечных радкоў.

## ХАЦІНА ПАД СНЕГАМ

Уціснутая гадамі ў дол,
стаіць матчына хата.
Як разгорнутая кніга,
нахілілася занесеная сумётамі
страха, што помніць
пах кулявой саломы.
Мой дзед пакрыў хаціну пад колас.
І многім крыў стрэхі
пад колас і стрыхалку.
За гэта дзеду прыляпілі мянушку
Стрыхар,
якая стала прозвішчам.
Страха, надзьмутая вятрамі
трывог і падзей, гудзела.
Над ёй хмары разбіваюцца аб месяц.
Праўды, як лейцы,
зблытваюцца ў вузлы.
Імгненна пачынаецца
іскраспад, агняспад.
І — гарыць снег.
Толькі ўсяго гэтага
не бачыць і не чуе
немаўля,
суткамі сплючы
ў падвешанай да бэлькі калысцы...



паслужаць мне апраўданнем за тое, што забіраў шмат часу, радкі з другога яе ліста, датаванага 5 снежня 1983 года:

«Кажу, што шмат лістоў з пытаннямі атрымліваю, але я на гэта не наракаю... Без такой работы дажываць сваё жыццё было б сумна і пуста. Што трэба пытайцеся, пішыце...»

Божа, як я хацеў, каб яна дажыла да свайго стагоддзя! Часта думаў: няўжо яна сваім жыццём, няўжо ўсе мы, яе прыяцелі, якія бясконца любім яе, не заслужылі ва Усявышняга такую радасць — пабыць на гэтым свяце?! Штосьці значна большае, чым проста стогадовы юбілей, мне ўяўлялася ў гэтай ледзь не магічнай даце.

А што сама Людвіка Антонаўна? Як было ёй — старэнькай, нямоглай, высахлай на былінку? Яшчэ на пачатку 1988 года, 11 сакавіка, яна даволі цвёрдым почыркам пісала мне:

«Спраў у мяне не мала, а чуюся блага. Што дам рады зрабіць — не ведаю... А хіба і «адпачыць» было б ужо пара? Дакуль гэта можа цягнуцца?..»

Што я адказаў ёй — не ведаю, не помню. Звычайны бадзёры тон тут зусім недарэчы.

А жыццё — цягнулася. На Людвіку Антонаўну, якая яшчэ ў маладосці страціла слых, восенню 1988 года навалілася новая бяда — яна пачала слепнуць. Апошні ліст да мяне пазначаны 10 кастрычніка. Мо з тыдзень я чытаў тыя некалькі сказаў, напісаныя нязвыкла вялікімі, не злучанымі між сабою літарамі. Як на бяду, самапіска, якую трымала ў руцэ Зоська Верас, была, відаць, сапсутая, і таму многіх літар у словах зусім няма або ад іх засталіся толькі кропкі ды рыскі. І нават цяпер, праз гады, я не магу да канца расчытаць гэты апошні яе ліст, хоць сэнс яго зразумеў адразу: »Дарагі Валодзя і ўся Ваша сям'я! Дзякуй за памяць. Як бачыце — я ўжо зусім амаль не бачу — слепну. Калі ласка, адкажыце мне, ці згаджаецеся, каб усе Вашы лісты да мяне... разам з усімі іншымі... я аддала ў Музей-Архіў? Я ўжо здала туды каля 3 тысяч лістоў. Чакаю адказу. Усяго Вам зычу добрага. Сардэчна вельмі Л.Войцікава».

Некалькі здавалася б звычайных сказаў — і ўвесь чалавек. Яго душа, яго сутнасць, яго жыццё.

Потым, праз два тыдні, прыйшло пісьмо ад Лявона Антонавіча Луцкевіча, які паведамляў:

«Хаця мы цяпер перажываем у сябе вельмі цікавы і абнадзейваючы час, але ў нашай хаце нічога радаснага. Стан здароўя Людвікі Антонаўны значна пагоршыўся. Найгорш тое, што яна цяпер ужо амаль зусім страціла зрок. На вялікі жаль і Ваш ліст прачытаць яна ўжо не здолела. Раней мы ўсе лісты да яе спецыяльна перапісвалі вялікімі друкаванымі літарамі, але цяпер ужо і гэта не дапамагае. Сталася так хіба якіх два-тры тыдні таму назад. Такім чынам яна амаль зусім пазбаўлена кантактаў з навакольным светам, пазбаўлена магчымасці ўспрымаць якую-колечы новую інфармацыю і вельмі цяжка перажывае сваю вымушаную бяздзейнасць. Ад гэтага, вядома, значна пагоршыўся і агульны стан яе здароўя...»

З лясной хаткі, якую яна збудавала ўласнымі рукамі, Зоську Верас перавезлі ў звычайную гарадскую трохпакаёўку ці не на сёмым паверсе. А ўвесну 1990 года хатку, што засталася без нагляду, няўмысна падпалілі нейкія нелюдзі. Згарэла шмат рэчаў, часопісаў і кніг, а таксама некалькі цудоўных твораў Пётры Сергіевіча.

Ці ведала пра гэта Людвіка Антонаўна?

Пра што яна думала, аб чым успамінала ў апошнія тры гады жыцця, нібы жывцом замураваная глухой сцяной ад людзей?

Пахавалі яе кастрычніцім пагодлівым дзяньком на старых Панарскіх могілках бліз Вільні. Пад векавым дубам, што стаіць на пару з прыгажуняй ліпай. Пахавалі без слёз, з заўсёднай нашай сціпласцю. Мне ўпершыню выпала трымаць у руках крыж. І бачыць Бог — ісці з ім было вельмі цяжка. А яна, Зоська Верас, усё сваё свядомае жыццё несла на сабе гэты пакутніцкі беларускі крыж.

## БОГ ФУКУРАКУДЗЮ

Шукаў раніцай на кніжнай паліцы патрэбнае выданне і разам з часопісамі выцягнуў шыкоўны, не помню ўжо кім і з якой нагоды падараваны мне набор паштовак з калекцыі Эрмітажа — «Японская гравюра XVIII-XIX стагоддзяў». На вокладцы, чароўны над нязвыклай для майго славянскага вока прычоскай, у люстэрка глядзелася аголеная да пояса прыгажуня-японка. Хутка знайшоў адпаведную інфармацыю: «Утагава Кунісада. 1786—1856. Каля люстэрка. 1820-ыя. Дэталь».

Што ж, дэталь, безумоўна, цудоўная і вартая вокладкі. Тут са мной пагодзіцца кожны, каму трапяць у рукі гэтыя шаснаццаць кніжнага фармату паштовак. Па інерцыі прабег вачыма падрабязную анатацыю да рэпрадукцый і спатыкнуўся вось на чым...

Японія ў XVII-XIX стагоддзях з'яўлялася ў поўным сэнсе паліцэйскай дзяржавай. Усе бакі сацыяльнага і асабістага жыцця японца строга рэгламентаваліся. Разам з тым у атмасферы «не свабоды» своеасаблівай «нічыёй зямлёй», дзе форма паводзін не была прадпісана зверху, дзе гараджанін, хоць на нейкі час, мог адчуць сябе раскавана і незалежна, сталі «вясёлыя кварталы». Сюды прыходзілі на спектаклі тэатра Кабукі. каб падпісаць камерцыйныя пагадненні і, вядома, наведацца ў чайныя дамы, гаспадыні якіх славіліся прыгажосцю, а таксама вытанчанасцю манер і тонкім густам.

Карацей, у тагачаснай Японіі, як мне падалося, панаваў амаль узаконены двайны стыль паводзін. І мяне зацікавіла: як такая акалічнасць паўплывала на мастацтва, у прыватнасці на графіку.

Перадусім пра цэнзуру. Без яе, зразумела, не абыходзілася. У 1842 годзе японскі ўрад прыняў нават спецыяльна ўказ, які пасрэдна тычыўся гравюры. Напрыклад, былі строга забаронены выявы тагачасных папулярных артыстаў. Імёны іх, як сцвярджаюць мастацтвазнаўцы, сапраўды зніклі з аркушаў, але аматары тэатра лёгка пазнавалі ў партрэтных серыях сваіх куміраў.

Або такі штрых. На гравюры Утагава Куніёсі з серыі «Біяграфіі верных васалаў: Катаока Дэнгаэмон Такафуса» стаіць ажно чатыры пячаткі — школы Утагава, выдаўца Эбія Рынасукэ і пячаткі цэнзараў Мурата Хэймона і Мэра Таіціра. Яны мне адразу нагадалі вядомыя ўсім знакі якасці. Між тым Катаока Дэнгаэмон Такафуса — знакаміты самурай пачатку XVIII стагоддзя, калі так можна сказаць, рэальнае ўвасабленне самурайскай маралі. Якая тут можа быць крамола?

Цікавая сама гісторыя, дзякуючы якой з'явілася гравюра. Аднойчы ў палацы ваеннага правіцеля — сёгуна — прыдворны Кіра Кадзука-но зняважыў Асано Тукумі — правіцеля правінцыі Ако. Разгневаны Асано выхапіў меч і параніў крыўдзіцеля. Падобныя ўчынкі ў палацы караліся смерцю. Асано арыштавалі і прыгаварылі да самазабойства. Самураі, што знаходзіліся ў яго на службе, засталіся без пана, сталі ронінамі. Не забыўшы прысягу, яны пакляліся адпомсціць: напалі на сядзібу Кіра, забілі яго, а потым усе як адзін зрабілі сабе харакіры. Сярод іх быў і Катаока Дэнгаэмон Такафуса.

Здавалася б, эфектная кампазіцыя, яркія дэталі так і просяцца на паперу, а Куніёсі малюе самурая седзячы, у традыцыйнай позе, цяжка, абедзвюма рукамі абапёртага на баявую піку. Найперш што ўражвае, — дасканаласць і завершанасць ліній, строгая, але вельмі ёмістая лаканічнасць. Наогул, гэта характэрна ўсім без выключэння партрэтным аркушам, што трапілі ў набор. Міжволі згадаліся японскія вершаваныя формы — танкі і хоку. Першая, як вядома, складаецца з пяці радкоў, другая — з трох. І ў абедзвюх, нібы ў чароўнай кроплі, выяўляецца ўся гама чалавечых пачуццяў, няўлоўных настрояў, думак, скажам, як вось у гэтым уздыху геніяльнай японскай паэткі IX стагоддзя Она-на Камаці:

***Распусціўся дарэмна,***
***Абляцеў цвет вішнёвы.***
***О, век мой нядоўгі!***
***Не жмурачы вочкі, гляджу***
***Позіркам доўгім, як дождж.***

Старыя японскія графікі таксама глядзелі на свет шырэй, чым пільныя ахоўнікі самурайскай маралі, што ставілі свае пячаткі на мастацкіх творах. І нездарма бога шчасця Фукуракудзю (гравюра Судзукі Харанобу) сустракаеш... у цырульні! Майстрыха, каб зрабіць прычоску незвычайнаму наведвальніку, аж узлезла на ўслончык. Аказваецца, з Фукуракудзю можна пажартаваць, нават пасмяяцца з яго, і ніхто цябе не абвінаваціць у наўмысным блюзнерстве. Як сказана ў анатацыі, у творчасці Цёкасая Эйсе самымі цікавымі аказаліся аркушы з серыі «Спаборніцтвы прыгажунь вясёлых кварталаў». Ад партрэта гейшы Вакамурасакі з чайнага дома Кадатамая цяжка адарваць вочы. Перад табою сама жаноцкасць. Непераможная і непадсудная. Астатняе ўсё — не істотна.

А як абысці маўчаннем цудоўны аркуш Ісода Карусая з серыі «Узоры мод: мадэлі новыя, як вясновая лістота», створаны ў другой палове XVIII стагоддзя? Адна назва чаго варта! На пярэднім плане. Ён і Яна пад вялікім чырвона-зялёным парасонам. Аднак не яркім, а стрыманым па тоне. Можа, свае карэктывы ўнёс друк ці няўмольны час? Побач з Ёю, трошкі ўглыбіні аркуша, дзве маладзенькія прыгажуні з кветкамі ў прычосках. Таксама пад парасонам. Нават пад двума, бо парасон, што трымае Ён, хавае ад дажджу і жонку, і дачок.

Не буду апісваць «новыя моды» — трэба самому іх бачыць, і, канечне, ведаць дэталі адзення, што і як называецца, чым я, на жаль, пахваліцца не магу. Шкада, што ў развагах складальніка амаль не ўспамінаюцца такія «дробязі».

Пакуль перабіраў паштоўкі, не заўважыў, як мінула некалькі гадзін. І ні разу не стукнула ў галаву штосьці з грубай паліцэйшчыны ці змрочнага сярэднявечча. Затое ўпэўніўся яшчэ раз: для Мастацтва не існуе ніякіх межаў у часе і прасторы. Менавіта Літаратура і Мастацтва з'яўляюцца пераканаўчым апраўданнем нашай зямной цывілізацыі — памылкі? загадкі? эксперыменту? бясконцага Сусвету. Найперш, нягледзячы на ўсю сваю шматаблічнасць, усвядоміла гэта рэлігія. Лепшым доказам таму — храмы, абразы, скульптура, духоўная музыка, нарэшце — гравюра. Зразумела, не толькі ў Святых Кнігах і неабавязкова падобная на аркуш Судзукі Харунобу «Бог шчасця Фукуракудзю ў цырульні».

# РАТУНАК ДЛЯ ЗНЯВЕРАНЫХ

## Опера «Князь Наваградскі» А.Бандарэнкі: прэм'ерныя ўражанні

САМАЕ глыбокае пачуццё перажываецца моўчкі. Але «маўклівы дыялог» з чытачамі — немажлівы, без слоў не абысціся. Словы, словы... Нешта ж могуць і яны. Перадаць фабулу спектакля, напрыклад. Ці настроіць думкі чытача на пэўны лад. Выклікаць на спрэчку нязгодных. Улагодзіць салідарных. Зацікавіць недасведчаных.

Што да недасведчаных — дык не бяруся пераказваць для іх зараз сюжэт «Князя Наваградскага». Адпаведная інфармацыя з'яўлялася ў «ЛіМе» і на пачатку працы над операй, пасля прэм'еры (14.12.90 г., 22.11.91 г., 18.12.92 г., 25.12.92 г., 1.01.93 г. і інш.). Самы ж надзейны спосаб дазнацца «пра што» новы спектакль — схадзіць у тэатр, дзе непасрэдныя глядацкія ўражанні падмацуе праграмка з кароткім пераказам падзей усіх сямі карцін гэтага трохактавага відовішча. Пераказ той, дарэчы, дапаўняе прадмоўка незабыўнага М.Ткачова і пра гістарычную ролю Наваградка як першай сталіцы ВКЛ, пра Міндоўга, першага князя (затым і караля) беларуска-літоўскай федэратыўнай дзяржавы, пра сына ягонага, Войшалка, праваслаўнага манаха ды князя, якому беларускія даследчыкі адводзяць галоўную ролю ў стварэнні Вялікага княства Літоўскага...

Натхнёная гісторыяй станаўлення нашай дзяржаўнасці п'еса Л.Пракопчыка «Князь Наваградскі» легла ў аснову аднайменнай оперы А.Бандарэнкі на лібрэта В.Іпатавай; пастаноўшчыкі — дырыжор М.Калядка, рэжысёр С.Штэйн, мастак Д.Мохаў, хормайстры А.Кагадзееў, Н.Ламановіч, Г.Луцэвіч, балетмайстар У.Колесаў. І прасцей за ўсё зрабіць выснову, што новы музычна-сцэнічны твор — гэта гістарычная драма, у цэнтры якой перыпетыі рэальнай палітычнай сітуацыі на землях нашых у XIII ст.; што праблематыку оперы фарміраваў аўтарскі погляд на падзеі ля калыскі беларускай дзяржаўнасці, на станаўленне асобы ў барацьбе за інтарэсы свайго краю.

Калі хто бачыць у «Князі Наваградскім» іменна гэта, ён пасвойму мае рацыю. Пэўна ж, з канкрэтна-гістарычных ды сацыяльна-класавых пазіцый глядзела некалі публіка оперы «Дон Карлас», і «Рыгалета», і «Жыццё за цара» («Іван Сусанін»), і ... Ну, а сёння? Ці так ужо хвалююць нас палітычныя стасункі оперных герояў, ці не ўспрымаюцца іх класічныя вобразы як носьбіты вечных чалавечых страсцей, грахоў ды ідэалаў?

Задаю сабе пытанне: пра што опера? І дапускаю як мінімум чатыры абгрунтавана-пераканаўчыя адказы: кампазітара, лібрэтыста, рэжысёра, мастака. Каб калектыўную творчую працу рабілі сапраўдныя адзінаверцы-аднадумцы — гэта магчыма, як Богам дадзенае сямейнае шчасце: выпадак не выключны, але й не шараговы.

Дык вось. Паступовыя, ад прагляду да прагляду, уваходзіны ў свет «Князя Наваградскага» пераконвалі мяне, што з самага пачатку існавалі чатыры пазіцыі адносна ідэйнай канцэпцыі оперы. Чатыры розныя светапогляды злучыліся, аднак, у высакародным памкненні — стварыць яркі ды якасна новы нацыянальны оперны спектакль. Высакародныя памкненні ганараваў трыумфальны поспех прэм'ернага паказу. У тэатры — падзея! Але за кожнай падзеяй цягнецца шлейф сумненняў: ад прынцыповых пярэчанняў да дробных зачэпак...

Першыя хвіліны спектакля, прызнацца, мяне збянтэжылі. Вядома, што ўверцюра, аркестравы ўступ ці пралог да оперы — своеасаблівая аўтарская прадмова кампазітара. І толькі кампазітара! Як дамінуючай асобы ў тандэме стваральнікаў спектакля, бо опера (вызначыў класік) — гэта драма, пісаная музыкай. Аднак, парушаючы жанравае табу, рэжысёр-пастаноўшчык з першых аркестравых фраз рассоўвае заслону і прапануе нечаканае сцэнічнае прачытанне музычна-тэматычнага матэрыялу пралога. Настолькі нечаканае, што гледачу ўжо робіцца не да музыкі. Яна ўспрымаецца як гукавы фон да дзеянняў масоўкі: блукаюць амаль у поцемках жанчыны, знаходзяць нешта, і гэтым «нешта» аказваецца ... герб «Пагоня», які дбайныя рукі чапляюць да трывушчых тросаў — і герб павольна ўзнімаецца над сцэнай, выклікаючы захопленыя воплескі адных і неўразумеласць астатніх (некалі ж так узнімалі іншыя дзяржаўныя сімвалы ці партрэты правадыроў).

Зрэшты, чаму б рэжысёру і не перакінуць масток ад колішняга да надзённага? Зроблена гэта шчыра. Вось толькі музыка не падпарадкавалася, засталася нібы збоку. А кампазітар, пэўна, засяродзіўся на нечым надзвычай важным, глыбінным, адвечным, тым, што «над усім», — каб настроіць адпаведна і публіку... Больш прыдаецца «Пагоня» ў III карціне (зварот Міндоўга да народа) ды ў фінале, калі падняты з пылу і падтрыманы дзіцячымі рукамі (хор студыі ДАВ-Та), узыходзіць сімвал старажытнай і маладой беларускай дзяржаўнасці.

Выява герба — гэта, бадай, адзіная канкрэтна-гістарычная пазнака ў сцэнаграфіі. Смутная часіна, змрочнае XIII стагоддзе ў цэлым карэктуецца адцягненай сузіральнасцю мастака і паўстае ў сцэнічнай прасторы, споўненай рамантызаванага паветра, у мяккіх смарагдава-белых драпіроўках дэкарацый, што трансфармуюцца ва ўмоўныя абрысы храма і рытуальных свечак, ці мо падсвечнікаў; матэрыялізуецца ў адмыслова пакроеныя прыгожыя апраткі, сугучныя модзе еўрапейскага Сярэднявечча...

Але не ўмоўнасці пластычна-выяўленчых кампанентаў спектакля апынуліся ў цэнтры кулуарных абгаварэнняў. Найбольшыя спрэчкі выклікала работа кампазітара: у сценах беларускага опернага загучала нязвыклая тут мова музычнага эпасу. Мова, на якой трэ было вучыцца гаварыць і дырыжору, і салістам. Дый харыстам давялося пашукаць вакальны вобраз магутных па-майстэрску выпісаных А.Бандарэнкам харавых фрэсак — духоўнага, мастацкага, сэнсавага апірышча твора. (Музыказнаўцы адзначылі аратарыяльнасць «Князя Наваградскага» як тэндэнцыю, характэрную для опернай творчасці ў XX ст.).

Няворaныя пласты партытуры «Князя Наваградскага» разварушваюцца выканаўцамі марудна, але ўсё відней і шчыльней прабіваюцца на паверхню парасткі закладзенай кампазітарам грунтоўнай мастацкай ідэі. Недальнабачным жа ўсё мроіцца манахромная роўнядзь... Прызвычаіліся ў нас ацэньваць музыку «па гарызанталі», па верхнім нотным радку: маўляў, ёсць запамінальная (а лепей — ужо да нечага падобная) мелодыя — значыць твор удалы. Але тут спрошчаны масава-песенны падыход не спрацоўвае. Няма ў «Князі Наваградскім» кідкіх інструментальных тэм, арый-шлягераў. У кампазітарскую мову А.Бандарэнкі ўслухоўвацца трэба «па вертыкалі», нібыта спускаючыся зверху ўглыб.

Не ўсё адкрываецца адразу — што ж тут дзіўнага? Гэтаксама, чытаючы летапіс, бачыш знаёмыя словы, але цалкам тэкст падаецца манатонна-цяжкім, неўразумелым. Затое ўвайшоўшы ў летапісны стыль, пачынаеш спасцігаць мудрасць аўтара, шануючы таямніцу творчай натуры. І радуе, што не толькі крытыкі, а і самі выканаўцы прызнаюць творчую запазычанасць тэатра перад кампазітарам, музыка якога не набыла пакуль адэкватнага сцэнічнага ўвасаблення, а выкананне — звычайнай прафесійнай ахайнасці (што сталася, напрыклад, з дыкцыяй?).

Гэты творца і не мог звяртацца да слухачоў інакш, як у манеры хрысціянскай прыпавесці. Гісторыя князя Наваградскага спалучылася са свядомасцю, эрудыцыяй ды інтэлектам А.Бандарэнкі вельмі своеасабліва, індывідуальна. Маючы не толькі першыя, а ўжо даволі трывалыя і розныя ўражанні ад оперы, я зусім пэўна ўспрымаю сэнс, закладзены кампазітарам у музычную драматургію. І чую прыпавесць пра чалавека, заспетага промыслам Божым у часіну ваганняў. Бачу трагедыю манаха-ваяра, стурбаванага выбарам: подзвіг дзеля найвышэйшых духоўных ідэалаў або дзеля вялікай палітычнай ідэі. Чую казанне пра любоў хрысціянскую, пра грэх ды пакаянне, пра вечны маральны паядынак людзей, якія з Богам у душы, і носьбітаў разбуральнага прагматызму атэістычнай свядомасці. Я суперажываю гісторыі чалавека, які, зведаўшы здраду бацькі, знайшоў айца духоўнага і акрыяў для новага жыцця; які, страціўшы каханую, спазнаў вялікую любоў да людзей; які, зняверыўшыся ў паганстве, прыняў закон адзінага Бога.



Упершыню ў нашай опернай музыцы так адкрыта прысутнічае праваслаўны дух, акумуляваны ў харавых малітвах. Аднак жа, хаця і называюць музыку роднай сястрою рэлігіі, храм опернага мастацтва, вядома, не царква, і людзі сюды ідуць з адпаведнымі мэтамі.

Што можа ўразіць у «Князі Наваградскім» тых, хто трапляе на спектакль упершыню? Магчыма тое, на чым спынялася і мая глядацкая ўвага.

У першай жа карціне — надзвычай выразная постаць: удоўка Любава ў выкананні Н.Казловай. Пачатак II карціны, светлыя пастаральныя фарбы, якімі расквечаны свет па-дзіцячы бестурботнай Руты: зусім юнай, наіўна-радаснай, адкрытай — у В.Курбацкай і паэтычнай, з ледзь прыкметнай хмурынкай няспраўджанай мары, — у Н.Кастэнкі. Бацькоўская цеплыня ды надзейнасць баярына Рамана (А.Кеда), гэтак трапятліва падкрэсленая кантыленай віяланчэлі, і — кантрастам — халаднаватая рацыяналістычная музычная характарыстыка Зіберта, тэўтонскага рыцара-манаха (удалая работа Г.Чэпікава). Нечаканае застолле са з'яўленнем каларытных беларускіх музыкаў (група лірнікаў пад кіраўніцтвам У.Пузыні).

«Народ вялікі мне даверыў княства», — гэта Міндоўг. У III карціне — ягоная разгорнутая сцэна. Халодзіць

# «НА ЎЗРОВЕНЬ ПАРТЫТУРЫ...»

## Фрагменты выступленняў за «круглым сталом» у тэатры

**Алена САЛАМАХА, музыказнаўца:**

— Я ўспомніла некалькі беларускіх оперных прэм'ер апошняга часу, якія заўжды ўспрымала з такога пункту гледжання: дзе мацней музычны бок, дзе мацней сцэнічны, або ўсё гэта ў шчаслівай гармоніі. Дык вось, часцей мне даводзілася думаць, што музыку, ад якой быццам бы многага й не чакалася, тэатр «дацягнуў» да таго, што атрымаўся вельмі вартасны спектакль. Гэтак было ў «Дзікім паляванні караля Стаха», вельмі нароўным усё-ткі па развіцці, па якасці матэрыялу. Тое сказала б і пра «Майстра і Маргарыту», што сталася даволі цікавай з'явай менавіта тэатральнага мастацтва. Мне здаецца, што ў «Князі Наваградскім» тэатр яшчэ крышачку ў даўгу перад кампазітарам, яшчэ трэба падняцца якраз на ўзровень партытуры... Вось і са сцэнографам можна не пагадзіцца. Каларыстычнае вырашэнне — ёсць. Касцюмы, напрыклад, па колеравай гаме настолькі ўраўнаважаныя, што могуць нагадаць старадаўнія фрэскі. У гэтым ёсць нейкі стыль, дапусцім. Але чыста сцэнаграфія, бадай, вобразнага вырашэння не дае...

**Радаслава АЛАДАВА, музыказнаўца:**

— Усе чакалі беларускага «Івана Сусаніна»: узнікла тая сітуацыя, якая была ў 48-м годзе, калі ўсе чакалі, што вось з'явіцца першая класічная нацыянальная опера. І калі з'яўлялася, гаварылі: «Яна недацягвае». Я думаю, тут гэткі параўнаўчы кантэкст зусім непатрэбны, бо опера А.Бандарэнкі вельмі індывідуальная. І тое, што зроблена тэатрам, — гэта нейкая з'ява самабытная. Спектакль лічу вельмі ўдалым у сэнсе гарманічнасці спалучэння працы і кампазітара, і дырыжора, і рэжысёра, і мастака, хаця ёсць прэтэнзіі, безумоўна. Што тут самабытнага, стыльнага, індывідуальнага, якое, мабыць, крыху замінае ўражанню тэатральнага, — тое, што гэтая опера спачатку і задумана, верагодна, як аратарыяльная рэч. Гэтая аратарыяльнасць тлумачыць для мяне многае ў драматургіі, што датычыць характарыстыкі галоўных герояў. Яны тут ніяк не цягнуць на нейкую псіхалагічную распрацоўку, як мне ўяўляецца: характары даюцца, як у араторыі, — буйна, манументальным планам, і ў дадзенай сістэме выразных сродкаў, сістэме ідэй мяне гэта пераконвае. Як харавая опера «Князь Наваградскі» цалкам цудоўны твор, самае моцнае ў музычным сэнсе, найсамабытнае ў стылі — гэта хоры. Але ўсё-ткі галоўнае дзеянне тут адбываецца ў аркестравай партыі, таму хацелася б, каб яна была больш дэталізавана вывучана, пакуль жа ёсць выканаўчыя накладкі: нічога не скажаш, гэтая аркестравая партыя складаная... для аркестра, і хочацца, каб яна была даведзена да належнага ўзроўню.

У пэўным сэнсе аратарыяльнае вырашэнне С.Штэйна мне ўяўляецца дастаткова пераканальным. Гэта моцная, мо ў нечым акадэмічная традыцыя. Але, канечне, спекулятыўнае акцэнтаванне нацыянальнай ідэі мне здаецца просталінейным, рэдкія воплескі на ўздыме новага «сярпа ды молата» лішні раз сведчаць, што гэта пралік рэжысёра.

А што мне падалося момантам спрэчным — гэта, мабыць, сама п'еса, да якой звярнуўся кампазітар. Яна вымагае яшчэ, безумоўна, умяшальніцтва літаратурнага рэдактара, літаратурная праўка тут

сэрца аркестравая абмалёўка вобраза славалюбівага ўладарнага палітыка; уражваюць і эфектная пастава, і сама інтанацыя князяваяра (М.Майсеенка). Маляўнічы велічальны хор. Фанфарная ўзнёслась ад удзелу ў дзеянні сцэнічнага аркестра (кіраўнік М.Берсан). Праўда, ён жа ўносіць і пэўнае пярэчанне ў зрокавы шэраг. Пагадзіцеся, што сучасныя фірмовыя трамбоны ды валторны дзіўнавата спалучаюцца з уборамі кшталту рыцарскіх кальчугаў, разбураючы ўмоўны тэатральны вобраз. Скарыстанне сцэнічнага аркестра — цудоўны мастацкі прыём, выпрабаваны яшчэ опернымі класікамі. Але сённяшнім медным духавым інструментам, уведзеным у пастановачны малюнак, не зашкодзіў бы нейкі «грым» ці камуфляж: XIII стагоддзе ўсё-такі...

Дуэт Руты ды Войшалка ў III карціне быццам пазначае іх далейшы лёс. Ужо не той ваўкаваты паганец, якім з'яўляўся герой (У.Экнадзіёсаў, А.Тузлукоў) на пачатку оперы, а пяшчотай ахоплены чалавек адчуваецца ў музычным вобразе — ці не тут інтанацыйны выток будучай трансфармацыі асобы Войшалка-Васіля, выток ягонай любові да Бога і свайго народа? Трывожна пачынае гучаць голас Руты: ужо тчэцца тая вакальная ніточка, што журботнаю згадкай праніжа ўсю тканіну оперы. Голас згубленай каханай і ейны прывід будуць суправаджаць самоту Войшалка ўсё ягонае жыццё...

Пікантны жаночы вобраз — Квета, жонка Міндоўга (Н.Руднева). Арнаментальная авалочлівая мелодыка, прыхаваная спакушальнасць пластыкі рухаў, эластычны галасок... Адзіная ўцеха і адзіная дарадца для Міндоўга, які толькі побач з Кветай робіцца самім сабою, дае волю і сумненням, і шчырасці.

Рытуал ахвярапрынашэння Перуну, ператвораны ў замаскіраванае забойства Руты (V карціна) — дыхтоўнае сімфанічнае палатно. Адмысловы, як рытуальная гамонка шаманскага бубна, асцінатны рытм, фанатычныя воклічы духавых у высокім рэгістры, невыносна-зацятае напружанне ў аркестры, — усё выклікае прадчуванне падзеі немінучай, страшнай і злачыннай. Здаецца, што музыкаю выказана невымерна больш, чым «прачытваецца» ў пантаміме сціснутых акцёрскіх кулачкоў, азораных вогненна-крывавым святлом...

У 3-й дзеі цікава раскрываецца Войшалк-Васіль (для выканаўцаў роля «навырост»): одум ля збудаванага храма, дыялогі з манахам Елісеем (Я.Пятроў), процістаянне «хаўрусу спакушэння на княства», горкае прызнанне ў тым, што «не здолеў аб'яднаць уладу і любоў», наканаванае сутыкненне з ганарлівым Львом Данілавічам (яркая работа М.Жылюка).

Захапляе ўдумліва-традыцыйная рэжысура псіхалагічна складанай апошняй дзеі. Але — дзве заўвагі. Нядобра, калі герой жагнаецца, павярнуўшыся тварам да залы, а да храма з абразамі — спіною. І фінал: узнясенне над сцэнай Войшалкавай фігуры ў белым не толькі намякае на ягоную святасць, а і выклікае аналогію з узнясеннем сына Божага. У дачыненні да супярэчлівай, трагічнай постаці наваградскага князя першае — залішне, другое — недарэчна. Зрэшты, пэўныя шурпатасці, як і раней, кампенсуюцца хорамі. Прыгожая малітоўная музыка распачынае 3-ю дзею. А канчатак робіцца сапраўднай духоўнай кульмінацыяй оперы. Назва заключнага хору «Молитва на умиротворение враждующих» (тэкст, як і ў большасці хораў, кананічна царкоўнаславянскі), — такая назва кажа сама за сябе.

«Канспект уражанняў» у маім блакноце, вядома, ямчэйшы за напісанае тут. Але вынікае з іх усё тое ж: аўтаномнасць творчых падыходаў і памкненняў у гэтым першым і таленавітым эпічным феномене нашага нацыянальнага музычнага тэатра. Ёсць магутная хрысціянская пазіцыя кампазітара (між іншым, яго высокі мастацкі вынік варты асаблівага захаплення, калі згадаць, што гродзенец А.Бандарэнка працаваў «вобмацкам», пазбаўлены, у адрозненне ад сваіх мінскіх калег, пастаяннага творчага кантакту з тэатрам, з аркестрам, а значыць і магчымасці выпрабоўваць ды карэкціраваць музычныя ідэі). Ёсць новаадраджэнская гісторыка-культуралагічная пазіцыя лібрэтыста. Ёсць прафесійная спрактыкаванасць рэжысёра, захопленага нязвыклым вобразна-тэматычным матэрыялам і жаданнем злучыць яго з палітычным момантам сённяшняга дня. Ёсць замілаванасць мастака-эстэта, уражанага некалі краявідамі Наваградчыны, смарагдавай зелянінай ды беллю туманаў, утопленага ў вобраз «зямлі пад белымі крыламі». Кожны імкнуўся рэалізавацца, не пакідаючы сваёй пазіцыі...

Тэатральная аксіёма сведчыць: колькі б ні абмяркоўвалі пастаноўку, прынцыповых змен у ёй ужо не адбудзецца. І вось яшчэ аксіёма: немагчыма двойчы ўбачыць адзін і той жа спектакль, бо ён штораз непаўторна іншы. Трэці прэм'ерны паказ, які адбыўся днямі, канешне ж, адрозніваўся ад папярэдніх не толькі выканаўчым складам і даў падставу для новага абгаварэння. А дзе абгаварэнне — там і спрэчкі, якія спадарожнічаюць падзеям сапраўдным і неадназначным.

**С.БЕРАСЦЕНЬ.**

*Фота У. ШУБЫ (БЕЛІНФАРМ)*

---

неабходная. У цэлым жа, наколькі я разумею, тут не прадугледжвалася этнаграфічнага моманту, няма ні кроплі нейкіх дакументальных канкрэтных элементаў, усё вырашаецца ў абагульненым плане. Калі б я падыходзіла да гэтай оперы гістарычна, я б яе наогул не прыняла. Гісторыя тут ёсць падстава для стварэння. Гэта меладрама на нацыянальным матэрыяле. Тое, што зроблена ў спектаклі, з апорай на музыку, якая ў цэлым дае архаічныя пласты, але дакументальна не ўзнаўляе музыку XIII ст. (гэта пракоф'еўская трактоўка гістарычнага), дык — у прынцыпе мяне гэта задавальняе. Але я не збіраюся падыходзіць да яе як да гістарычнай оперы. Пра оперу трэба меркаваць паводле таго, што ў ёй ёсць, а ёсць цудоўны музычны матэрыял...

**Эльвіра АЛЕЙНІКАВА, музыказнаўца:**

— Лягчэй напісаць востродраматычную нейкую, канфліктную сітуацыю, эпатычную па сваіх страсцях, — цяжэй данесці думку філасофскую, эпічную да свядомасці іншага чалавека... Што ёсць самае істотнае, прынесенае гэтай музыкай у наш тэатр і ў беларускае мастацтва, — гэта высокая духоўнасць. Калі слухаеш музыку А.Бандарэнкі, не думаеш, якое гэта стагоддзе, стары ці малады яе аўтар, — проста адчуваеш за гэтым добрую, багатую, чыстую славянскую душу, па чым мы так засумавалі ў мастацтве. Трэба сказаць, што сярод беларускіх кампазітараў А.Бандарэнка адрозніваецца нейкай незвычайнай цэласнасцю душы і натуры, што ўвогуле рэдка ўласціва музыканту, і асабліва кампазітару.

---

# ПАДЫМАЦЦА НАПРАСТКІ

***Над чарговаю роляю ў драматычным спектаклі Рыда Таліпава скончыла працаваць балерына Таццяна ЯРШОВА. Роляю журналіста ў гутарцы з ёю выпрабоўвае сябе Рыд ТАЛІПАЎ на нашых старонках.***

—Таццяна, вы зорка першай велічыні, у вас шмат прыхільнікаў, на вашых спектаклях бурныя авацыі, мора кветак... Як вы мяркуеце, ці спраўдзілася вашае жыццё?..

— Творчае?

— Творчае, вядома... Дзяўчынка Таня, якая некалі прыйшла ў балетную школу, нейк жа ўяўляла сваю будучыню...

— Усе дзеці хочуць танцаваць, перадусім дзяўчаткі. Я заўсёды цудоўна разумела, што ўсяму свой час, трэба ўмець чакаць. А балетныя дзеці, паступаючы ў вучылішча, ведаюць, чаго хочуць. У мяне заўсёды было адчуванне, што ўсё спраўдзіцца, але невядома калі і як... Прадчуванне вялікай працы заўсёды рухае чалавекам. Пасля вучобы можна было адпачываць: летам — на вакацыях, заняткі закончыліся ў чатыры гадзіны — можна дамоў. Не, мы бавіліся ў класе амаль круглы год і цэлымі днямі. Часам нікога няма — я адна. Не хачу ў залу, але збіраюся, надзяваю балетныя туфлі... Мяне штосьці штурхала: прыйду, пачну сёе-тое рабіць перад люстэркам, нешта выяўляць — уцягнуся! Цяпер прасцей: я разумею, што пэўны шлях проста трэба было прайсці, — як досвед.

— Праз досвед — спраўдзілася ваша творчае жыццё?

— Ну вядома! Мне вельмі пашанцавала. Я не кажу пра нейкія вяршыні, я — пра рэпертуар. Бо акцёра стварае рэпертуар, а ён у мяне ад Кармэн да Жызэлі...

— І Ундзіны...

— Так, Ундзіны — гэта самае апошняе.

— Я помню, што вы вельмі хутка ўвашлі ў гэты балет. Разумею, што такое ўвайсці ў спектакль, калі ён ужо гатовы. Колькі трупа працавала над гэтым балетам?

— Тры месяцы.

— А вы?

— Дзевяць дзён...

— Дзевяць дзён?! Гэта фантастычна! Як так?

— Гэтага ніхто не ведае, і, напэўна, не трэба ведаць. Гэта вельмі ўжо асабістае...

— Але як вы ўсё-такі трапілі ва «Ундзіну»? Туды, наколькі мне вядома, была прызначана моладзь...

— Я была прызначана рэпетытарам і, як той казаў, была «ў матэрыяле». А падчас рэпетыцый «Ундзіны» я рыхтавала моладзь для маскоўскага Дзягілеўскага фестывалю і заставалася па-за пастаноўкаю. Зусім. Нават ніводнага разу не бачыла, толькі чула, як складана, і, галоўнае, доўга цягнуцца рэпетыцыі, а ў нас ніхто не прывык працаваць над спектаклем тры месяцы...

— Елізар'еў ставіць свае спектаклі менш чым за тры месяцы?

— Так, ён свае спектаклі ставіць вельмі хутка. Ягоны балет у прынцыпе заўсёды падрыхтаваны і прадуманы да рэпетыцый. Балетмайстар заўсёды пэўна ведае, чаго хоча.

— Але вернемся да «Ундзіны»... Тры акты. Фантастычна кароткі тэрмін падрыхтоўкі. Неверагодна складаная музыка Хенце...

— Так, яе нават спяваць немагчыма, на памяць яна не кладзецца. Таму вучыла я так — адны рухі, рухі на даўжыню гуку, не тое што на мелодыю... Запісвала ўсё, кожны рух, інакш усё гэта вывучыць было б немагчыма.

— Наколькі я ведаю, балетмайстар Ален Бернард, аўтар «Ундзіны», ацаніў ваша выкананне вельмі высока, адзначыўшы вытанчанасць, індывідуальнасць трактоўкі. Я ж убачыў ва «Ундзіне» новыя грані Яршовай...

— А пачала я, вядома ж, з царквы. Пайшла адтуль і думаю: не, тут я адна не спраўлюся... Нідзе, ні ў адным балеце такога я за сабою не назірала! На такую... як тут мовіць... уласную духоўную вышыню ніколі яшчэ не ўздымалася... Пакуль я працавала, я не магла ні спаць, ні есці, я была ў любы момант гатова танцаваць, у любы момант... Настолькі я захварэла, заразілася гэтым балетам. Цяпер я і музыку ўспрымаю інакш, там такія неверагодна прыгожыя, моцныя моманты! Музыка закранае ўва мне такія струны, якія ні адна музыка ні ў адным балеце яшчэ не закранала!

— Чайкоўскі прызнаваўся, як у юнацтве ўяўляў, што музыка заўсёды возьме сваё ў балеце, нягледзячы на ўсе недахопы лібрэта. А Асаф'еў казаў, што перамога музыкі пагражае разбурыць цэласнасць балетных спектакляў. Мо гэта і пра «Ундзіну»? Калі б я яе слухаў як сімфанічную музыку, магчыма, яна б не ўражвала так моцна, але калі я БАЧУ музыку, вас, — я бачу балет, ёсць БАЛЕТ... Гэта неверагоднае зліццё, адчуванне, што не вы «танцуеце пад музыку», а яна зыходзіць ад вас... Неверагодная лёгкасць, тонкасць. Я не адчуваў пад вамі сцэны, вы былі як з паветра... Але ж мяне як рэжысёра драмы цікавіць, што ж такое для вас музыка і драма, г.зн. музыка і лібрэта спектакля, калі гэта ўсё-такі трыадзінства — музыка, лібрэта, харэаграфія?

— У ідэале, вядома, трыадзінства. Але часцей за ўсё бывае, што нешта мацнейшае. Напрыклад, «Спячая красуня», — музыка геніяльная, харэаграфія геніяльная, а лібрэта...

— Таксама заўсёды крытыкавалі лібрэта «Раймонды» — што і Пеціпа мацней, і Глазуноў, але вось лібрэта Пашковай... Але ўсё-такі вось ужо восемдзесят гадоў балет жыве, і яшчэ будзе...

— Відаць, адно за кошт другога ўраўнаважваецца... Акрамя «Жызэлі», напэўна, назваць яшчэ нейкі цэласны спектакль вельмі цяжка.

— «Жызэль» вы ставіце вышэй за ўсё?

— Так. Шмат што пераглядзеўшы і перетанцаваўшы, — так, вышэй за ўсё.

— «Жызэль» скаланае. Памятаю сваё самае яркае ўражанне дзяцінства, калі я, седзячы ў мамы на каленях, глядзеў у Вялікім тэатры «Жызэль» у выкананні вялікай Уланавай. З таго часу гэта мой самы любімы балет. Я пераглядзеў вельмі многа «Жызэляў» у нас і за мяжой. Пасля Уланавай мяне скаланула «Жызэль» у выкананні балерыны з Чэхаславакіі (на жаль, не помню яе імя) і — вашае выкананне. Усе позы і рухі класічнага танца — арабеск, жэтэ, шэнэ, фуэтэ, па-дэ-бурэ на пуантах і г.д. — ва ўсім гэтым, па ідэі, няма нічога ад чалавечых перажыванняў, а, між тым, у вас у кожным па — глыбокія чалавечыя пачуцці. Я лічу вас вельмі яркай драматычнай актрысай: у вас моцны драматычны талент. Вы ўвасабляеце ў балеце вялікія пачуцці, ствараеце найскладаныя характары. Гэта проста «дар боскі»?

— Гэта імкненне да натуры. І, відаць, дар. Вось я зараз працую як рэпетытар з дзяўчаткамі і хачу падштурхнуць іх імкнуцца да натуры, хоць гэтае імкненне настолькі інтуітыўнае, што яго немагчыма выклікаць штучна. Вельмі шмат нейкіх асацыяцый, няўлоўных момантаў...

— Помню, як мы працавалі над вобразам ледзі Мільфард у спектаклі паводле Шылера. Вас перш за ўсё цікавіла ўнутраная лінія вобраза, думкі і перажыванні гераіні...

— Вельмі важна адчуць усё арганічна, натуральна... Пластыка вельмі дакладна мусіць накладацца на псіхалогію, на выяўленне, на музычнасць. Таму для балерыны вельмі важны комплекс фізічных і псіхічных дадзеных. Зараз многа моладзі з цудоўным фізічным апаратам. Здавалася б, цудоўныя фізічныя дадзеныя — для мастацкай гімнастыкі, для чаго заўгодна, — а псіхічны апарат значна слабейшы за фізічны. На такую дзяўчынку глядзіш: так, прыгожа, але хутка робіцца сумна...

— Таццяна, а ці спавядаеце вы імправізацыю?

— Нячаста. Ёсць балетмайстры, якія даюць акцёру свабоду. Дарэчы, так было ва «Ундзіне» — поўная свабода.

— А як разумець — «поўная свабода»?

— Уявім, дадзена мізансцэна. Да яе ёсць нейкі пэўны жэст, паварот, але ўсё залежыць ад сваёй трактоўкі: скажам, наіўная гераіня альбо безабаронная... Зыходзячы з гэтага і з'яўляюцца нюансы.

— А што для вас самавыяўленне ў балеце?

— Калі адбываецца спалучэнне, зліццё ўнутранага твайго пачуцця, рытму жыцця, пачуцця музыкі з харэаграфіяй.

Як вы сябе падтрымліваеце для творчасці? Ходзіце ў царкву?

— Рэлігія не самамэта. Калі вучань пачынае пісаць, яму ставяць усялякія абмежаванні: лінейкі, палі — каб ён пісаў не на чыстым лісце. А калі ён засвойвае пісьмо, яму гэтыя абмежаванні больш непатрэбны. Гэта і ёсць царква — толькі прыступка да нечага вышэйшага. А веды прыходзяць тады, калі чалавек гатовы іх прыняць. У мяне складаны характар, з-за якога я пакутавала і ў школе, і ў тэатры — сёння. З-за яго ў мяне псаваліся дачыненні з людзьмі. Але я не магу доўжыць благое, таму, адперажываўшы, іду мірыцца. Абавязкова. Аднойчы я задумалася: навошта ж такі доўгі шлях рабіць? Ужо лепей адразу не рабіць таго, пра што потым пашкадуеш. Я пазнаёмілася з вучэннем Рэрыхаў, і яно для мяне цяпер галоўная крыніца, — вучэнне пра духоўнае развіццё чалавека. І яшчэ — Анні Безант. Яна надзіва проста апісвае ўсё наша жыццё. Уявім сабе гару. Па спіралі гэтай гары, серпанцінам, з пакаленняў у пакаленні мільёны гадоў рухаюцца натоўпы людзей — гэта ўсе мы. Яны рухаюцца вельмі марудна, да вяршыні ім не дайсці. І раптам нехта адзін зірнуў і зразумеў, што ёсць шлях карацейшы! І тады ён пачынае караскацца напрасткі. Вядома, яму складаней. Але той, хто ступіць на гэты шлях, вярнуцца ўжо не можа, не можа зноў паўзці серпанцінам...

— Вы за тых, хто ўздымаецца напрасткі, а не па акружнасці гары?

— Так. Бо відушчасць недзе ў нас закладзена. Значыць, гэта не наша заслуга! Гэта — эвалюцыя чалавека, гэтак жа, як ёсць эвалюцыя дзяржавы, краіны.

— Таццяна, мы з вамі па Задыяку «скарпіёны». Як вы ставіцеся да астралогіі?

— Астралогія — надта цікавая, каб ёю займацца павярхоўна. А каб займацца ўсур'ёз... Мне складана ў гэтым разабрацца. І, потым, у мяне ёсць інакшая думка: тое, што табе ведаць трэба, ты будзеш ведаць. Але не трэба імкнуцца прывязаць сябе да ведаў: а раптам яны ўсе недасканалыя, памылковыя?.. Трэба спадзявацца і на ўласную інтуіцыю.

— Вы ўжылі слова «прывязацца». Вы прывязаны да балета?

— Так, таму што балет не здрадзіць. У жыцці здрады бывалі, а вось тэатр не здраджваў. Бывалі такія моманты, што душой я неяк адыходзіла ад балета, і вельмі востра гэта адчувала. Але ведала: адыход часовы, ён міне, і — хутчэй назад — тэатр не здрадзіць. На сцэне верыш у прыдуманае жыццё значна больш, чым у рэальнае. У жыцці вельмі рэдка можна даверыцца нечаму цалкам, поўнасцю, а на сцэне — можна абсалютна ўсяму, любому пачуццю. Былі моманты, калі я на сцэне адчувала сябе значна лепш, чым у жыцці, адчувала, што прыдуманае — больш рэальнае за існае. Нават было адчуванне ненармальнасці: як гэтак можа быць? Можа! Мне проста лепш на сцэне...

# СІНДРОМ БЕЛАРУСАФОБІІ

(Пачатак на стар. 5)

## Сталінскі тэрор і «контрбеларусізацыя»

*(крытычная стадыя)*

Адным з праяўленняў ранейшай дэнацыяналізацыі нашага грамадства быў так званы «феномен тутэйшасці», які вельмі моцна прышчапіўся на Беларусі і стаў сапраўднай трагедыяй для нацыянальнай культуры і самасвядомасці. Сапраўды, «тутэйшыя», да якіх адносілі сябе малапісьменныя сяляне і зрусіфікаваныя жыхары гарадоў і мястэчак, цвёрда стаялі на варце расійскага самаўладства і ўсяляк баранілі тутэйшую рускую народнасць ад «іншародчаскага засілля». Але для сваёй Бацькаўшчыны, па словах аднаго з герояў п'есы Янкі Купалы «Тутэйшыя», такі чалавек быў «вялікае нішто і застаўся вялікім нічым».

Аднак, задыхаючыся ў цісках непрыхільнай нацыянальнай улады і цярпліва несучы цяжар гісторыі, беларускі народ моўчкі чакаў часу свайго ўваскросу. І перадавыя яго прадстаўнікі не ўпусцілі шанц выкарыстаць такую магчымасць ва ўмовах, калі на руінах Аўстра-Венгерскай манархіі пачалі стварацца самастойныя славянскія дзяржавы і стала відавочна, што і ў самой Расійскай імперыі народы павінны будуць уладкоўваць сваё жыццё не на пачатках насілля і прымусу, а на прынцыпах пагаднення адзін з другім і прызнання ўзаемных інтарэсаў. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, якая ў рэшце рэшт растрэсла самадзяржаўную імперыю на ўсе яе састаўныя часткі, і абвешчаных у кастрычніку таго ж года ідэй аб'яднання людзей на прынцыпах роўнасці і дэмакратыі яны зрабілі рашучыя крокі па ажыўленні дзейнасці нацыянальна-патрыятычных арганізацый, падтрымцы незатухаючага стагоддзямі ўнутранага агню творчай нацыянальнай энергіі.

25 сакавіка 1918 года была створана свая нацыянальная дзяржаўнасць у выглядзе Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ў хуткім часе атрымала афіцыйнае прызнанне на міжнароднай арэне. Такім быў заканамерны ход гісторыі і, як зазначыў Аляксандр Цвікевіч, не з цэнтра, не ад Петраграда ці Масквы атрымала Беларусь хартыю сваёй вольнасці — яна напісала яе сама, падпарадкоўваючыся розуму часу, тым запаветам, якія дадзены былі яе папярэдняй барацьбой. Але лёс распарадзіўся так, што незалежная БНР праіснавала нядоўга, так як праз дзевяць месяцаў бальшавікі абвясцілі аб утварэнні сваёй «контрдзяржавы» — Беларускай ССР. А затым, пасля далучэння ўсходнебеларускіх зямель да РСФСР, і падпісання ў 1921 годзе грабежніцкага Рыжскага дагавору, Беларусь наогул страціла значную частку сваёй этнічнай тэрыторыі і вымушана была весці нацыянальна-дзяржаўнае і культурнае будаўніцтва ў межах шасці паветаў былой Мінскай губерні, дзе пражывала ўсяго паўтара мільёна чалавек з прыкладна дванаццаці мільёнаў грамадзян ліквідаванай БНР.

Зразумела, уздым нацыянальнай свядомасці беларусаў, развіццё іх культуры з'яўляліся складанымі, але надта неабходнымі і неадкладнымі задачамі. І добра, што гэта зразумелі некаторыя кіраўнікі новаўтворанай БССР, якія падтрымалі ідэю правядзення ўсебаковай беларусізацыі, паднялі яе да ўзроўню агульнадзяржаўнай палітыкі. Яе ажыццяўленне дазволіла хутка сфарміраваць нацыянальную сістэму народнай адукацыі, уключаючы вышэйшую школу, сродкі масавай інфармацыі і кнігавыдавецкую справу, актывізаваць удзел беларусаў у палітычным, культурным і гаспадарчым жыцці і — галоўнае — паступова пераадольваць шырока распаўсюджаную практыку насаджэння «больш высокай» рускай культуры, а значыць, замацавання панавання велікарускай нацыянальнасці. Былі створаны спрыяльныя ўмовы для развіцця культур небеларускага насельніцтва рэспублікі. Хаця пэўная частка людзей (як гэта нярэдка адбываецца і цяпер) выказвала рэзка адмоўныя адносіны да беларусізацыі, разглядала яе як «справу групы фанатыкаў», «прымусовае абеларушванне» і не хавала сваёй непрыязнасці да беларускай мовы, створанай быццам з «усялякіх выразаных са слоўнікаў слоў», у чым наглядна можна было распазнаць сімптомы той жа самай «хваробы» беларусафобіі.

Але найбольш цяжкай, бадай, крытычнай стадыі дадзенае сацыяльнае «захворванне» дасягнула крыху пазней — у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў, з усталяваннем таталітарнага рэжыму і ажыццяўленнем на практыцы сталінскай нацыянальнай палітыкі. Яна была па сутнасці відавочнай формай генацыду, для якой характэрна пэўная накіраванасць — супраць нясучых канструкцый народнасці і культуры этнасу. Сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што ў Беларусі барацьба супраць «варожых элементаў і «контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму» вялася перш за ўсё па нацыянальнай (этнічнай) прыкмеце і свядома вынішчалася ўсё аўтэнтычна-беларускае. А сярод рэпрэсаваных, як сведчаць спецыяльныя даследаванні, пераважную большасць складалі менавіта беларусы. Напрыклад, у ліку 90 асуджаных па «справе» аб так званым «Саюзе вызвалення Беларусі» ў 1931 годзе было 89 беларусаў і адзін рускі, ды і той у анкеце запісаўся беларусам. Сярод іх былі наркамы, акадэмікі, многія вядомыя пісьменнікі. Тых, хто яшчэ пісаў па-беларуску, размаўляў ці карыстаўся ў сваёй дзейнасці роднай мовай, абвінавачвалі ў «нацдэмаўшчыне» і высылалі з Беларусі, знішчалі фізічна. Балючы ўдар па беларускай мове быў нанесены сумнавядомай пастановай СНК БССР «Аб зменах і спрашчэннях беларускага правапісу» ад 25 жніўня 1933 г., у адпаведнасці з якой адбылося наўмыснае, штучнае скажэнне лексічных і граматычных нормаў роднай мовы, у выніку чаго яна значна наблізілася да «вялікай» рускай мовы. Яскравымі прыкладамі ўсебаковай «контрбеларусізацыі» з'явіліся скарачэнне колькасці беларускамоўных школ, народных дамоў, хатаў-чытальняў, ліквідацыя нацыянальных сельсаветаў, змяншэнне выдання беларускіх кніг, газет. Адбывалася замена беларусаў на кіруючых пасадах пераважна рускімі, перавод справаводства розных устаноў на рускую мову.

Новая, яшчэ больш моцная ў параўнанні з папярэдняй, хваля сталінскага тэрору на Беларусі нахлынула ў канцы 30-х гадоў. Тады агенты НКУС сфабрыкавалі справу аб існаванні на Беларусі быццам бы «аб'яднанага антысавецкага падполля, нацыянал-фашысцкай арганізацыі» на чале з кіраўнікамі рэспублікі А.Чарвяковым, М.Галадзедам і М.Гікалам. Членаў гэтай «арганізацыі» (як раней і «СВБ») абвінавачвалі ў здрадніцтве і шпіянажы на карысць буржуазных дзяржаў, а таксама ў антысавецкай нацыяналістычнай агітацыі, у садзейнічанні рэстаўрацыі капіталізму, аддзяленню БССР ад Савецкага Саюза. Характэрна, што менавіта ў такіх «грахах» неабальшавікі абвінавачваюць сёння кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь, «перафарбаваўшыхся» апаратчыкаў і сучасных «нацыянал-дэмакратаў». Былі арыштаваны каля сотні членаў Саюза пісьменнікаў БССР, палавіна з якіх загінула ў турмах і лагерах ГУЛАГа. «Буйным цэнтрам шпіёнска-разведвальнай работы» аб'яўлялася ўся Акадэмія навук Беларусі. Жорсткім праследаванням падвяргаліся і іншыя катэгорыі беларускага насельніцтва (настаўніцкая інтэлігенцыя, самыя гаспадарлівыя сяляне, рабочыя). А ў выніку бязлітаснага, «массовидного» (выраз Леніна) тэрору ў Беларусі былі закатаваны альбо прайшлі праз горан энкавэдзісцкіх «чысцілішчаў» сотні тысяч ні ў чым невінаватых людзей, амаль поўнасцю знішчана нацыянальная інтэлігенцыя.

Бессэнсоўная, непатрэбная жорсткасць тэрору была, мабыць, своеасаблівай формай агоніі сталінскай тыраніі і праяўленнем духоўнага крызісу тых, хто сам чагосьці баяўся і не вельмі ўпэўнена адчуваў сябе сярод звычайных людзей-працаўнікоў. Праўда, у гэты ж час і па другі бок савецка-польскай мяжы — у Заходняй Беларусі — таксама прыкладваліся актыўныя намаганні па дэнацыяналізацыі карэннага насельніцтва. Але драматызм сітуацыі быў у тым, што аднаўленне тэрытарыяльнага адзінства заходніх абласцей з Савецкай Беларуссю, якое адбылося ў верасні 1939 года, суправаджалася непараўнальна больш жорсткімі і вытанчанымі рэпрэсіямі, фізічным вынішчэннем інтэлігенцыі, кіраўніцтва нацыянальна-дэмакратычных і нават камуністычных арганізацый. Тысячы простых, далёкіх ад ідэалогіі і палітыкі працаўнікоў былі кінуты за краты па абвінавачанні ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці».

Дарэчы, усё гэта нам добра вядома па «справе» нашага бацькі і дзядулі Фёдара Ігнатавіча Дубянецкага — беднага селяніна з палескай вёскі, які быў арыштаваны органамі НКУС у лістападзе 1940 года і абвінавачваўся ў «злачынствах», прадугледжаных артыкуламі 72 (антысавецкая агітацыя і прапаганда) і 74 (удзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі) Крымінальнага кодэкса БССР, а дакладней — у агітацыі сярод аднавяскоўцаў супраць савецкай улады і выбараў у Саветы, ва ўдзеле ў нейкім невядомым яму «саюзе рэзервістаў» і інш. І мы ганарымся тым, што на ўсіх турэмных допытах (зняволенне было спынена вайной) ён катэгарычна адхіліў гэтыя выдуманыя абвінавачванні, а зусім нядаўна намі атрымана афіцыйная даведка з Камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь аб тым, што пры пасляваенным пераглядзе «справы» яго прызналі невінаватым.

Кансалідацыі беларускай нацыі і адраджэнню яе культуры, інтэлектуальнага патэнцыялу не дапамагла і перамога ў Вялікай Айчыннай вайне, на алтар якой Беларусь аддала кожнага чацвёртага свайго жыхара. Прычынай сталася ўсё тая ж сталінская рэпрэсіўная машына, тая ж паталагічная боязь нацыянальнага самавызначэння, усяго нацыянальна-спецыфічнага. Яны і ляглі ў аснову новага шырокамаштабнага эксперыменту па дэнацыяналізацыі беларускага грамадства, які суправаджаўся «укреплением» кіруючых кадраў рэспублікі за кошт «передвиженцев» галоўным чынам з унутраных і ўсходніх абласцей РСФСР, прымусовай русіфікацыяй сістэмы народнай адукацыі, дээтнізацыяй гарадскога і сельскага насельніцтва.

Такія фактары стваралі спрыяльныя ўмовы і адпаведнае асяроддзе для ўзмацнення асімілятарскіх тэндэнцый, разбурэння нацыянальнай культуры і адміністрацыйнага ўвядзення двухмоўя ў рэспубліцы. А ў той час двухмоўе ў разліках бюракратыі, як адзначаў Зянон Пазняк, было метадам націску на нацыянальную культуру, сродкам падрыву яе адзінага кансалідуючага пачатку, «раззбраення» перад тварам асіміляцыі ў інтарэсах адзінай бюракратычнай дзяржавы. Сфармуляваны яшчэ пяць гадоў таму назад у артыкуле «Двухмоўе і бюракратыя», гэты вывад захоўвае сваю сілу і сёння, бо тыя адчайныя высілкі па наданні рускай мове статуса дзяржаўнай якраз і скіраваны на недапушчэнне росту нацыянальнай самасвядомасці, як лепшай гарантыі захавання суверэнітэту нацыі, на працяг асімілятарскай лініі ў надзеі на хуткае аднаўленне ўжо неіснуючай імперыі.

Далейшае аслабленне патэнцыялу нацыянальнай культуры, зніжэнне ўзроўню нацыянальнага самаўсведамлення працягвалася і ў перыяд «застою», і ў гады так званай «перабудовы». Небывалыя маштабы дэнацыяналізацыі на працягу 60—80-х гадоў прывялі да размывання ў значнай часткі людзей традыцыйных рысаў беларускага менталітэту, развіцця так званага комплексу непаўнацэннасці, сораму за родную мову, за сваё паходжанне. Ды і не магло быць інакш, калі ў рэспубліцы не засталося практычна ніводнай беларускамоўнай школы ці беларускамоўнага дзіцячага садка, і рускае аднамоўе, а не дэклараванае двухмоўе, панавала ва ўсіх універсітэтах, інстытутах, тэхнікумах і прафтэхвучылішчах, ва ўсіх установах і на прадпрыемствах. Калі тыражы рускамоўных газет прыкладна ў дзесяць разоў перавышалі адпаведныя лічбы для беларускай прэсы, а па колькасці выданняў на нацыянальнай мове Беларусь займала апошняе месца сярод усіх рэспублік былога СССР. Калі амаль поўнасцю зрусіфікаванымі аказаліся навука, мастацкая культура, грамадска-палітычнае жыццё і іншыя сферы.

## Адолець бяду

*(прафілактыка і лячэнне)*

Вось такая яна, разнастайная і шматколерная беларусафобія — непрыязнасць да самастойнасці і незалежнасці Беларусі, да свабоднага выяўлення нацыянальнага духу яе сыноў і дачок. І яе рухаючымі спружынамі, стымулятарамі з'яўляюцца не радавыя людзі, а канкрэтныя сацыяльна-палітычныя інстытуты, якія ў сваёй дзейнасці кіруюцца канкрэтнымі нацыяльна-дзяржаўнымі ўстаноўкамі і мэтамі.

Тым больш не вінаватыя ў беларусафобіі тыя ці іншыя народы, да прыкладу, рускі народ, які і сам быў па сутнасці ахвярай таталітарнай сістэмы і не падзяляў канцэпцый прымусовай русіфікацыі альбо рускамоўнага «інтэрнацыяналізму». Ды і прагрэсіўная руская культура, да якой з вялікай павагай заўсёды ставіўся беларускі народ, не мела нічога агульнага з нацыянальна-шавіністычнымі імкненнямі ўладных структур у мінулым, як не мае яна нічога агульнага і з дзейнасцю сучаснай парламенцкай апазіцыі і самазванага «фронту нацыянальнага вратавання».

Нацыянальны нігілізм, нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці ёсць «самая цяжкая спадчына, якую пакінулі нам і царызм, і дзесяцігоддзі панавання бальшавіцкай дыктатуры. І гэтую бяду нам трэба адолець — абавязкова і ў першую чаргу» (Н.Гілевіч). Яны ж сталі адным з асноўных вынікаў дзяржаўна-бюракратычнай беларусафобіі і сёння вельмі энергічна выкарыстоўваюцца сіламі, якія хацелі б павярнуць кола гісторыі назад. Але, як сведчыць тая ж гісторыя, на Беларусі заўсёды былі людзі, якія імкнуліся захаваць адметныя рысы культуры, нацыянальных традыцый і звычаяў і прыкладалі свядомыя намаганні, каб дапамагчы хутчэйшаму выхаду сваёй Айчыны са стану нацыянальнага і палітычнага анабіёзу. Такія намаганні ў якасці своеасаблівага прафілактычнага сродку ігралі (і яшчэ могуць адыграць) дадатную ролю ў ахове грамадства ад гістарычнага манкуртства і нацыянальнага самаадмаўлення.

З гонарам неслі і нясуць эстафету сваіх папярэднікаў-класікаў, змагароў за беларушчыну І.Мележ, У.Караткевіч, В.Быкаў, Я.Брыль, С.Грахоўскі, П.Панчанка, Р.Барадулін і іншыя майстры слова, нацыянальна-патрыятычная і гуманістычная накіраванасць творчасці якіх вызначала ўнутраную сутнасць і духоўны змест сапраўднай, а не бюракратычна-элітарнай беларускай культуры, уводзіла яе агульнаеўрапейскі і агульначалавечы культурны абарот. І гэта нягледзячы на тое, што творы некаторых з іх дзесяцігоддзямі забараняліся, падвяргаліся цэнзуры, выкідваліся з тэматычных планаў, а часам нават «рассыпаліся» ў друкарнях ужо ў набраным выглядзе. Шмат зрабілі для аднаўлення гістарычнай памяці народа, збліжэння і ўзаемапаразумення паміж людзьмі розных нацыянальнасцей некаторыя дзеячы тэатральнага і выяўленчага мастацтва.

Асаблівай павагі заслугоўваюць прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, якія ў канцы 80-х гадоў уступілі ў адкрытую барацьбу з дзяржаўна-асімілятарскай палітыкай і практыкай і ў сваіх шматлікіх зваротах у ЦК КПСС і ЦК КПБ, у выступленнях на пленумах творчых саюзаў (замоўчваемых афіцыйнай прапагандай) паказвалі трагічныя вынікі дэнацыяналізацыі ў рэспубліцы, прапаноўвалі канкрэтныя меры па ўзнаўленні разбуранай інфраструктуры і дэфармаванага зместу беларускай культуры. Не прайшлі дарэмна смелыя захады і творчыя ініцыятывы па адраджэнні нацыянальных традыцый і духоўных каштоўнасцей, з якімі выступілі ў той час маладзёжныя «нефармальныя» аб'яднанні «Талака», «Паходня», «Тутэйшыя», а таксама такія аб'яднанні старэйшага пакалення нацыянальнай інтэлігенцыі, як «Мартыралог Беларусі», «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» і іншыя.

У своеасаблівы каардынацыйны цэнтр па аб'яднанні ўсіх нацыянальна свядомых творчых сіл ператварыўся ў тыя пераломныя гады штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», які і сёння застаецца, можна сказаць, флагманам сярод перыядычных выданняў у барацьбе за беларушчыну, нацыянальную самасвядомасць і духоўнае аднаўленне і які таксама, як і тады, падвяргаецца масіраваным нападкам з боку прыхільнікаў саюзна-імперскай ідэалогіі і практыкі.

Несумненным з'яўляецца той факт, што галоўную ролю ў псіхалагічнай падрыхтоўцы грамадства да ўспрымання ідэй суверэнітэту і нацыянальна-культурнага адраджэння адыграў Беларускі народны фронт «Адраджэнне». Яго палітычная дзейнасць, парламенцкія ініцыятывы па распрацоўцы і абароне ідэй незалежнасці дапамагаюць стварыць грунтоўную прававую аснову, перадумовы і гарантыі сапраўды свабоднага эканамічнага, палітычнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, яе вяртання ў сям'ю еўрапейскіх народаў і агульначалавечую супольнасць. Было б вельмі добра, калі б і парламенцкая большасць, і выканаўчыя структуры ўлады, і розныя палітычныя партыі і рухі нарэшце ўсвядомілі жыццёвую неабходнасць і незваротнасць новага нацыянальна-дзяржаўнага Адраджэння і сумесна дамагаліся ўмацавання свайго нацыянальнага дома і згоды ў ім, развіцця ў кожнага грамадзяніна пачуцця нацыянальнага гонару, асабістага дачынення да лёсу сваёй Айчыны.

Становіцца відавочным, што многія нашы суайчыннікі ўжо адчулі сябе беларусамі, зразумелі, што ў нас ёсць што адраджаць, ёсць свае самабытныя традыцыі і гістарычны вопыт. Адраджаючы гэтыя традыцыі, мы, па словах кіраўніка нашай дзяржавы Станіслава Шушкевіча, перастаём прытрымлівацца тых звычаяў, якія не падыходзяць нашай зямлі, але для таго, каб Беларусь стала сапраўды свабоднай і незалежнай, трэба добра і доўга працаваць. І менавіта ў гэтым нам бачыцца дзейсны сродак «выздараўлення» ад яшчэ даволі жывучай, цяжка пераадольваемай і небяспечнай «хваробы» беларусафобіі, рэальнага ўвасаблення ствральна-творчага патэнцыялу беларускага народа.


**Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ,**
**старшы навуковы супрацоўнік аддзела гісторыі філасофіі Інстытута філасофіі і права АН Беларусі;**

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**навуковы супрацоўнік аддзела беларусазнаўства Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны.**

ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

# 1812 ГОД: ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА?

У ГОНАР ПЕРАМОГІ над французамі на Бярэзіне быў выбіты медаль «Сражение на Березине — 1812 г.». Да стагоддзя гэтай падзеі ў Барысаве было вырашана збудаваць па праекце вядомага архітэктара І.Фаміна абеліск. На плошчы, каля гарадскога рынку, заклалі падмурак, ды першая сусветная вайна, а потым рэвалюцыя перашкодзілі завяршыць справу. Цяпер, быццам бы, беларускія архітэктары хочуць аднавіць гэты помнік.

У гонар падобных перамог да рэвалюцыі былі ўстаноўлены помнікі ў Брэсце, Верхнядзвінску, Віцебску, Глыбокім, Чашніках, Кобрыне, Маладзечне, Полацку. У наш час гэтая эпапея працягваецца. Каля вёскі Брылі на поўнач ад Барысава ў 1862 годзе ўстаноўлены помнік, на якім напісана, што «здесь доблестная русская армия наголову разбила армию Наполеона». У 1967 годзе каля вёскі Студзянка таксама пастаўлены помнік: «Здесь 14 — 16 (26 — 28) ноября 1812 года русская армия под командованием М.И.Кутузова завершила разгром наполеоновских войск».

Той аргумент, што ў гэтыя дні Кутузаў з арміяй толькі пачаў пераправу цераз Днепр у Копысі, а Чычагоў і Вітгенштэйн уведалі пра пераправу на трэці дзень, калі на тым беразе былі асноўныя сілы, нікога быццам не турбуе. Ваенныя гісторыкі ведаюць, што хвост французскай арміі бачылі егеры 3-га, 7-га, 12-га палкоў корпуса Віттенштэйна. Яны трохі пастралялі і разам з казакамі пачалі рабаваць падводы тых, што ішлі разам з арміяй. Наблізіцца да пераправы і тым больш перашкодзіць гэтаму не давала батарэя Бадэнскіх артылерыстаў, устаноўленая каля Студзянкі. Тыя абозы, на якія напалі рускія, Напалеон загадаў адрэзаць ад арміі. Яму яны былі непатрэбныя. А рускім — пацеха. Гараць усе тры масты. Людзі, што спадзяваліся перайсці па іх раку, павар'яцелі. Да іх імчацца казакі. Так мастакі малююць Бярэзінскую пераправу. А ўсё было не так. З рэгулярных войск дывізія генерала Партуно тры дні імітавала пераправу на поўдзень ад Барысава. Каля Шабашэвіч падман удаўся. На процілеглым беразе Чычагоў сабраў 30000-ю армію. Чакаў, што дурныя французы палезуць на гарматы, ды яшчэ цераз рэчку. У апошні дзень з-за завірухі частка дывізіі Партуно заблудзілася і не змагла прабіцца ў Студзянку. Людзі і коні былі галодныя, змарнелыя. Уброд пераправілася меншая палавіна, якая пазбегла акружэння. Астатнія — здаліся ў палон.

Правы бераг пераправы абаранялі ў вёсцы Стахава палякі і літоўцы (беларусы). Жорсткі бой разгарэўся ў апошні дзень пераправы, калі з Барысава пачалі наступаць падманутыя войскі. Амаль усе 4 батальёны літоўскіх стральцоў Касакоўскага засталіся на полі бою. Палегла многа салдат і афіцэраў генерала Княжэвіча. Сам ён быў паранены ў нагу. Некалькі разоў быў паранены ад'ютант Напалеона генерал Сакальніцкі — той, што рассылаў пасля Краснага фальшывыя загады палкам. Рускіх гэта здорава збіла з толку. Армію Напалеона яны лічылі Вялікай і баяліся. Былі паранены яшчэ чатыры генералы — Дамброўскі, Красінскі, Фішар і Заёнчак. Паранены таксама палкоўнікі: Малахоўскі, Блумер, Сераўскі, Ціхоцкі, Кансіноўскі, Касакоўскі і Трэма. Усяго на Бярэзіне забіта і паранена 210 польскіх і літоўскіх афіцэраў. Толькі пад Стахавам забіты 12 афіцэраў літоўскіх стральцоў і 9 афіцэраў літоўскай жандармерыі. Дарэчы, на Бярэзіне палякі і літоўцы страцілі амаль столькі, колькі палегла пад Барадзіно — 1800 чалавек. Людзі біліся з апошніх сіл. Іх мужнасць можа быць падставай для стварэння помнікаў. Але якіх? Адразу ўзнікае пытанне, якая роля беларусаў у гэтай вайне?

Пачнём па парадку. На Беларусь французская армія несла ідэі свабоды, роўнасці і братэрства. Нашы сяляне спадзяваліся на адмену прыгону, як гэта было зроблена ў Польшчы. Шляхта хацела атрымаць свабоды, запісаныя ў канстытуцыі 3 мая 1791 года. (Дарэчы, гэта была самая прагрэсіўная канстытуцыя ў свеце. Злучаныя Штаты Амерыкі прынялі, прыкладна, такую канстытуцыю праз год і жывуць па ёй да сённяшняга дня. Нам не пашанцавала). Акрамя таго, шляхта была незадаволена высылкай каля 50000 сем'яў у глыбінныя губерні Расіі. Каля 3000 маёнткаў было канфіскавана і раздадзена фаварытам Кацярыны II. На Беларусі былі ўведзены рэкруцкія наборы — забіралі здаровых мужчын, патрэбных у гаспадарцы. Усяго за гады акупацыі да 1812 года Расія ўзяла з Беларусі каля 130000 рэкрутаў — 3 працэнты насельніцтва. Нікому не падабаліся і ўведзеныя рускімі падаткі звонкай манетай — срэбрам і золатам, а не асігнацыямі, як было ў рускіх губернях. Расія прынесла сярэдневяковы рэжым прыгону. Замест трох дзён з дыму трэба было адрабляць па тры і больш дзён кожнаму дарасламу. У прыгон да рускіх памешчыкаў трапіла 208550 мужчын. Адзін Платон Зубаў — фаварыт Кацярыны II — атрымаў 1300 прыгонных сялян. Прыгняталася уніяцкая царква, да якой належала ці не 80 працэнтаў насельніцтва краю. Паўсюдна была заменена мясцовая адміністрацыя на расейскую. Было чаго абурацца.

Армію Напалеона як у Польшчы, так і на Беларусі ўсе сустракалі з вялікімі надзеямі. На Панарскіх гарах Напалеона сустрэла дэпутацыя магістрата на чале з прэзідэнтам Вільні шляхціцам Ляхніцкім і ўручыла яму ключы. Яшчэ ў 1806 годзе ў адозве да палякаў Напалеон пісаў, што хоча спраўдзіць, ці заслугоўваюць яны быць незалежным народам. Наша шляхта прыняла гэта ўсур'ёз. Беглі ў Прусію і Саксонію, арганізоўвалі армію. Дамінік Радзівіл арганізаваў за свой кошт 8-ы уланскі полк, які першым увайшоў у Вільню. У гэтым палку салдатамі былі беларусы з ваколіц Нясвіжа і іншых яго уладанняў. За ўдзел у вайне прыгонным абяцалі свабоду. З палякаў і, часткова, з беларусаў былі сфарміраваны дывізіі генералаў Дамброўскага, Княжэвіча, Камінскага, Заёнчака. У корпусе Панятоўскага з беларусаў была сфарміравана цэлая батарэя пад камандай капітана Багдановіча. Дарэчы, яна амаль у поўным складзе і з усімі гарматамі вярнулася ў Вільню.

Напалеон аднавіў Вялікае княства Літоўскае, падзяліўшы яго на чатыры дэпартаменты: Віленскі, Гродзенскі, Мінскі і Беластоцкі. Кіравала Княствам часовая камісія, у якую ўваходзілі Тышкевіч, Хадкевіч, Пацей і Сапега. Яна разаслала адозву да сялян з заклікам уступаць у французскае войска. У ёй гаварылася, што, падымаючыся з нявол, народ павінен абараняць сваю ўласнасць са зброяй у руках. Раней у рускую армію адпраўлялі ў кайданах на 25 год. Цяпер у армію бяруць на 6 гадоў і служыць трэба на сваёй роднай зямлі, у сваім павеце. Пасля службы — дадому. Уладам было загадана не зневажаць рэкрутаў, як раней. Па загадзе Напалеона і мясцовых улад у жніўні 1812 года былі сфарміраваны на Літве (Беларусі) конныя і пяхотныя палкі. У Вільні і іншых гарадах фарміравалася гвардыя — яны былі вольныя ад рэкруцкага набору. Польшча і Літва павінны былі паставіць у армію Напалеона 300000 салдат і афіцэраў, 4000 коней, муку, крупы, фураж. Ад 75 двароў павінен быць выстаўлены адзін салдат з канём, а з 50 двароў — 486 злотых. Вышыня кавалерыста — не меней 2 локцяў і 12 цаляў, а ўзрост — ад 18 да 36 гадоў, коней — 5 - 8 гадоў. Там, дзе не было рэкрутаў, трэба было даваць коней і збіраць грошы ўзамен. Яўрэі павінны былі плаціць 2000 злотых за кожнага салдата — саміх іх у войска не бралі.

Усяго дзяржавы-сатэліты паставілі ў Вялікую армію 212 тысяч салдат (Польшча — 75000 пяхоты і конніцы, Швейцарыя — 16000, Галандыя — 52000, Аўстрыя — 30000, Прусія — 20000, Літва — 19000 салдат).

Увосень ад Польшчы і Літвы Напалеон патрабаваў сабраць хоць бы 100000 казакоў — лёгкай кавалерыі, якую ў нас называлі уланамі. Але такую армію сабраць ужо не было з каго. Мінская і Віленская губерні сабралі па 3000, Гродзенская — 2500, Беластоцкая — 1500 салдат. З гэтых людзей былі сфарміраваны 5 палкоў пяхоты і 4 лёгкай кавалерыі. Акрамя таго, беларусы былі ўжо ў корпусе Панятоўскага. З агульнай колькасці — 32000 чалавек — у гэтым корпусе прыкладна трэцяя частка была з Літвы (так тады называлі Беларусь). Падчас выступлення вялікай арміі з Вільні там пачаліся чума і халера. Да шасці тысяч салдат засталося ў лазарэтах. Папаўненне ішло за кошт мясцовых жыхароў. Дарэчы, толькі на Літве Напалеон пакінуў да 100 гармат і 500 падвод з амуніцыяй. У адной Віленскай губерні закапалі больш за 5000 коней. Ішлі дажджы, кармоў было мала. Полк лёгкай кавалерыі з дваран і студэнтаў — літоўская гвардыя — быў сфарміраваны генералам Канопкам у Слоніме. Гэты «герой Таледа і Альпухары» ў Іспаніі стаў першай ахвярай вайны пры наступленні арміі генерала Тармасава. Яго ўзялі ў палон разам з чатырма неабстрэленымі эскадронамі гвардыі.

У кожным павятовым горадзе была рота жандараў па 30, 40 і больш чалавек. У гарадах з Магдэбургскім правам — народная гвардыя ці міліцыя пад агульнай камандай Шастакоўскага. Толькі ў адной Гродзенскай губерні было 856 жандараў. З леснікоў былі сфарміраваны шэсць батальёнаў стралкоў. У Гродзенскай губерні было іх 140 пад камандай маёра Курчэўскага. Па столькі, прыкладна, было ў іншых губернях. Агульная колькасць беларусаў, якія ў час вайны служылі Напалеону, была не менш за 50000 чалавек.

Акрамя непасрэднага ўдзелу ў паходзе на Маскву, яны абаранялі камунікацыі Масква — Парыж на сваёй тэрыторыі. Ужо ў першы месяц паходу марадзёры дзейнічалі ў раёне Гародні, Коўна, Вільні. Як правіла, яны рабавалі маёнткі, багатыя двары і цэрквы. Мясцовыя ўлады рабілі на іх засады, аблавы і нішчылі бязлітасна. Лавілі і аддавалі ваенна-палявому суду дэзерціраў, збіралі падаткі. Новым уладам служылі цывільныя чыноўнікі і святары.

Яшчэ ў Вільні за марадзёрства было дэманстратыўна расстраляна некалькі салдат, у тым ліку адзін капрал з 8-га уланскага палка за рабаванне касцёла. Расстрэльваць за гэта пачалі ўжо 10, 13 і 16 ліпеня. Забаронена было скупляць крадзенае. Па дарогах пастаянна дзяжурылі раз'езды жандараў. Нягледзячы на гэта, марадзёрства працвітала. Не ўсім салдатам падабалася ўдзельнічаць у паходзе. Яны кідалі свае палкі і туляліся, пакуль цёпла, па лясах ці глухіх вёсках.

Яшчэ да пачатку вайны Напалеону сур'ёзна дапамагалі. У чэрвені расійская паліцыя выявіла, што па рэках Буг, Нёман і Шчара ішлі баржы з фуражом для французскай арміі. Урад накіраваў падпалкоўніка Левенштэрна для расследавання. Выявілася — усе падзеі мелі месца. Вінаватых — памешчыкаў, мытнікаў, гандляроў — пакаралі. Калі прыйшлі французы, на Літве трэба было сабраць тры мільёны пудоў жыта, паўтара мільёна чвэрцей аўса, два з палавай мільёны пудоў сена, столькі ж саломы. Акрамя гэтага, трэба было здаць 60 тысяч галоў рагатай жывёлы і яшчэ многа чаго. Хаця ўсё гэта здаць не паспелі, калі армія вярнулася на Літву, магазіны ў Мінску, Полацку, Вільні, Барысаве, Оршы і іншых гарадах былі поўныя і вельмі дапамаглі ёй падтрымаць баяздольнасць. З 16 ліпеня ў Мінску заведзена кніга ахвяраванняў на французскую армію. Першай аддала 30 бочак жытняй мукі, 2 бочкі круп, 10 валоў і 20 бараноў княгіня Караліна Радзівіл. Астатнія памешчыкі таксама не скапнічалі. Гэтыя пастаўкі працягваліся нават тады, калі Мінск занялі прыйшоўшыя са Стоўбцаў атрады арміі Тармасава. Шляхта ахвотна служыла французам. Праз якіх сем ці восем год, калі на Беларусі стаяла гвардыя з Пецярбурга, шляхцюкі з гонарам насілі ўзнагароды Напалеона. Гвардзейцы касавурыліся, але трывалі. Кожны шляхцюк мог расказаць, за што атрымаў гэтыя адзнакі, і тады будзе яшчэ больш няёмка.

Я ўжо адзначаў, што французаў сустракалі ў нашым краі з хлебам і соллю. Восьмага ліпеня дэлегацыя толькі што створанага ўрада Мінска на чале з прэзідэнтам першага дэпартамента Камінскім сустракала на Ракаўскай шашы французскія войскі маршала Даву. У касцёле на Саборнай плошчы (там, дзе ўсё яшчэ ДСО «Спартак») было набажэнства. Маліліся за падваенне сілы французскай зброі супраць расіян. На малебне прысутнічаў сам маршал Даву. Ваенным губернатарам Мінска стаў брыгадны генерал Барленегра, грамадзянскім начальнікам — генерал Бранікоўскі. Расійскія губернатары ўцяклі ў Бабруйскую крэпасць з пяцітысячным гарнізонам.

Трэба было наводзіць і падтрымліваць парадак. У Мінскай губерні за два месяцы вядомы 25 выпадкаў непадпарадкавання сялян памешчыкам. Сяляне Барысаўскага павета наогул пакінулі свае сядзібы і пайшлі ў лес. Яны не хацелі плаціць падаткі чорт ведае каму і за што.

Ужо ў самым пачатку вайны унтэр-афіцэр Тэнгінскага палка пісаў у рапарце, што сяляне Віленскай губерні (тады яна лічылася беларускай) адмовіліся перавозіць вайсковую і царкоўную амуніцыю рускай арміі. Сабраныя ў абоз падводчыкі — больш за 20 чалавек — сталі сярод поля і пачалі скідваць паклажу, як толькі пачулі страляніну. Унтэр-афіцэр з чатырма салдатамі нічога не змаглі зрабіць. Такіх выпадкаў было шмат. Сялянам не падабалася вайна. Яны хутка пераканаліся, што французскія ўлады не лепшыя і будуць драць сем шкур, як і расіяне. Вера ў французаў захоўвалася толькі там, дзе іх не было.

8 жніўня Віцебскі віцэ-губернатар даносіў графу Вітгенштэйну: у Полацкім, Гарадоцкім і Невельскім паветах сяляне не выконваюць загадаў расійскіх памешчыкаў. Земская паліцыя не можа ліквідаваць рабункі і падпалы маёнткаў. Ён просіць прыслаць атрад для «усмирения возмутившихся». У пачатку кастрычніка ўжо віцебскі губернатар даносіў кабінету міністраў Расіі, што, акрамя згаданых, трэба пачысціць ад бунтаўшчыкоў Вяліжскі і Суражскі паветы. Войска было выдзелена. Толькі ў Віцебскай губерні было паранена каля 50 сялян. Колькі забіта і засечана, не паведамлялася. Былі хваляванні сялян у незанятай частцы Смаленскай губерні. Тут наводзіў парадак генерал Дзібіч, які стаяў на кватэрах у Белым. Ёсць звесткі, што расстралялі двух мужыкоў, астатніх адлупцавалі шомпаламі.

Але грамадзянскую вайну на Літве пачалі не сяляне. Калі дакладней, то, канешне, сяляне, але ў салдацкіх мундзірах. Гэта была адступаючая армія Баграціёна. Лозунг «за веру, царя и отечество» нашым землякам не прыдаўся. Вера была яшчэ уніяцкай, цара ім навязалі, а радзіма таксама была іншая. Пасля кожнай сутычкі ў рускіх палках невядома куды прападалі салдаты і нават афіцэры. Цікава, што ўсе яны мелі мясцовыя прозвішчы. Напрыклад, у Польскім уланскім палку пад Свянцянамі прапалі тры афіцэры і 83 радавыя з коньмі.

Пасля таго, як войскі Магілёўскага гарнізона напалі на французаў пад Княжыцамі і біліся пазней каля Віленскіх варот горада, без вестак прапалі паручык Дамброўскі, падпаручык Далецкі, 2 падафіцэры і 12 радавых. Больш за 150 салдат засталіся ў Магілёве чакаць французаў. Сярод іх 6 афіцэраў: 5 падафіцэраў, астатнія — радавыя.

У сутычцы каля Пружан 10 жніўня без вестак прапаў карнет Пянткоўскі. З Гродзенскага гусарскага палка пры сутычцы на рэчцы Свольні 11 жніўня прапалі 15 радавых. За больш працяглы перыяд забіта было 9 салдат, а 51 прапаў без вестак. Сутычка каля Полацка 18 жніўня: прапалі прапаршчык князь Друцкі-Сакальніцкі і прапаршчык Крыўскі. Каля Смаленска за 4 і 5 жніўня прапалі прапаршчык Вяржбіцкі, падпрапаршчык

**Гэты ліст пісаўся на беразе Тэмзы на Каляды. А прыходзіць да лімаўскіх чытачоў толькі сёння, пасля Грамніц. Ёсць у гэтым і не наша віна (ліст ішоў доўга, з аказіяй), і наша (працаваць як след мы вучымся наноў). Ды, як кажуць, лепш позна, чым ніколі.**

## ЛІСТ З ЛОНДАНА

**Вера РЫЧ**

# ANNUS HORRIBILIS

Даўно збіралася напісаць вам свой другі ліст, але ўсё не выпадала, потым некалькі тыдняў хварэла. Тэма ж *нашай гутаркі за гэты час станавілася ўсё больш* балючай. Прынамсі, цяпер яна абвастрылася, відаць, як ніколі, і на Каляды мы вымушаны глядзець з крыху меншай радасцю, чым у папярэднія гады.

Я не веру ў забабоны. Як каталічцы, мне гэта проста не дазваляецца. Але ўсё-такі з нейкай бояззю ўспрымала прадказанне аднаго вядомага празорцы, які дзесяць гадоў таму гаварыў пра 1992-гі, як пра самы змрочны пасля 1649-га год для каралеўскай сям'і Брытаніі. Як вядома, у 1649-м пакаралі смерцю караля Чарльза I, і ў Англіі (што цікава, у Шатландыі — не) на адзінаццаць гадоў усталявалася рэспубліка, а дакладней кажучы, ваенная дыктатура. Што ж, 1992-гі ўжо амаль скончыўся, а каралева царуе, і яе старэйшы сын, як канстатуюць юрысты, застаецца спадчыннікам трону. Але год гэты (ён адзначыў 350-ыя ўгодкі выбуху грамадзянскай вайны, што прывяла Чарльза I да эшафоту) для Віндзара быў, як сказала сама каралева, — «annus horribilis», жахлівым годам.

Яе словы, — водгулле «Annus Mirabilis», «цудоўны год» (назва твора, у якім наш першы афіцыйны паэт-лаўрэат Джон Драйдэн вітаў рэстаўрацыю манархіі ў 1660 годзе), — былі сказаны іранічна ў муніцыпалітэце Лондана, на банкеце, прысвечаным яе рубінаваму (40 гадоў) юбілею ўзыходжання на прастол. І, сапраўды, няўдачы каралевы ў гэтым годзе інакш не назавеш, чым «жахлівымі». Шлюб трох старэйшых яе дзяцей разбурыўся. (Эдвард, самы малодшы, — яшчэ халасцяк!) Англійская царква, «вярхоўнай правіцелькай» якой канстытуцыйна з'яўляецца каралева, сёння — на мяжы расколу. Ціск з боку грамадскай думкі вымушае каралеву плаціць падаткі на яе ўласную маёмасць. І, нарэшце, вялікі пажар здарыўся у Віндзарскім замку — доме юнацтва і цяперашнім самым любімым жытле каралевы. Больш таго, па прычыне незастрахаванасці замка фінансаваць ягоную адбудоўку, пэўна, давядзецца каралеве асабіста.

Магчыма, я не маю рацыі, так захоплена апавядаючы вам, грамадзянам маладой незалежнай рэспублікі, пра справы брытанскай махархіі, тым больш, што справы гэтыя ідуць не лепшым чынам. (Хоць павінна згадаць, што каралева Элізабет II у 35-м калене з'яўляецца прамым нашчадкам полацкай князёўны Рагнеды). Аднак менавіта па прычыне абсалютнага неўсведамлення ролі манархіі ў менталітэце нацыі шмат што ў англійскай літаратуры становіцца незразумелым. На жаль, мы, а мы — гэта і я, цалкам не разумеем гэтага. А між іншым адзін з галоўнейшых парадоксаў цыкла гістарычных п'ес Шэкспіра заключаецца ў тым, што каралю, аднойчы каранаванаму і Богам памазанаму, выпадае роля квазі-містычнай *значнасці — нават, калі ён няўдачнік як правіцель і* кепскі як чалавек. Больш таго, нам неабходна бачыць нашых манархаў. Тысячу гадоў таму англа-саксція каралі надзявалі свае кароны чатыры разы ў год, на чатыры вялікія святы (Вялікдзень, Каляды, Тройцу і Дзень усіх святых), і ва ўсёй раскошы з'яўляліся перад сваім народам. Часы і звычаі мяняюцца, але фармальны выгляд манархаў па сутнасці застаецца тым жа. У мінулым стагоддзі ад аўдавелай каралевы Вікторыі патрабавалі адрачэння ад прастола толькі за тое, што яна пазбягала публікі, хаця і добрасумленна выконвала абавязкі манарха, жывучы ў Віндзары. Радыё адкрыла людзям многія тайны каралеўскага жыцця, а з 1935 года дало магчымасць чуць голас самога манарха. Тэлебачанне штогод перадае такія грандыёзныя і шырокавядомыя цырымоніі, як каралеўскі парад альбо ўрачыстае адкрыццё парламента. Але, акрамя захаплення залатымі карэтамі, каралеўскімі ўбраннямі, коньмі і гвардзейцамі, нам, англічанам, хацелася б ведаць пра асабістае жыццё манарха. Каралева Вікторыя і яе муж прынц Альберт «Добры» сфармавалі ў свядомасці нашых людзей уяўленне пра сваю сям'ю як сям'ю ўсіх дабрачыннасцей, дзед і бацька цяперашняй каралевы гэтаксама захоўвалі такое ўяўленне.

А на самай справе каралеўская сям'я — зусім не сям'я, а нейкая сямейная дэфініцыя, жывая ікона таго, што павінна было б быць сям'ёй. Яшчэ ў 1936 годзе, калі памёр Джордж Y, ягоны сын Эдвард YIII захацеў ажаніцца з жанчынай, якая мела два разводы. Учынак гэты атрымаў тады шырокую агалоску і, вядома ж, абразіў публіку. У рэшце рэшт Эдвард адмовіўся ад трону, а не ад сваёй каханкі, а каралём стаў ягоны малодшы брат.

Я не думаю, што мы — большыя ханжы, чым прадстаўнікі якой-небудзь іншай нацыі. І мы не робім выгляду, што жыццё нашых сем'яў дасканалае. Мы і разводзімся, і ўступаем у пазашлюбныя сувязі, і купляем парнаграфічныя часопісы, і робім злачынствы на сексуальнай глебе... словам, жывём так, як і ўвесь свет. Але ў той жа час мы крыху наіўна думаем, што каралеўская сям'я, будучы такой па сваім паходжанні, не ведае ўсіх гэтых спакусаў. І мы спадзяёмся на каралеўскую дабрачыннасць прыкладна так, як спадзяваліся б, што, атрымліваючы вялізны гадавы даход толькі за сваё каралеўства, члены каралеўскай сям'і будуць зарабляць сабе на пражытак і паказваць *тым самым нам добры прыклад. Такія развагі-*спадзяванні, вядома ж, не стасуюцца з фактамі гісторыі. Дастаткова ўспомніць Генрыха YIII з яго сумнавядомым сэкстэтам жонак («разведзенай, абезгалоўленай, памерлай, разведзенай, абезгалоўленай, ацалелай — як у дзіцячай песеньцы-лічылцы), «вясёлага манарха» Чарльза II — «бацькі сваіх людзей, ці, прынамсі, вялікай колькасці іх», Эдварда YIII (сына «цнатлівай» Вікторыі і мужа не менш «цнатлівай» Аляксандры) з яго актрысамі-сяброўкамі... Аднак нават насуперак гістарычнай *логіцы і сведчанням прэсы, што пранікала ў асабістае* жыццё манарха, мы па-ранейшаму застаёмся вернымі нашым ілюзіям...

Менавіта сродкі масавай інфармацыі найбольш пастараліся для таго, каб гэты год стаў для каралеўскага дома не проста трагічным, але й «horribilis». Прынцэса Анна, адзіная дачка каралевы, паспела ўжо развесціся два гады таму, і развод яе прайшоў пры ўзаемнай згодзе, даволі ціха і спакойна. А вось падзеі шлюбных адносін двух яе братоў разгортваліся публічна, з усімі далікатнымі падрабязнасцямі. Так, напрыклад, у газетах з'явіліся фатаграфіі аголенай жонкі прынца Эндру. (Яе сфатаграфавалі тады, калі яна загарала ў досыць схаваным ад людскога вока садзе, упэўненая ў сваёй адзінокасці). Тэлефонную размову прынцэсы Уэльса са сваім каханкам незаконна падслухалі і разрэкламавалі, перастаў быць сакрэтам і тэлефонны нумар прынцэсы. Сябры яе адразу ж пабеглі да рэпарцёраў з бязглуздымі гісторыямі пра тое, што ў адчаі, каралева рабіла спробы самагубства, што яна раскаялася ў сваіх «бессардэчных» адносінах да каралеўскай радні. А задоўга да афіцыйнага абвяшчэння разводу газетныя «эксперты» ўзмоцнена абмяркоўвалі канстытуцыйныя праблемы, якія б маглі абвастрыцца, калі б спадчыннік трону захацеў развесціся. Справа ў тым, што па канстытуцыі прынц абавязаны быць вернікам англіканскай царквы, а па законах апошняй развод караецца царкоўным адлучэннем...

Адным з вынікаў усіх гэтых перыпетыяў сталі грунтоўныя дыскусіі наконт абмежавання свабоды прэсы. Сутнасць іх заключалася ў тым, што праца журналістаў у сферы, якая выклікае павышаную цікавасць публікі, паступова ператвараецца ў неапраўданае ўмяшанне ў асабістае жыццё людзей. Гэта стала самай гарачай праблемай на некаторы час, і для яе вырашэння ў канцы 80-х парламентам была створана спецыяльная камісія. Два гады таму камісія выпрацавала пастанову, згодна якой прэсе давалі шанц выправіцца, але з папярэджаннем, што калі ў дзеяннях журналістаў нічога не зменіцца, то для кантролю за імі давядзецца ўмяшацца закону.

Журналісты, як і трэба было чакаць, зусім не жадалі такога павароту падзей, і ў сваю чаргу падалі скаргі ў суд, у якіх не прызнавалі сваіх неэтычных паводзін. Наколькі абгрунтаванымі былі заявы прэсы — гэтае пытанне стала прычынай новых дэбатаў. На гэты раз думкі падзяліліся: адны выступалі ў абарону прэсы, іншыя казалі, што скаргі журналістаў — не болей, чым чарговыя іхнія хітрыкі з мэтай прыкрыцця сваёй амаральнасці. У сувязі са справай *прынца і прынцэсы Уэльскіх я спытала ў дырэктара* Цэнзурнага дэпартамента Філіпа Спэндара, што ён думае наконт паводзін прэсы ва ўсёй гэтай гісторыі. Як сказаў мне Спэндар, Цэнзурны дэпартамент, які займаецца пытаннямі цэнзуры і свабоды прэсы ва ўсім свеце, у дадзенай справе ўдзелу не прымаў, хоць, з другога боку, зусім нядаўна ад імя дэпартамента выступіў Луіс Блюм-Купер, выдатны юрыст па справах грамадзянскіх правоў і свабоды выказванняў. Яго артыкул быў якраз і прысвечаны тэме этыкі сродкаў масавай інфармацыі. Што датычыць асабіста Спэндара, то сам ён адчувае, што асвятленне шлюбных перыпетыяў прынца ў друку перайшло ўсе межы прыстойнасці і ператварылася ў сапраўднае інквізітарства, асабліва тады, калі стаў вядомым запіс інтымнай размовы прынцэсы Дыяны. «Але некаторыя могуць запярэчыць, — працягваў далей Спэндар, — правілы ж гульні змяніліся з таго часу, як пабачыла свет напісаная Эндру Мортанам біяграфія Дыяны. Біяграфія асноўваецца на шчырых прызнаннях сяброў прынцэсы, а апошняя не адмаўляе ні кніжкі, ні таго, што яна разарвала свае былыя сувязі!» Калі прынцэса і сапраўды хацела прыцягнуць на свой бок прэсу і выкарыстаць яе з мэтай скасавання свайго шлюбу, дык наўрад ці можна тады абвінавачваць у нечым журналістаў!

Якраз на фоне гэтай палемікі і няпэўнасці, што склалася вакол яе, здарыўся пажар у Віндзарскім замку. Віндзарскі замак... Адзін з найбольш старажытных (XI стагоддзе) і ў той жа час жылы, з XIY стагоддзя цэнтр самага старажытнага і высакароднага рыцарскага ордэна, Ордэна Падвязкі, скарбніца рэліквій літаратуры і мастацтва, нарэшце, родавы замак цяперашняй каралеўскай сям'і... Полымя, якое разбушавалася за трыццаць кіламетраў на захад ад Лондана, можна было ўбачыць у заходнім прыгарадзе сталіцы. Астатнія ж назіралі за пажарам па тэлевізары. Гарэла дзевяцісотгадовая гісторыя Англіі... («Horribilis» — якраз у гадавіну шлюбу каралевы!)

А пасля шоку ... зноў доўгія дыскусіі. Неверагодна, але агонь знішчыў толькі адну каштоўную калекцыю карцін, гібель якой прадказваў яшчэ дзвесце гадоў таму тагачасны кароль Джордж III! Замку пашэнціла — яго рамантавалі. Па гэтай прычыне шмат карцін не было выстаўлена. Тое ж, што было ў час пажару на месцы — карціны, рукапісы, надзвычай каштоўныя малюнкі Леанарда да Вінчы, — усё гэта, перадаючы з рук у рукі, вынеслі з полымя пажарнікі, вартаўнікі замка і проста добраахвотныя памочнікі. Але ўсё ж такі ад Вялікай цырыманіяльнай залы Святога Джорджа засталіся толькі чорныя закураныя сцены і вялізны груд попелу...

«Замак будзе адноўлены за народныя грошы», — лямантаваў урад, пакуль палаў агонь. Такую рэакцыю ў самы крытычны момант можна зразумець: замак *і ўсе ягоныя каштоўнасці незастрахаваныя*, ніводная страхавая кампанія не пажадала рызыкаваць... Але пасля таго, як пажар скончыўся і страсці крыху аціхлі, узнікла шмат пытанняў. Каму належыць замак? Каралеве альбо дзяржаве? Што за прычыны пажару? (Афіцыйны рэпартаж быў настолькі няўцямны і кароткі, што людзі ўсумніліся ў яго праўдзівасці). Ці застанецца зала Святога Джорджа пасля рэканструкцыі такой, якой і была? Справа ў тым, што «гістарычная» панельная абшыўка і ўпрыгожанні, што загінулі ў агні, адносяцца ўсяго да 20-х гадоў XIX стагоддзя, гэта значыць, амаль сучасныя, у той час, калі кожны ведае ўзрост замка. А адразу ж пасля пажару архітэктары знайшлі выдатныя ўзоры сярэднявечных фрэсак, што раней былі схаваны пад згарэлай абшыўкай. «Сам Бог паслаў нам гэты пажар», — трыумфавалі гісторыкі. «І мы можам ператварыць рэстаўрацыю ва унікальную прынаду для турыстаў», — падтакваў Інгліш Хэрытыдж, урадавы камітэт па ахове старажытных помнікаў архітэктуры, якому, дарэчы, вечна не хапае грошай на сваю справу. Як сведчаць факты, з такой жа брытанскай нядбайнасцю ў 1945-м казалі і пра фашысцкую бамбардзіроўку Лондана — маўляў, надарыўся шанц аднавіць беспадобны выгляд горада да пажару 1666 года. Гэтаксама і зараз мы пачынаем адшукваць прыхаваныя бядой выгоды ці, прынамсі, глядзець аптымістычна на тое, што спачатку здавалася вялікім няшчасцем...

Несумненна, калі-небудзь мы паразумеемся з каралевай. (Хоць, дарэчы, нядаўна праведзенае апытанне грамадскай думкі паказвае: кожны трэці малады чалавек Англіі лічыць, што без манархіі Брытанія «не апынецца ў горшым стане»). Толькі некаторыя з нас, і, можа быць, самыя свядомыя людзі, з'яўляюцца сапраўднымі прыхільнікамі рэспублікі. Любы ж чалавек з вуліцы вам не задумваючыся патлумачыць, што падтрымлівае манархію па адной простай прычыне: прэзідэнцкія выбары абыходзяцца занадта дорага і займаюць шмат часу — «маўляў, паглядзіце на Амерыку», — а багацце і раскоша так ці інакш ідуць ад турыстаў! Магчыма, усё гэта і не зусім так, але словы, накшталт «вернасць» ці «патрыятызм», трэба прызнацца, цяпер не ў модзе. Нашы Віктарыянскія продкі выстаўлялі напаказ любоў і адданасць Радзіме, а біялагічныя парыванні стараліся ўтойваць. Нас жа зусім не бянтэжыць усялякія стрыптыз-шоу і парнаграфія, а вось адкрыта казаць пра любоў да каралевы і краіны нам чамусьці сорамна.

А любоў гэтая, я думаю, яшчэ існуе. Менавіта таму «annus horribilis» засмуціў усіх нас. Мы хочам, каб у нас засталася трыдыцыя манарха. Але якога? Мы хочам бачыць у нашым манарху абаронца кожнага з нас і адначасова сімвал чагосьці вечнага і высокага, сімвал Англіі. Нам патрэбны наш **англійскі манарх, які мог бы з годнасцю прадставіць** нас у Шатландыі, Уэльсе ці якой-небудзь іншай краіне. Нарэшце, мы хочам, каб наш манарх быў заўсёды разам з намі, ні на крок не адставаў ад зменлівага часу і заўжды апраўдваў нашы мары і спадзяванні. Менавіта па гэтай прычыне мы і патрабуем ад каралевы заплаціць падаткі: мы ж пакутуем ад іх, дык хай і каралева зазнае нашу долю, хай возьме, урэшце, прыклад са сваіх бацькоў, што не выракліся нас у час фашысцкай бамбёжкі. Мы патрабуем гэта ад каралевы не з-за нейкай зайздрасці ці помсты, проста падсвядома адчуваем, што разам з ёй нам будзе лягчэй. Выкліканыя «жахлівым годам» дыскусіі наконт патрэбнасці манархіі паказалі, што толькі некаторыя з нас хацелі б яе скасавання. Прычым нават і гэтыя людзі жадаюць хутчэй яе абнаўлення, чым знішчэння, хочуць бачыць манархію свежай і адпаведнай нашаму часу... Наогул жа, каралева і яе папярэднікі не былі б ніколі манархамі, калі б не так званая агульная згода народа. Вось і ўсе цяпершанія цяжкасці каралевы — з падаткамі на маёмасць, з Віндзарскім замкам і нават са шлюбам яе дзяцей — нішто іншае, як вынік гэтае агульнае згоды.

У пачатку 1992-га года Сью Таўнсэнд, адзін з самых цудоўных нашых гумарыстаў і сатырыкаў, натхніўшыся прароцтвамі на гэты год, напісаў кнігу "Каралева і я" , у якой левы ўрад вымушае каралеву Элізабет II і яе сваякоў жыць у маленькім доме ў адным з рабочых кварталаў. На апошніх дзвюх старонках аказваецца, што ўсё гэта было толькі жахлівым сном, пасля якога Яе Вялікасць як звычайна прачынаецца ў Бакінгэмскім палацы... Безумоўна, сярод апошніх гадоў «annus horribilis» застанецца ў нашай памяці годам кашмару — сапраўднага, спраўджанага жыццём...

Між іншым, у лабараторыі судова-медыцынскай экспертызы, што знаходзіцца ў Олдэрмастане (паўгадзіны язды на захад ад Віндзара), эксперты вызначаюць прыналежнасць астанкаў, якія па ўсёй верагоднасці належаць кузену каралевы ў другім калене, Мікалаю Аляксандравічу Раманаву, апошняму расійскаму цару... Absit omen!* Так мне хочацца сказаць. Але ж я не веру ў забабоны! Я не веру!!! Не...

Вітаю цябе, 1993-ці!!!

**Пераклаў Мікола ВІЧ.**

* *Хай не будзе гэта благім знакам! (лац.)*




Заснавальнікі:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**Выходзіць з 1932 года**

**Галоўныя рэдактары:**

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932-35) |
| І.Гурскі | (1935-41) |
| А.Куляшоў | (1945-46) |
| М.Горцаў | (1947-49) |
| П.Кавалёў | (1949-50) |
| В.Вітка | (1951-57) |
| М.Ткачоў | (1957-59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н.Пашкевіч | (1961-69) |
| Л.Прокша | (1969-72) |
| Х.Жычка | (1972-76) |
| А.Асіпенка | (1976-80) |
| А.Жук | (1980-86) |
| А.Вярцінскі | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара -- 33-25-25; адказны сакратар -- 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 11.03.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12